


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

25 ЛЮТАГА 2000г. № 8/4040 КОШТ 65 РУБ.




## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на “ЛіМ” на першае паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **250 рублёў**, на квартал — **750 рублёў**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **760 рублёў**, на квартал — **2 тысячы 280 рублёў**.*

**Наш індэкс — 63856.**

*Учора народнаму паэту Беларусі Рыгору БАРАДУЛІНУ споўнілася 65 гадоў.*
*Матэрыялы, прысвечаныя Рыгору Іванавічу, чытайце на стар. 7—8.*
Фота Віктара ЖЫЛІНА



## КОЛА ДЗЁН

**Вось і канчаецца каляндарная зіма. Колькі розных чутак хадзіла перад яе пачаткам — што будуць вельмі вялікія маразы і завеі, што ў кватэрах будзем мерзнуць, што ў магазінах не будзе ні хлеба, ні масла і г.д. Але, як бачыце самі, усё ж мы перазімавалі, бо не першы год зіма. Акрамя ўсяго, рана ці позна ўсяму прыходзіць канец. І той, хто пра гэта памятае і не сядзіць склаўшы рукі, той перажыве любую зіму. Хутка вясна...**

### УКАЗЫ ТЫДНЯ

18 лютага ў адпаведнасці з пунктам 7 артыкула 84 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прыняў адстаўку прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Сяргея Лінга па яго просьбе. У гэты ж дзень прэзідэнтам быў падпісаны Указ аб назначэнні Уладзіміра Ярмошына выконваючым абавязкі прэм'ер-міністра, вызваліўшы яго ад пасады старшыні Мінскага гарвыканкама і аб узнагароджанні за плённую дзяржаўную і грамадскую дзейнасць Сяргея Лінга ордэнам Пашаны. З назначэннем Ярмошына жыхарам нашай краіны будзе пра што пагаварыць. Ужо кажуць, што в.а. прэм'ер-міністра добра ставіцца да беларускай мовы...

### ПОДПІС ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў Выбарчы кодэкс краіны. Такім чынам у дзяржаве з'явілася новая заканадаўчая база для правядзення ў гэтым годзе парламенцкіх, а ў будучым годзе — прэзідэнцкіх выбараў.

### ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ

На прэс-канферэнцыі ў Мінску, прысвечанай адкрыццю выстаў "СОМВІТ-2000" і "Беларуская кніга-99" у рэспубліканскім выставачным цэнтры "БелЭКСПА" прагучала інфармацыя аб тым, што на беларускай мове летась у нашай краіне выйшла 647 кніг і брашур тыражом 5,1 мільёна экземпляраў, што складае 10,6 працэнта ўсіх выданняў і 8 працэнтаў ад агульнага іх тыражу. У параўнанні з 1998 годам колькасць найменняў беларускамоўных кніг і брашур паменшылася на 19,7 працэнта, а іх тыраж скараціўся на 27,8 працэнта. Словам, інфармацыя для роздуму...

### АБНАДЗЕЙВАННЕ ТЫДНЯ

Пасля аднаго з рэферэндумаў у нашай краіне стала дзве дзяржаўныя мовы. І адразу ж большасць дзяржаўных чыноўнікаў нібыта забыліся, што яны валодаюць беларускай мовай. І цяпер даводзіцца ўспрымаць як рэдкі выпадак тое, што старшыня Канстытуцыйнага суда Беларусі Рыгор Васілевіч на пытанні журналіста падчас адной з прэс-канферэнцый адказаў на чыстай беларускай мове. Пытанне, праўда, і датычылася абароны беларускай мовы ў беларускай жа дзяржаве. Са слоў Рыгора Васілевіча стала вядома, што па ініцыятыве Канстытуцыйнага суда ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях было ўнесена дапаўненне, згодна з якім прадугледжана пакаранне за знявагу беларускай ці рускай мовы. Да ўсяго, па настойлівай рэкамендацыі Канстытуцыйнага суда і ўрада, усе дзяржаўныя ўстановы зараз павінны рыхтаваць бланкі сваіх дакументаў на дзвюх мовах — беларускай і рускай. Дай Бог, каб так было!

### ЗАЦІШША ТЫДНЯ

Часовае зацішша на валютным "фронце" станоўча паўплывала на цэны на Камароўскім рынку сталіцы... На працягу некалькіх апошніх тыдняў шэраг харчовых і прамысловых тавараў не толькі не павялічыўся ў цане, а, наадварот, часам нават патаннеў. Так цана кілаграма рысу знізілася да 350 рублёў, грэцкіх круп — да 550. Не змяніўся кошт цукру — 245 рублёў, проса і гароху — 200 і 235 рублёў адпаведна... Бутэлька імпартнага алею каштуе — 620—640 рублёў, кілаграм макаронных вырабаў — 200-220 рублёў. Істотна патаннеў маянэз мінскай вытворчасці — да 135 рублёў за пачак. Кошт марожанай рыбы цяпер такі: гарбуша — 1100 руб, аргенціна — 1200, скумбрыя — 920-950, мінтай — 970-1000, селядзец — 670-730 рублёў за кілаграм. Словам, пакуль зацішша на валютным "фронце", варта схадзіць на Камароўку і купіць тое-сёе перад 8 Сакавіка.

### СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Нягледзячы на цяжкую эканамічную сітуацыю, нават на войны, ва ўсе часы людзі жаніліся і будуць жаніцца, і да ўсяго шлюбы заключаліся і будуць заключацца не толькі паміж грамадзянамі адной краіны, але і з замежнікамі. Як сведчыць статыстыка, геаграфія паклоннікаў беларускіх жанчын працягвае штогод пашырацца. Так, у 1997 годзе ў Мінску былі заключаны шлюбы з прадстаўнікамі 41 замежнай дзяржавы, у 1998 годзе — з 53, а летась — з 77. Цікава, што беларуска-нямецкія шлюбы заключаюцца ў нас не радзей за беларуска-расійскія: з расіянамі летась былі заключаны 22 шлюбы, а з немцамі — 23. У спісе паклоннікаў мінчанак займаюць лідзіруючае становішча, акрамя Германіі і Расіі, Ліван (21 шлюб), Італія (20 шлюбаў), Афганістан (16), Літва (16), ЗША (15), Італія (15), Сірыя (12), Пакістан (9), Кітай (7). Так што, хлопцы, пільнуйце сваіх дзяўчат!

### КОНКУРС ТЫДНЯ

Жывучы ў вялікім горадзе часам думаецца, што, акрамя людзей, на зямлі больш нічога жывога не існуе. І ўсё ж наша беларуская прырода, нягледзячы ні нашто, багатая на дзічыну. Таму, відаць, і не дарэмна сярод паляўнічых Брэсцкай вобласці абвешчаны конкурс на адстрэл ваўкоў. У кожным раёне створаны камісіі па ацэнцы, маркіроўцы, спісанні і знішчэнні воўчых шкур. Паводле сцвярджэння спецыялістаў, ваўкі сёння ўяўляюць небяспеку не толькі для дзікіх жывёл, але і для калгасных статкаў. Па ўмовах конкурсу, за ваўчаня да чатырох месяцаў выплачваецца ўзнагароджанне ў памеры пяці "мінімалак", за дарослага ваўка — 7, за ваўчыцу з вывадкам — 10. Калі паляўнічы за год заб'е 10 драпежнікаў, ён атрымае прэмію і бясплатную ліцэнзію на адстрэл лася. **Хочацца спадзявацца, што гэты конкурс не ператворыцца ў звычайную бойню ваўкоў.**

### МАХЛЯРСТВА ТЫДНЯ

Відаць, няма ў нашай краіне такога чалавека, які б ні разу не чуў, што верыць цыганкам нельга. Але ўсё роўна хапае людзей, якія трапляюць пад чары гэтых жанчын, якія ведаюць пра тое, што было, што ёсць, што будзе і чым сэрца супакоіцца. І вось у гарадскі аддзел міліцыі Баранавіч звярнуліся дзве маці, дзеці якіх былі падманутыя цыганкай. Паводле іх слоў, гэта адбылося ў другой палове дня каля СШ N 16. Дзве дзесяцікласніцы адгукнуліся на прапанову цыганкі паваражыць. У выніку адна з іх аддала махлярцы 10 долараў і два залатыя пярсцёнкі. Другая школьніца прынесла з дому 10 залатых вырабаў і 3 тысячы 123 долары. У гэты ж дзень у Брэсце ахвярай махляркі стала 70-гадовая пенсіянерка, якая дала цыганцы 1 тысячу 310 долараў для абмену на рублі. Здзіўляе не толькі наіўнасць нашых людзей, але і тое, што ўсё ж, нягледзячы на мізэрныя зарплаты і пенсіі, у некаторых грамадзян нашай краіны ёсць грошы і нават не малыя...

ПАМЯЦЬ

# Вобраз адыходзячай эпохі

Ад творцы ў спадчыну застаюцца яго работы. У вядомага беларускага скульптара Заіра Азгура — іх засталося шмат. Толькі пяць год таму памёр Заір Ісакавіч, а здаецца прайшла цэлая вечнасць. Ён, сцвярджаючы ў сабе асобу мастака і чалавека, пісаў успаміны, разважаў на любыя тэмы, не зважаючы на існуючыя сімпатыі і антыпатыі. У шаноўным узросце стаў членам гаркама партыі, і адным з вельмі нямногіх не збаяўся выступаць на пасяджэннях на беларускай мове. Сябры згадваюць, Заір Азгур быў чалавекам адкрытым і шчырым на знаёмствы, любіў людзей. Нават і мне, яшчэ студэнтцы, разам з сяброўкамі пашчасціла трапіць у ладны чырвоны дом, што на Трактарным завулку (цяпер вуліца імя З. Азгура). Размовы, на жаль, не памятаю, але ўразіў Азгур адкрытасцю ў адносінах да нас, дзяўчат. А найбольш запомнілася майстэрня ў доме, вялікае памяшканне, дзе кожны метр быў запоўнены скульптурамі, а на стэлажах уздоўж сцен шчыльненька стаялі бюсты.



Другі раз гэтую унікальную майстэрню мне давялося наведаць толькі цяпер, калі там роўна праз пяць год пасля смерці скульптара 18 лютага ўрачыста адкрыўся мемарыяльны музей народнага мастака СССР, Героя Сацыялістычнай Працы Заіра Азгура. Пасля яго смерці са згоды і пры шчырай падтрымцы сям'і, у адпаведнасці з указам Прэзідэнта ад 4 студзеня 1996 г. быў створаны гэты музей як філіял Нацыянальнага мастацкага музея. Зрэшты, падчас будаўніцтва майстэрні ў 1984 г. (дарэчы, дзякуючы П. Машэраву, земляку З. Азгура) архітэктар В. Аладаў разам з мастаком задумвалі яе адразу як будучы мемарыял. Мемарыяльных музеяў у нашай краіне некалькі: Бялыніцкага-Бірулі, Бембеля, Драздовіча, цяпер Азгура, ёсць і галерэя Масленікава. Але музей такога маштабу — першы і, думаецца, надоўга азначае.

Заір Азгур стварыў сапраўдны помнік адыходзячаму XX стагоддзю. У музеі захоўваецца 420 скульптурных твораў. Адкрыта і мемарыяльная зала — аўтабіяграфічная частка экспазіцыі, дзе захоўваюцца дакументы і фотаздымкі, узнагароды, граматы, партрэты бацькоў скульптара, яго самога і другой жонкі-мастачкі...

Супрацоўнікі музея спадзяюцца, што музеі застанецца ўтульным і гасцінным домам, жывым асяродкам, месцам сустрэч розных творчых людзей, як гэта і было пры жыцці Заіра Азгура.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ,**

*Фота А. ПРУПАСА.*

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Пачалася падрыхтоўка да семінара маладых паэтаў, празаікаў і крытыкаў, які пройдзе сёлета ў сталічным Доме літаратара ў канцы сакавіка. Праводзіць яго творчаму саюзу дапамагае Дзяржкамдрук і Камітэт па справах моладзі. У праграме семінара — кваліфікаваныя кансультацыі вядомых майстроў пяра, работа творчых секцый, сустрэча з галоўнымі рэдактарамі літаратурна-мастацкіх выданняў, выступленне перад аматарамі паэзіі Мінска. На семінар плануецца запрасіць каля 50 юных літаратараў з гарадоў і раёнаў Беларусі, якія робяць самыя першыя крокі ў творчасці.

●

Чарговае пасяджэнне секцыі мастацкага перакладу было прысвечана галоўным чынам рабоце з маладымі перакладчыкамі і падрыхтоўцы да літаратурнага свята "Літэкспрэс-2000". Акрамя гэтых пытанняў, на пасяджэнні абмяркоўвалі падрыхтаваны для "Беларускага кнігазбору" 2-томнік беларускай паэзіі XIX—XX стагоддзяў у перакладах Г. Рымскага, а таксама адбыўся абмен думкамі адносна хрэстаматыі па замежнай літаратуры, якую ўклаў і для якой зрабіў шэраг перакладаў Лявон Баршчэўскі.

У пасяджэнні прынялі ўдзел пісьменнікі Іван Чарота, Уладзімір Казбярук, Сяргей Панізнік, Юген Каршукоў, Міхась Кенька, Уладзімір Папковіч. Была выказана прапанова, каб разам з Дзяржаўным камітэтам па друку РБ правесці конкурс маладых перакладчыкаў на лепшы пераклад са славянскай паэзіі.

●

Вечарына, прысвечаная ўручэнню літаратурных прэмій імя А. Куляшова, І. Мележа, Я. Маўра і У. Калесніка адбылася ў вялікай зале Дома літаратара. Гучалі творы новых лаўрэатаў — Максіма Лужаніна, Леаніда Левановіча, Авяр'яна Дзяружынскага, Сяргея Панізніка. Пра іх творчасць расказвалі крытыкі і літаратуразнаўцы А. Мальдзіс, Д. Бугаёў, А. Рагуля, Т. Дасаева, М. Яфімава і іншыя. У вечарыне прынялі ўдзел кампазітар А. Чыркун, артыстка Г. Дзягілева, рэжысёр М. Макарцоў і бард Э. Акулін.

В.а. старшыні Саюза пісьменнікаў В. Іпатава ўручыла лаўрэатам дыпломы.

Вёў вечарыну Навум Гальпяровіч.

●

Шэраг мерапрыемстваў, у якіх прымуць удзел беларускія пісьменнікі, пройдзе на радзіме Кузьмы Чорнага ў Капыльскім раёне. Як вядома, менавіта Саюз пісьменнікаў выступіў з прапановай шырока адзначыць 100-годдзе класіка беларускай літаратуры. У адказ на гэтую прапанову прыйшоў ліст з праграмай святкавання за подпісам старшыні райвыканкама В. Уласевіча. У ёй прадугледжаны ўстаноўка каменя-валуна з мемарыяльнай дошкай у вёсцы Лапацічы і мемарыяльнай дошкі на хаце пісьменніка ў Капылі, а таксама правядзення раённага агляду-конкурсу сельскай мастацкай самадзейнасці, конкурсаў на лепшы малюнак, сачыненне і г.д., прысвечаных 100-годдзю земляка.

Мерапрыемствы, прысвечаныя 100-годдзю Кузьмы Чорнага запланавана правесці таксама ў сталіцы, абласным цэнтры, ва ўстановах культуры і навучальных установах Беларусі.

**Н. К.**

СЕМІНАРЫ

# Хобі, якому няма цаны

Баранавіцкая дзіцячая турысцкая база, насуперак прынцыпу "Усё лепшае — дзецям", размешчана ў першым цагляным будынку горада; яму ўжо 129 год. На базе названай базы (даруйце за таўталогію) і адбыўся семінар кіраўнікоў літаратурных музеяў, арганізаваны Рэспубліканскім цэнтрам дзіцячага турызму і экскурсій. Цэнтр апякуецца краязнаўчай і музейнай справай навучальна-выхаваўчых устаноў і рэгулярна праводзіць такога роду семінары.

Ранейшыя праходзілі ў сталіцы. На гэты раз гасцей прымалі Баранавічы — СШ N 14 і яе зычлівы дырэктар Мікалай Руды. З увагай паставіліся да мерапрыемства гарадскі аддзел народнай адукацыі і Аб'яднанне дзяржаўных літаратурных музеяў. Дырэктар аб'яднання, прэзідэнт Беларускага камітэта Міжнароднага савета музеяў "ІСОМ" Л. Хадкевіч знайшоў час выступіць перад музейшчыкамі-аматарамі, разумеючы "спецыфіку" іх работы і непазбежныя праблемы.

Цяжка пераацаніць значэнне добрага музея ў навучальнай установе. Ён становіцца культурным і духоўным асяродкам школы, своеасаблівым клубам, цэнтрам выхаваўчай работы, развівае творчыя здольнасці навучэнцаў, садзейнічае фарміраванню нацыянальнай свядомасці, беражлівым адносінам да помнікаў гісторыі, культуры, прыроды.

Паколькі названы семінар праводзіцца не ўпершыню, то асобныя яго формы і метады ўжо ўсталяваліся, бачны як плюсы, так і мінусы метадычнай і арганізацыйнай работы. Лічбы сведчаць, што літаратурных музеяў у школах, дзіцячых дамах, пазашкольных установах, ПТВ да крыўднага мала. З 1155 аматарскіх музеяў рэспублікі —

гісторыка-краязнаўчых — 587,
вайсковай славы — 262,
этнаграфічных — 165,
літаратурных — 41,
прыродазнаўчых — 21,
мемарыяльных — 19,
іншых — 60.

Калі параўнаць літаратурную карту Беларусі, дзе адзначаны мясціны нараджэння пісьменнікаў, з картай школьных літаратурных музеяў, то першая будзе непараўнана багацейшай. Найбольш музеяў у Мінскай вобласці, найменш — у Мінску. У дакладзе загадчыка краязнаўчага аддзела цэнтра У. Сергіені ў станоўчым сэнсе названы музеі Багушэвіча ў Жупранах, Коласа ў Люсіна, "Музей слова" Нізокскай базавай школы, Ігната Буйніцкага Празорацкай СШ, літаратуры ў СШ N 1 Лагойска. Рэдкім выпадкам у практыцы стала наданне школьнаму музею імя Язэпа Драздовіча ў Германавічах (Шаркоўшчынскі р-н) статуса дзяржаўнага. Народны музей Кузьмы Чорнага ў Цімкавічах таксама стаў філіялам музея гісторыі беларускай літаратуры. "Свае" музеі ёсць

АНОНС

# Рыцар оперы

***Заўтрашні вечар Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы прысвячае свайму дырэктару, народнаму артысту Беларусі Сяргею КАРТЭСУ***

Без малога дзесятак гадоў таму яго прызначылі кіраўніком ці не самага складанага, загадкавага і капрызлівага творчага калектыву. Такога не чакаў ніхто: кампазітар, мяккая інтэлігентная натура, мастацкая індывідуальнасць — і адміністратарскае крэсла ў тэатры, які "з'ядаў" нават асоб з ваяўнічым характарам і аўтарытарным норавам?! Прадракалі: дырэктарства Сяргея Картэса не будзе доўгім. І — памыліліся! У тэатр прыйшоў чалавек са свежымі творчымі ідэямі. Закаханы ў оперу, апантаны гэтым жанрам і дасведчаны ў яго законах. Пры новым кіраўніцтве пашырыліся і ўмацаваліся міжнародныя кантакты нашага Нацыянальнага тэатра оперы. Пры гэтым кіраўніцтве здарылася, здавалася б, неверагоднае: мінская публіка пачала хадзіць не толькі на балет, а і на оперныя спектаклі, стваральнікі ды ўдзельнікі якіх успомнілі, што значыць "аншлаг"...

Але для многіх і многіх Сяргей Картэс перш за ўсё — кампазітар. На так званыя застойныя гады прыпаў час росквіту яго творчасці, з'явіліся "любімыя дзеці" — оперы "Джардана Бруна", "Матухна Кураж", балет "Апошні з інкаў", пастаўленыя на розных сцэнах былога СССР... А колькі было створана іншай музыкі: камерна-інструментальнай і вакальна-сімфанічнай, для кіно і драматычнай сцэны!

Ён — кампазітар, і справы дырэктарскія не перашкодзілі завяршыць працу над операй "Візіт Дамы", якая выклікала цікавасць публікі, была падтрымана крытыкай і ўвайшла ў рэпертуарны актыў тэатра.

Галоўнай гераіняй заўтрашняй творчай вечарыны С. Картэса будзе яго музыка, урыўкі з опер. Вядома, апроч канцэртнай праграмы, плануецца ўрачыстая віншавальная цырымонія, бо Сяргею Картэсу роўна тыдзень таму споўнілася 65, а на пачатку сезона ён атрымаў званне народнага артыста. Але якімі б добрымі ды шчырымі словамі ні ганаравалі госці суботняй тэатральнай вечарыны віноўніка ўрачыстасці, даражэй за ўсё для яго — гучанне ўласнай музыкі. Яе ў жывым выкананні пачуеш сёння не часта. Тым больш, у аркестры пад кіраўніцтвам знанага і няўлоўнага маэстра Аляксандра Анісімава...



**С. Б.**

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

КАНЦЭРТЫ

# Гучала ўпершыню...

Канцэрт прэм'ер адбыўся ў Вялікай зале сталічнай філармоніі. Яго праграму падрыхтаваў Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, якім дырыжыраваў прафесар Акадэміі музыкі Аркадзь Берын. Упершыню ў Мінску прагучала і Чацвёртая сімфонія дацкага кампазітара Карла Нільсена "Нязгасная", і Адажыо для віяланчэлі, аркестра ды арфы нямецкага кампазітара Макса Бруха (сола на віяланчэлі — Алег Алоўнікаў), і канцэрт ля мінор для фартэпіяна з аркестрам Клары Шуман — знанай нямецкай піяністкі, педагога, жонкі выдатнага кампазітара-рамантыка. Выканала з аркестрам гэты малавядомы твор нямецкая піяністка Кармэн Даніэле. У праграме канцэрта была таксама музыка Фелікса Мендэльсона-Бартольдзі — уверцюра "Гебрыды, ці Фінгалава пячора" і адзіны вядомы твор сястры Фелікса Мендэльсона — Фанні — Уверцюра до мажор.

Сама праграма гэтага канцэртнага вечара выклікала цікавасць у слухачоў. Аркестр пад кіраўніцтвам А. Берына гучаў ярка, выразна. Вядома, што гэты дырыжор выступае з аркестрамі розных краін Еўропы; ён — арганізатар знанага Мінскага аркестра духавых інструментаў "Няміга"; стварыў і ўзначальвае студэнцкі калектыў "Фанфары Беларусі".

Канцэрт адбыўся дзякуючы спонсарскай падтрымцы Пасольства Германіі ў Беларусі.

**Вера КРОЗ**

ВЫСТАВЫ

# Сваё і чужое

Яшчэ на памяці ў прыхільнікаў прыгожага пісьменства нядаўняя Рэспубліканская выстаўка "Беларуская кніга-99", а ў аўторак у сталіцы нашай краіны гасцінна расчыніла свае дзверы новая — VII Міжнародная выстаўка кнігі. Гэтым разам у Палацы мастацтваў. Арганізатарам яе выступіла перш-наперш фірма "Макбел". У экспазіцыі былі прадстаўлены лепшыя кнігі, выпушчаныя ўсімі вядучымі расійскімі выдавецтвамі, а таксама беларускімі. Галоўная задача, што стаяла перад ёй, — оптавы гандаль. Праўда, многія выдавецтвы наладзілі і розніцу. І гэтым паспяшаліся пакарыстацца аматары кнігі, бо набыць патрэбную літаратуру можна было значна танней, чым у магазінах, пакольку на яе кошце не сказваліся гандлёвыя надбаўкі. Па традыцыі праводзіліся і прэзентацыі асобных выданняў — з удзелам аўтараў, выдаўцоў, пісьменнікаў.

**Н. К.**

ФЕСТЫВАЛІ

# Піяністы збіраюцца...

Як праінфармавала нас Міністэрства культуры Беларусі, Магілёў рыхтуецца да правядзення II Адкрытага фестывалю фартэпіяннай музыкі. Яго праграмай прадугледжана правядзенне конкурсных праслухоўванняў юных піяністаў — навучэнцаў сярэдніх спецыяльных устаноў культуры і мастацтва нашай краіны, а таксама Расіі ды Летувы. Плануюцца майстаркласы і, вядома ж, разнастайныя канцэрты з удзелам лепшых музыкантаў, лаўрэатаў міжнародных конкурсаў, стыпендыятаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі.

Фестываль пройдзе ў Магілёве з 1 па 5 сакавіка. Тым часам Мінск актыўна рыхтуецца прыняць удзельнікаў і гасцей буйнога спаборніцтва піяністаў — II Міжнароднага конкурсу "Фартэпіяна. Мінск-2000", які мае адбыцца ў красавіку.

Купалы (Сенніца), Макаёнка (Журавічы), Броўкі і паэтаў Ушаччыны, Лынькова, Цёткі, Маўра, Янішчыц, паэтаў Салігоршчыны. Пашанцавала Міхасю Рудкоўскаму (Ганцавіцкі раён) і паэту-самародку Міколу Засіму (Пружаншчына). Да аднаго вялікага юбілею наспех павешана некалькі фотастэндаў "Пушкін і Беларусь", якія таксама паспяшалі абвясціць музеямі. З такім жа поспехам, як нехта пажартаваў, можна прысвячаць экспазіцыі Шэкспіру і Тагору...

Трэба адзначыць, што літаратурныя раздзелы маюцца ў некаторых краязнаўчых і гісторыка-этнаграфічных музеях, складзеных па прынцыпе "ўсяго патрошку". Гэты ж прынцып, падобна, лёг у аснову першага, тэарэтычнага дня семінара. Адна з яго ўдзельніц, згодна з праграмай, расказвала пра музей баявой славы, другая — пра дзейнасць музеяў Брэсцкай вобласці. Склалася ўражанне, што па **літаратурных** музеях ніхто спецыяльна не рыхтаваўся. Ды і сярод удзельнікаў больш было "адказных за музеі", чым іх непасрэдных стваральнікаў; многія прыста не прыехалі. "Настроілася на прахадное мерапрыемства", — прызнаецца Бернарда Пятроўна Іванова, намеснік дырэктара этнашколы ў Сенніцы — эксперыментальнай педагагічнай пляцоўкі Нацыянальнага інстытута адукацыі. Два наступныя дні семінара, на шчасце, былі жывейшымі і прынеслі болей карысці.

У 4-ай баранавіцкай школе госці паглядзелі невялічкую экспазіцыю ў гонар Валянціна Таўлая (кіраўнік — А. Яхант). Паэту прысвечаны гарэльеф работы Свістуновіча. Уражвае габелен таго ж мастака з партрэтамі паўстанцаў 1863 года. Музей, які працуе з 80-га года, прадстаўлены на званне народнага. Сёмы клас, дзе класная кіраўніца — матэматык, у рамках літаратурнай гасцёўні паказаў абрад радзінаў, для рускамоўнай школы, па водгуках, вельмі неблагі.

З цікавасцю азнаёміліся ўдзельнікі семінара са школай і музеем вёскі Крошын, пабывалі на магіле паэта-самародка. Багрымава трох'ярусная жырандоля з кветкамі і жаўрукамі ўпрыгожвае маленечкі небагаты касцёл. У музеі прадстаўлены два фрагменты агароджы, выкаванай Паўлюком. Дырэктар школы Л. Скрыбук расказала пра вучнёўскую суполку імя паэта, пра формы і метады выхаваўчай работы.

Стваральнікі школьных экспазіцый абмяняліся вопытам. Усе яны атрымалі новае палажэнне "Аб музеі навучальна-выхаваўчай установы", падпісанае намеснікам міністра культуры В. Гедройцам. Там, у прыватнасці, падкрэслена, што "помнікі гісторыі, культуры і прыроды, якія размешчаны ў фондах музеяў, з'яўляюцца агульнанацыянальнай уласнасцю".

"Школьныя музеі, па сутнасці, хобі — праца, якая не аплочваецца", — зазначыў дырэктар цэнтра-арганізатара Сяргей Мітраховіч. Дададзь да гэтага можна толькі адно: гэта хобі, якому няма цаны. Таму варта выказаць словы ўдзячнасці Галоўнаму ўпраўленню сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі, якое не выпускае з поля зроку і гэты кірунак дзейнасці.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

АБСЯГІ

## МАГІЛЁЎШЧЫНА...

### Адкрыўся салон

У Магілёўскім універсітэце імя Аркадзя Куляшова пачаў працаваць літаратурна-мастацкі салон. Яго стваральнікі, выкладчыкі Алена Бубянцова і Сяргей Сомаў, вырашылі адрадзіць колішнія салонныя традыцыі. Менавіта тут і выкладчыкі, і студэнты дзеляцца ўражаннямі аб прачытаных кнігах, убачаных спектаклях, карцінах, кінастужках. А каб творчыя сустрэчы праходзілі ва ўтульнай абстаноўцы, арганізатары салона самі аднавілі і пераабсталявалі адно з універсітэцкіх памяшканняў. Дапамагалі і студэнты. А прафесійны фотамастак Аляксандр Ліцін прэзентаваў салону некалькі сваіх работ.

### Першы зборнік

У Горках убачыў свет зборнік вершаў мясцовага паэта Льва Васільева. Пісаць вершы ён пачаў даўно, друкаваўся ў розных перыядычных выданнях, і ўрэшце з'явілася першая кніжка. У яе ўвайшлі вершы пра мілыя сэрцу куткі Беларусі, пра блізкіх людзей і сяброў, пра каханне...

### Сямейная творчасць

У Бабруйскай выставачнай зале адкрылася незвычайная экспазіцыя. На ёй прадстаўлены работы, створаныя выхаванцамі сямейнага дзіцячага дома Сянцовых. Адзінаццаць хлопчыкаў і дзяўчынак, большасць з якіх вучыцца ў мясцовай школе-каледжы мастацтваў, амаль за год падрыхтавалі выставу творчых работ, выкананых у самай рознай мастацкай тэхніцы. Раскрыццю творчых здольнасцей дзяцей дапамагла мастак Ала Кірылава.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## ВІЦЕБШЧЫНА...

### Мальберт — у дзень нараджэння

Віцебская дзіцячая мастацкая школа N 1, якую ўзначальвае Міхась Клименка, адзначыла свой дваццацігадовы юбілей. За гэты час школу закончыла 650 выпускнікоў, якія працягнулі вучобу ў Рэпінскім, Сурыкаўскім інстытутах, у Беларускай акадэміі мастацтваў, у Віцебскім дзяржаўным універсітэце. Да юбілею юныя мастакі падрыхтавалі выставу. Цэнтральнае месца на ёй заняў своеасаблівы мальберт — менавіта на ім выпускнікі школы-юбіляра стварылі ў дзень вернісажу адмысловую карціну.

Юбілейная экспазіцыя будзе паказана ў Галандыі, дзе таксама ведаюць творчасць віцебскіх школьнікаў.

**Святлана ГУК**

## ГОМЕЛЬШЧЫНА...

### Свята харавой музыкі

У Гомельскім музычным каледжы імя Н. Сакалоўскага прайшла VI "Пеучая акадэмія" на тэму "Музычная культура Беларусі на рубяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў". Канцэрты харавога мастацтва праходзілі на працягу трох дзён. У іх прымалі ўдзел Дзяржаўны акадэмічны народны хор Беларусі імя Г. Цітовіча (мастацкі кіраўнік — народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, прафесар Міхась Дрынеўскі), зводны хор выкладчыкаў музычных вучылішчаў Міністэрства культуры пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Віктара Роўды, народны хор Гомельскага музычнага каледжа, Акадэмічны хор Бранскага музычнага вучылішча... У рамках пеўчай акадэміі прайшлі творчыя дыскусіі, навуковая канферэнцыя, адкрытыя ўрокі.

### "Салют, перамога!"

Да 55-годдзя перамогі над фашысцкай Германіяй абласное аддзяленне Беларускага фонду міру разам з абласнымі саветамі ветэранаў і Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыяй, Палацам творчасці дзяцей і моладзі аб'явілі акцыю "Салют, перамога! Салют, мір!" Створаны арганізацыйны камітэт. Сярод мерапрыемстваў — сустрэчы з ветэранамі вайны, добраўпарадкаванне помнікаў, арганізацыя канцэртаў, актывізацыя музейнай дзейнасці.

### Мастак з Рэчыцы

Споўнілася 60 гадоў рэчыцкаму мастаку Віктару Буславу. Жывапісам займаецца прафесійна — скончыў Віцебскае мастацкае вучылішча і мастацка-графічнае аддзяленне Віцебскага педінстытута. Стварыў цэлую серыю палотнаў, у якіх па-майстэрску адлюстраваў прыгажосць Прыдняпроўя. У Рэчыцкай выставачнай зале адкрылася персанальная выстава яго работ.

### "Кветкі і плады"

Мастацкі аддзел абласнога краязнаўчага музея экспануе карціну Івана Хруцкага "Кветкі і плады" з калекцыі Віцебскага мастацкага музея. Нарадзіўся вядомы жывапісец 190 год таму, зрабіў вялікі ўнёсак у развіццё беларускай і рускай культуры. Экспазіцыя адной карціны зрабілася ўжо традыцыйнай для абласнога краязнаўчага музея. Менавіта яна дае цудоўную магчымасць зрабіць дакладны аналіз пэўнай работы, найбольш поўна расказаць пра жыццё і творчасць таго ці іншага аўтара.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## БРЭСТЧЫНА...

### Адданыя роднай мове

Баранавіцкае гарадское аддзяленне Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны ўрачыста адзначыла сваё дзесяцігоддзе — аглядам набыткаў, багатым кніжным кірмашом, конкурсам сярод вучняў беларускамоўных класаў, выступленнямі фальклорнага гурта "Фэст" і вядомага барда з Гродна Віктара Шалкевіча. Баранавіцкіх сяброў ТБМ цёпла павіншаваў з юбілеем старшыня Рэспубліканскай рады таварыства Алег Трусаў. Многія актывісты атрымалі ўзнагароды. Сярод іх і старшыня гарадскога аддзялення ТБМ гісторык Віктар Сырыца.

### Настаўнік і яго вучні

Камянецкая раённая бібліятэка стала наладжваць мастацкія выставы сваіх землякоў. Сярод іх — такія вядомыя жывапісцы, як Мікола Маеўскі, Васіль Сабалеўскі і іншыя. Дапамагае бібліятэкарам адзін са старэйшых настаўнікаў на Камянеччыне, кіраўнік школьнай студыі выяўленчага мастацтва Змітцер Дошчык.

Нядаўна адкрылася чарговая экспазіцыя, афармленая педагогам і двума яго вучнямі, ужо вядомымі мастакамі — Анатолем Туравым і Уладзімірам Чыквіным. Усе трое шмат увагі надаюць тэме роднай зямлі, увасобленай у жывапісных і акварэльных пейзажах, малюнках алоўкам і ў драўлянай скульптуры. Дамінуюць на выставе краявіды Камянецкай і Белавежскай пушчаў.

**Сымон АКСЕНІН**



ЧАСАПІС

## Пад сімвалам "Благо"

**Міжнародныя Кірыла-Мяфодзіеўскія Чытанні з 1998 года сталі сумесным мерапрыемствам для Беларускага універсітэта культуры і Факультэта тэалогіі імя свсв. Мяфодзія і Кірылы Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта.**

**Неабходнасць дыялога паміж культурай і рэлігіяй, свецкай і багаслоўскай адукацыяй адчуваецца многімі навукоўцамі і святарамі, студэнтамі і выкладчыкамі з Беларусі, Балгарыі, Польшчы, Расіі, Латвіі, Германіі, Канады і іншых краін, якія прымаюць удзел у чытаннях. Дабратворнай асновай такіх сустрэч служыць менавіта свята славянскага пісьменства і культуры, якое традыцыйна 24—26 мая збірае для размовы і паразумення людзей розных поглядаў і канфесій, упэўненых у вялікай патрэбе сумеснай справы.**

**Так, у адкрыцці мінулагодніх V Кірыла-Мяфодзіеўскіх Чытанняў прынялі ўдзел Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усея Беларусі Філарэт, дэкан факультэта тэалогіі, Апостальскі Нунцый у Беларусі Дамінік Грушэўскі, міністр адукацыі В. Стражаў, рэктар Беларускага універсітэта культуры Я. Грыгаровіч, дырэктар Польскага інстытута Т. Нягодзіш.**

**Як на факультэце тэалогіі, так і ва універсітэце культуры праходзілі пленарныя пасяджэнні з удзелам прафесара Сафійскага універсітэта Івана Дзенёва, прафесара Рыжскага дзяржаўнага універсітэта Леона Тайвана, прафесара Шэрбрукскага універсітэта з Канады Дарыуса Валевічуса, прафесара Экуменічнага інстытута з Мюнстэра ў Германіі Томаса Брэмера, прафесара Варшаўскага універсітэта Богдана Цывіньскага, прафесара з Інстытута ўсходазнаўства Расійскай акадэміі навук Андрэя Зубава, пасла Рэспублікі Польшча ў Беларусі Марыуша Машкевіча.**

**Пытанні, якія закраналіся навукоўцамі, грунтаваліся вакол тэмы працягу і развіцця хрысціянскай асветнай і духоўнай традыцыі, хрысціянскага асэнсавання гісторыі, змены культурнай парадыгмы хрысціянства на мяжы 21 стагоддзя. V Кірыла-Мяфодзіеўскія Чытанні актуалізавалі пытанні супрацоўніцтва свецкай і багаслоўскай адукацыі ў сучасным грамадстве, экуменістычнага дыялога паміж праваслаўем і каталіцызмам.**

**Праца Чытанняў была арганізавана па сямі секцыях, дзве з якіх, а таксама "Студэнцкія Чытанні" праходзілі на факультэце тэалогіі ЕГУ, пяць — працавала ва універсітэце культуры. Традыцыйна пад канец Чытанняў быў арганізаваны "круглы стол" па тэме "Міжканфесійны дыялог напярэдадні 2000-годдзя Хрысціянства".**

**З друку ўжо выйшлі матэрыялы Кірыла-Мяфодзіеўскіх Чытанняў 1997 года, а таксама IV Міжнародных Кірыла-Мяфодзіеўскіх Чытанняў 1998-га (у 2-х частках), рыхтуецца да друку зборнік 1999 года V Міжнародных Кірыла-Мяфодзіеўскіх Чытанняў (плануецца ў 2-х частках).**

**24—26 мая 2000 года Міністэрства культуры Беларусі, Беларускі універсітэт культуры, факультэт тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, МГА "Хрысціянскі адукацыйны цэнтр імя свсв. Мяфодзія і Кірылы" арганізуюць чарговыя VI Міжнародныя Кірыла-Мяфодзіеўскія Чытанні "Праблемы хрысціянскага адзінства і хрысціянскага сведчання на парозе III тысячагоддзя". Плануюцца наступныя секцыі: "Праблемы багаслоўскіх і царкоўна-гістарычных даследаванняў", "Рэлігійная філасофія: гісторыя і сучаснасць", "Багаслоўская і рэлігійная адукацыя ў сучасным грамадстве", "Кірыла-Мяфодзіеўская традыцыя ў духоўнай і кніжнай культуры славянскіх народаў". На гэты раз тэмай "круглага стала" прапануецца "Місія Царквы ў сучасным свеце".**

**На мэце Кірыла-Мяфодзіеўскіх Чытанняў — узаемаразуменне, тварэнне дабра, пад сімвалам якога і праходзяць Дні славянскага пісьменства і культуры. Свет духоўнасці, свет слова, свет любові адкрыты для ўсіх.**

**Лора ДОЎНАР**

## Ёсць на фабрыцы мастак...



**Керамічныя распрацоўкі мастака Мазырскай фабрыкі мастацкіх вырабаў Міхаіла Васькоўскага заўсёды вылучаліся нацыянальным каларытам. У тым жа традыцыйным стылі выкананы і апошнія яго работы да 30-годдзя прадпрыемства.**

*На здымку: мастак па кераміцы Міхаіл ВАСЬКОЎСКІ за работай.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

НАДЗЁННАЕ

# Бюджэтныя ін'екцыі ў культуру

Апошнім часам усё больш і больш праяўляецца цікавасць да вытокаў народнай творчасці, абуджаецца жаданне ажывіць старажытныя промыслы і рамёствы, аднавіць былыя абрады, вярнуць народу гістарычную памяць, раскатурхаць пачуццё нацыянальнай самасвядомасці. Але ж у такой справе адных высакародных памкненняў мала, іх абавязкова трэба падтрымаць матэрыяльна. Гэта сёння стала жыццёвай аксіёмай.

Адразу ўзнікае спрадвечнае пытанне: дзе ж узяць грошы на ажыццяўленне такіх важных, значных і неабходных задумак? Гадоў з пятнаццаць ці дваццаць назад атрымаць пэўную суму з казны было намнога прасцей, чым цяпер. У тыя часы — што: паўстань перад высокім начальнікам у ролі Цыцэрона, акрапі просьбу слязой безвыходнай бядотнасці і — калі патрапіў на добры настрой патрона ці знаходзішся ў нейкім фаворы, — то і пакінеш кабінет з цвёрдым абяцаннем атрымаць жаданае. Тым болей, што раней не надта пільна і прыдзірліва сачылі за расходаваннем выдзеленых асігнаванняў.

Сёння ж галоўным у здабыванні грошай служыць лагічны доказ **неабходнасці** фінансавай падтрымкі таго ці іншага праекта.

Каб надаць праблемам народнай культуры больш маштабную зацікаўленасць, упраўленне культуры Мінскай вобласці сумесна з роднаснымі аддзеламі райгарвыканкамаў і некаторымі ўстановамі культуры абласнога падпарадкавання яшчэ ў 1994 годзе распрацавала 29 рэгіянальных доўгатэрміновых мэтавых праграм. Да пачатку 2000 года завершана 13 з іх, а над астатнімі вядзецца работа. Такім чынам, за мінулыя шэсць гадоў па праграмах працавалі 15 раёнаў Міншчыны (з 22-х) і 5 гарадоў. Мяркуецца, што ў бягучым годзе ў вобласці будуць дзейнічаць 20 мэтавых праграм, у тым ліку і 5 новых, якія распрацаваны для Валожынскага, Нясвіжскага, Салігорскага, Слуцкага, Уздзенскага раёнаў.

У чым жа сутнасць памянёных праграм? Яны ствараюцца для падтрымкі самабытнай культуры **сваіх** раёнаў райаддзеламі культуры, каб як мага хутчэй аднавіць (пакуль яшчэ не позна, пакуль не страчана ўсё дазвання!) і паўней выкарыстоўваць надзвычай своеасаблівыя народныя традыцыі, захаваць і развіваць аўтэнтычную творчасць, традыцыйнае мастацтва, перадаваць гэту найкаштоўнейшую спадчыну дзецям. Калі праграма ўхвалена ў адпаведных інстанцыях, яна зацвярджаецца разам з каштарысам, прадугледжаным на яе ажыццяўленне.

У выніку з абласнога і мясцовых бюджэтаў штоквартальна праводзіцца фінансаванне праграмы з абавязковай справаздачай раённых і гарадскіх аддзелаў культуры аб выкарыстанні выдзеленых сродкаў. Людзі пачынаюць вучыцца і прывыкаць да таго, каб ашчадна траціць не толькі "кроўную", але і дзяржаўную капейку.

Усё гэта дало свой плён. На працягу 1997—1999 гадоў за выдзеленыя грошы ўдалося стварыць раённыя цэнтры рамёстваў у Лагойску, Старых Дарогах, в. Красоўшчына Маладзечанскага, г. п. Крывічы Мядзельскага раёнаў, на базе сельскіх устаноў культуры ў Бярэзінскім (вв. Дулебы і Любушаны), Клецкім (в. Морач), Слуцкім (в. Квасынічы) раёнах, а таксама цэнтр рамёстваў на базе абласнога музея Ф. Дзяржынскага ў г. п. Івянец Валожынскага раёна.

Укараненне рэгіянальных праграм садзейнічала ўмацаванню матэрыяльна-тэхнічнай базы ў многіх установах, як, напрыклад, у раённым цэнтры рамёстваў в. Ізбіно і яго філіялах, доме майстроў в. Каловічы, народным доме В. Талуць Вілейскага, творчых майстэрнях пры Жажэлкаўскім, Барсукоўскім СДК Смалявіцкага раёнаў і г. д.

Дзякуючы пастаянным клопатам зацікаўленых устаноў значна папоўнілася матэрыяльная база і палепшыліся ўмовы працы разматых падраздзяленняў культуры, і найперш дзіцячых, размешчаных у Бярэзінскім, Вілейскім, Капыльскім, Клецкім, Любанскім, Смалявіцкім, Старадарожскім і Уздзенскім раёнах.

За гэты час распачалася дзейнасць каля 30 творчых майстэрань, якія размясціліся ў спецыяльна абсталяваных асобных памяшканнях і шырока раскрылі свае дзверы для аматараў народных рамёстваў.

Падкрэсліваю: праграмы падтрымліваліся з абласнога і мясцовых бюджэтаў. Так, у 1999 годзе, абласны бюджэт падтрымаў 18 мэтавых праграм, але найбольшыя паступленні былі з мясцовага бюджэту. У 1998—1999 гадах у Смалявіцкім раёне атрымана з вышэйназначаных крыніц 635 млн. руб., Клецкім — 393, Уздзенскім — 310, Бярэзінскім раёнах — 308 млн. руб.

Скажам, на праграму "Моладзь і культура" ў мінулым годзе адпаведным установам г. Слуцка агульны аб'ём інвестыцый склаў 13841 млн. руб., а на праграму Маладзечанскага раёна — 3268 млн. руб.

Але ж не ўсім і не заўсёды ўдаецца знайсці неабходныя сродкі на ажыццяўленне праграм. Так, з-за недахопу грошай не да канца абсталяваны Дулебскі дом рамёстваў, выставачная зала Любушанскага цэнтра традыцыйнай культуры (Бярэзінскага раёна).

Часам непрадбачаныя перашкоды ўзнікаюць там, дзе яны наогул не павінны ўзнікаць. Каб адкрыць у Івянцы пры цэнтры рамёстваў абласнога музея Ф. Дзяржынскага майстэрню разьбы па дрэве, кузню і музей мястэчковага побыту, патрабуюцца не толькі фінансы. Неабходна як мага хутчэй развязаць канфліктны вузел, які зацiскаецца на горле праблемы з перадачай на баланс музея ўсяго таго, што пакуль яшчэ засталося ад былога сядзібна-паркавага комплексу XIX—XX стст.

Здаецца ж, і справа не надта складаная, і грошай ні капейкі не патрабуе, а на яе вырашэнне затрачана столькі часу, што наўрад ці знойдзецца ўсёй гэтай канцылярскай валтузні грашовы эквівалент.

Бывае, што людзі самі сабе ствараюць да смешнага недарэчныя сітуацыі нават тады, калі выдзелены неабходныя субсідыі. Ці то гэты недахоп з'яўляецца характэрнай рысай нашых суайчыннікаў, ці дастаўся нам у спадчыну ад былых савецкіх часоў — сказаць надзвычай цяжка. Уладнымі структурамі выдзелена пэўная сума, але ж кантроль за яе асваеннем пушчаны на самацёк, што больш дакладна можна назваць "нестандартнымі адносінамі да службовых абавязкаў". Такое праявілася ў Барысаўскім і некаторых іншых раёнах вобласці, дзе рэалізацыя рэгіянальных доўгатэрміновых мэтавых праграм вялася цераз пень-калоду. У такім разе марнымі засталіся спадзяванні на поўнае фінансавае забеспячэнне з боку мясцовых бюджэтаў. Праўду людзі кажуць, што пад ляжачы камень вада не цячэ. Тым болей — грошы.

Магчыма, набалелыя пытанні пераўтварэння ў жыццёвую рэчаіснасць памянёных праграм на Міншчыне з'яўляюцца хваробай лакальнага характару? Магчыма. Але ж гэта закране з непазбежнасцю ў недалёкай перспектыве і ўсе тыя вобласці рэспублікі, дзе яшчэ не распачалі працаваць над праграмамі. Як сказаў адзін палітык: "Трэба вучыцца на чужых памылках, каб не нарабіць сваіх". Здаецца, парада настолькі слушная, што пра яе не варта забываць.

**Валянцін ЛЯШЧЫНСКІ,**
**галоўны рэдактар Мінскага АЦНТ**

КАНФЕРЭНЦЫІ

# Не першая, не апошняя

***Арганізатарамі гэтай канферэнцыі былі Беларускі дзяржаўны універсітэт, Амерыканскі аб'яднаны габрэйскі размеркавальны камітэт ДЖОЙНТ, Амбасада Дзяржавы Ізраіль у Беларусі, Беларускае аб'яднанне габрэйскіх арганізацый і абшчын, Міжнародны гуманітарны інстытут БДУ, Габрэйскі універсітэт Беларусі. Канферэнцыя мела назву "Габрэйская цывілізацыя Усходняй і Цэнтральнай Еўропы". Праходзіла 24—26 студзеня ў Мінску. Удзел бралі навукоўцы Беларусі, Ізраіля, Вялікабрытаніі, Канады, Паўночнай Ірландыі, Летувы, Расіі. Даклады групаваліся па трох секцыях: Гісторыя габрэяў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, Сацыяльна-псіхалагічныя праблемы габрэйскага этнасу, Культура і мастацтва.***

Некаторыя даклады патрабавалі ад слухачоў спецыяльных гістарычных і тэалагічных ведаў. Як, напрыклад, даклад "Ідышская дыялекталогія, паўночна-ўсходні і паўднёва-ўсходні "альянс" у структуры сучаснага літаратурнага ідышу" альбо "Жанчыны ў сабацыяна-франкісцкай месіянскай рэвалюцыі (1665—1816)".

Найбольш цікавымі асабіста мне падаліся даклады, якія датычылі Беларусі і беларусказа габрэйства. Гэта і "Роля габрэйскага прадпрымальніцтва ў развіцці беларускай эканомікі 19—пачатку 20 ст.", і "Гістарычныя лёсы габрэяў і татараў Беларусі" і "Некаторыя прычыны канфліктаў паміж хрысціянамі і іудзеямі ў XIX стагоддзі".

Асобна варта вылучыць блок інфармацыі аб беларуска-габрэйскіх стасунках у першыя дзесяцігоддзі нашага веку: "Нацдэмакратызм і ягоны ўплыў на беларуска-габрэйскія стасункі ў галіне культуры", "Габрэі Беларусі і праблемы беларускай дзяржаўнасці ў к. 1917—1918 гг.", "Габрэйскае пытанне і палітыка ўрада БНР (1918—1923 гг.)".

Стрыжнёвыя асобы блока культурнай інфармацыі на гэтай канферэнцыі — беларускі (а таксама французскі) мастак Марк Шагал і расійскі пісьменнік Барыс Пастэрнак.

Крыху насцярожвае тое, што шэраг навукоўцаў у сваіх дакладах і афіцыйных асобаў у віншавальных прамовах карысталіся не надта карэктным выразам "габрэйская культура на гэтай тэрыторыі" (мелася на ўвазе Беларусь). Беларусь — не тэрыторыя, але краіна, дзяржава.

Канферэнцыя засведчыла наяўнасць у сучаснага габрэйства (прынамсі, таго габрэйства, што было прадстаўлена на канферэнцыі) праблемы сваіх культурных каранёў. Праблемы, якая, мяркую, нават спрыяе пэўным праявам комплексу нацыянальнай непаўнавартасці. Сітуацыя парадаксальная. Дзве тысячы гадоў існуе Хрысціянства, што ўзнікла на грунце іудаізму. А карані іудаізму ўвогуле губляюцца ў глыбіні вякоў. Далёка не кожны народ можа пахваліцца такой даўняй гісторыяй. Якое ж павінна быць мастацтва, культура і навука ў такога народа! Аднак амаль усё, чым маглі б ганарыцца габрэі, створана па-за межамі нацыянальнай рэлігіі, па-за межамі этнічнай тэрыторыі, па-за межамі габрэйскіх асяродкаў. Яно належыць Францыі, Германіі, Расіі і гэтак далей. Бясспрэчна належыць габрэйству толькі культурныя ды іншыя здабыткі Дзяржавы Ізраіль, якая існуе толькі паўстагоддзя.

Сітуацыя вельмі падобная да нашай, беларускай. І нам сёння даводзіцца пераконваць, што Адам Міцкевіч альбо Станіслаў Манюшка — найперш беларусы, а ўжо потым хто заўгодна. Гэта мы сёння высвятляем працэнт беларускай крыві ў выдатных асобаў, што далучаны да пантэона нашых блізкіх і далёкіх суседзяў. Як беларус я цалкам разумею габрэйскі боль.

Не ведаю, наколькі канферэнцыя сцвердзіла наяўнасць ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе габрэйскай цывілізацыі (цывілізацыя — гэта нешта глабальнае), але відавочна, што габрэі зрабілі значную ўнёску ў развіццё прыгаданага рэгіёна. Мяркую, Беларусь шмат страціла ад таго, што габрэяў сярод нашага народа апошнім часам стала меней.

Дарэчы, канферэнцыя такога чыну ў Мінску не першая. У траўні 1994 у Мінску збіраліся навукоўцы, каб абмеркаваць тэму "Габрэйская культура Беларусі і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі".

Не першая. Мабыць, і не апошняя...

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

# "Не давайце чужынцамі быць..."

НА ПЫТАННІ НАШАГА КАРЭСПАНДЭНТА АДКАЗВАЕ Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ

**— ДЗЁРЗКІ, катэгарычны, нахабны, сарамлівы, няўпэўнены... Дык які ён, Раман Тармола?**

— Вы кінулі мне кучу характарыстык са знакаў Задыяка і хочаце, каб я пацягнуў свой цэтлік... Па гараскопе я — Авен, у Агні гартаваны, Марсам абаронены; "характар моцны, натура ўладная з абвостранай любоўю да справядлівасці". Здаецца, лепшае я грабянуў да сябе... Пра іншыя адзнакі маёй асобе найбольш цікаўныя чытачы няхай самі распытваюць у зорак і неба...

**— Калі Тармола адчуў і ўсвядоміў, што ён — Мірскі?**

— Як ні дзіўна, для мяне самога загадка, чаму я першыя ж свае вершы з пятага класа падпісваў — Раман Тармола-Мірскі, аб чым нават мама з татам не здагадваліся ніколі. Па-першае, свае радкі на кволым пегасіку я ніколі не пакідаў навідавоку, па-другое, у раённай газеце "Сцяг свабоды" і "Чырвонай змене" Мірскага некалькі разоў адсеклі ад Рамана Тармолы: відаць, палічылі недарэчным, што мястэчковы хлопец майструе з незразумелага прозвішча незразумелы гармонік. Ды я іграў сваё... не для друку, а для самога сябе і ў казахстанскім стэпе, і ў бальнічных палатах, куды я зачасціў у дзевяностых гадах. Бегаў ад Тармолы да Мірскага па кладачцы — злучку ва ўсіх вучнёўскіх сшытках, нібыта хацеў супакоіць дактароў, што чакалі непазбежнага, падглядвалі ў прыадчыненыя дзверы: супакойцеся, дарагія мае... Калі памрэ Раман Тармола, застанецца Раман Тармола-Мірскі, ён у мяне тут, пад падушкай і мне з ім ніяк не нагаварыцца... Кніга выбранай паэзіі з новым прозвішчам выйшла ў свет у 1994 годзе — "Зярняты з каласоў" і адкрываецца яна такімі радкамі: "Хто ведае мяне лепш за мяне? Чужой душы маю не растлумачыць..."

Зараз я не скажу, што ведаю сябе. Усезнаўцу няма чаго рабіць на зямлі, таму прырода адпраўляе такіх на касмічную цаліну.

**— Раман Якубавіч, уявім, што існуе родавы герб Тармолаў. Якім малюнкам-сімвалам ён аздоблены?**

— А мне непатрэбна яго ўяўляць, бо герб наш перад вачыма з маленства, разам з бацькам, помню, малявалі: рука з мечам гоніць-арэ баразну перад сабой насустрач узыходзячаму сонцу... А па баках — жытнія каласы, з некаторых зярняты асыпаюцца...

Хто толькі не швэндаўся па Беларусі, кроў нашу не праліваў, не тузаўся і не енчыў у нашых багнах. Гэта праз войны ў адным месцы мы не паспявалі засеяць поле, у другім — жыта зжаць.

**— Пры якіх умовах верш мае права называцца вершам, а паэт — паэтам?**

— Пры любых умовах не верш могуць называць вершам, а не паэта — паэтам. Сёння галоўнае, аб чыю калашыну пацёрся "творца" шчакой і хто чурку з вачыма можа аб'явіць галавой. Апошнім часам хто ў нас толькі не дапхнуўся да Дзяржаўнай прэміі. Асабліва стаў у модзе мастацкі брыгадны падрад у індывідуальнай па сваёй прыродзе працы... За гэта некалі не кожнаму давалі квартальную прэмію.

Сапраўдныя радкі самі ўвальваюцца ў розум і сэрца разам з аўтарам назаўсёды, што праверана часам. Добрая памяць не адкідвае дабро, а дрэнная часцей слабіну назапасіць...

**— На чым грунтуецца "зруб" вашай уласнай, тармолаўскай, паэзіі?**

— На тым, што: "Я — гэта ж я. І, памойму, сумленней, болей праўдзіва і значна глыбей, перш чым гукаць ад свайго пакалення, смела сцвярджаць ад самога сябе". Калі радкі пасмелі нарадзіцца, непатрэбна ім пярэчыць, палохаць несвоечасовасцю. Так і сам да непатрэбнасці дажывеш. Зачацце радка заўсёды своечасовае...

**— Паэт Тармола нястомна шукае рыфму, праніклёна думае над вобразам, а чалавек Тармола штодня ламае галаву, як пракарміць сям'ю... Ці ў вас усё гэта неяк інакш?**

— Многія калегі скардзяцца на творчыя пакуты... Ад якіх пасля і чытачу не горача, не холадна. Я гэта ніколі не зразумею, бо нашто ў такім разе сілком валачы сябе на галгофу, лепш другіх пачытаць... Я шчаслівы, калі пішу: вобраз, думка і рыфма з'яўляюцца ў адначассе, і такое прыроднае насланнё так і застанецца загадкай для мяне. Што датычыцца таго, як пракарміць сям'ю, то гэта сапраўды рэальнае "ламанне галавы", часта сорам і ганьба, калі і жыць не хочацца, Паэзія адно і ратуе... Для сённяшніх улад творчыя людзі нахлебнікі, а не хлебадаўцы, хоць па інерцыі часам цэдзяць скрозь зубы, што не хлебам адзіным жыве чалавек.

**— Быццам сёння напісана Купалам:**

*Чаго вам хочацца, панове?*
*Які вас выклікаў прымус*
*Забіць трывогу аб той мове,*
*Якой азваўся беларус?*

**І, мабыць, у тысячны раз задумваемся над лёсам Бацькаўшчыны і штосьці спрабуем змяніць. Відаць, занадта мала робім? І зусім не тое, каб "панове" не грэбавалі беларушчынай?**

— Не магу з вамі пагадзіцца, бо сёння такі верш Іван Дамінікавіч не напісаў бы: тады, у 1907 годзе, ворагамі беларушчыны былі панове чужой дзяржавы, іншай нацыянальнасці, а сёння — свае ж беларусы, прытым далёка не панове... Гэта куды жахлівей! І немалую шкоду ў гэтай справе недальнабачна сатварылі шаноўныя песняры, калі з твора ў твор паўтаралі, што беларусы няшчасныя, глухія, сляпыя, брудныя, дурныя; яны ўсё ходзяць вякамі грамадой, нясуць крыўду сваю "на свет цэлы" — лічы, у нікуды.

Які самаздзек і непатрэбная памяркоўнасць! Гэтым і цяпер яшчэ генетычна пахваляемся. Нездарма для многіх эсэсэрнікаў верш Янкі Купалы "А хто там ідзе?" па сённяшні дзень бачыцца беларускім гімнам. Ён увайшоў у розныя кнігі пра Беларусь у Маскве і за мяжой з усмешкай выдаючы паміж радкоў: беларусам відней, якія яны... Народ любой нацыі само сабой з дня нараджэння людзьмі завецца! На нязгодніка з такім пастулатам з мячом ідуць, а не з крыўдай на руках.

Не дзіўна, што ад сталінскага часу да сёння ў нас бегаюць з калектыўнымі пісьмамі, зваротамі, прашэннямі да вялікіх і мудрых сваіх і чужых... Хвароба стала хранічнай, і першым пачаў з ёй дзейсна змагацца геніяльны Максім Багдановіч на чужыне, які ратаваў дзяцей Беларусі так адчайна, нязвыкла, што слёзы камяк у горле, а рука, далоня шукае збавення пустаты:

*Біце ў сэрцы іх, — біце мячамі,*
*Не давайце чужынцамі быць!*
*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай старонцы баліць...*

Пры самастойнай Рэспубліцы Беларусь самы раз было б на месца "А хто там ідзе" паставіць "Пагоню". але зноў жа — напярэймы выбеглі з генамі глухіх і сляпых, у чытанкі, падручнікі рванулі народныя, заслужаныя, чалавечкі года. Гэтых галавасцікаў ніякай сеткай не перапыніш, і пры жаданні любы іх твор можна расцягнуць на паўтаратонны рулон паперы. А яшчэ ж — хто сябе выдае, той сябе і хрэстамаціць!

Максім Багдановіч — вось хто сённяшні, учарашні і спрадвечны. Старэйшыя за яго наватары-дзецюкі грукаюць у тазікі, адраджаючы розную дурноту, адно не беларускасць. Бедныя зацюканыя не апосталы...

**— Ці да месца ўзроставая "градацыя" ў літаратуры? Ці мае сэнс весці гаворку пра пісьменнікаў "сталых" і "маладых", пра паэзію "новую" і "найноўшую"?**

— Не сакрэт, што старэйшым не падабаецца, як новыя пакаленні кучкуюцца між сабой па прынцыпе: пахвалі мяне, потым я — цябе, а пасля ўдваіх мы пахвалімся. Некаторыя ў маладых пабывалі, у "крынічных постацях" пахадзілі і — зноў у маладыя вярнуліся... па творчых здабытках.

А падзел паэтаў па гадах, на "новых" і "найноўшых" — гэта творчы ананізм, калі радок у ніякім выглядзе больш не тырчыць.

**— Як бы там ні было, а "маладыя" на пяты наступаюць?**

— Наступаюць... Асабліва ў трамваях і тралейбусах у "час пік", і прабачэння не просяць. А што вышэй плеч... дык з белымі вершамі і доўгімі гекзаметрамі ў галаве не вельмі разгонішся ў нашай творчай цеснаце...

**— У якім рэжыме, Раман Якубавіч, працуе ваш "унутраны рэдактар"? Увогуле, ці былі выпадкі, калі ўласная ці пабочная цэнзура спрыяла творчаму працэсу?**

— Наглядчыка ў сабе я ніколі не трымаў і ні з адным сваім вершам ніколі не змагаўся, як з ворагам, некаторыя траплялі нават у друк: "У Кастрычніку адны клічнікі і пытальнікі адны..." "Нараджаюцца смелыя людзі, Справы смелыя, смелы пагляд... Ёсць надзея, што смелымі будзем Як адзін... праз год пяцьдзесят" і іншыя. Аднаму рэдактару за мае вершы вымову далі, а выхад маёй новай кнігі затрымалі на год. Прыгадваецца даўняе: "Цэнзура-дура себе на уме... Но мы



покупали ее на дерьме, Подсовывая чуть не госсекрет И помогая выковыривать ей вред". У нечым і цэнзурная дурата спрыяла творчасці.

**— На ваш пагляд, сучасная літаратура — гэта...**

— ...як і дасучасная: нехта ў ёй ссучыўся, хтосьці застаўся самім сабой, некаторыя дурачацца ў "новым стылі". Не думаю, што Адам Глобус навучыць Земшар як абыходзіцца з жанчынай у ложку.

**— У кожнага свае стасункі з музай. Хтосьці, узгадваючы тэхналогію літаратурнага рамяства, кажа, што не піша вершы, а думае іх. Хтосьці творыць па дарозе з працы дахаты, прымерваючы радок да ўласнага кроку... Некалькі слоў пра асаблівасці вашай "тэхналогіі". Чым натхняецеся? Ці "божы кураж" прыходзіць па загадзе ў любы момант?**

— У мяне самы гультайскі метад — ля мора чакаю творчай пагоды, у сябе на Міршчыне творча-нябеснай манны, побач з жанчынай самі здагадайцеся, што выседжваю... Адным словам:

*О вершы! Гэта ўздых і выдых,*
*Са светам сэрца перастук...*
*Сам Усявышні мне іх выдаў!*
*Я толькі ўзяў з ягоных рук.*

**— "Цяпер штодня я на крыжы..." — менавіта за гэтым радком стан сённяшняй вашай душы?**

— Крый Божа... На жаль, былі ў мяне такія дні і нават больш, чым трэба для аднаго чалавечага жыцця.

**— Саюз беларускіх пісьменнікаў... Што крыецца для вас за гэтым паважным спалучэннем слоў?**

— Саюз бедалагаў-пісакаў, якія не могуць не пісаць. Таму менавіта з імі можа здарыцца і такое:

*Некалі у клетках на базарах*
*Будуць нас натоўпу выстаўляць*
*З надпісам: "На роднай мове марацъ.*
*Могуць песні родныя спяваць".*
*Будуць кідаць нам цукеркі дзеці,*
*Як па крузе ганьбы павязуць.*
*І адзін з мільёна мо прыкмеціць*
*Родную ў вачах чужых слязу...*

**— Раман Якубавіч, даруйце за банальнае пытанне ў лоб: вы любіце народ?**

— Як можна любіць неабдымнае, не маўклівае, як неба і зямля, што нельга прыгарнуць да сэрца і самому прытуліцца? У слове НАРОД ёсць нешта д'ябальскае, бо менавіта ад яго імя рабіліся і сёння робяцца самыя вялікія злачынствы ў свеце. Гэта слова-індульгенцыя дало права стаўляць майго бацьку на расстрэл у прысутнасці дзевяці дзяцей адно пад адным, пасля чаго я на некаторы час знямеў, а тата дзевяць гадоў адпакутаваў у сталінскім лагеры... Я люблю канкрэтных людзей з роднымі, дарагімі абрысамі твару, чые рукі я магу патрымаць у сваіх руках. А народ... Невыпадкова народ найлепшая схованка для забойцаў.

**— Вы калісьці працавалі на Беларускім тэлебачанні галоўным рэдактарам літаратурна-драматычных праграм, каментатарам па літаратуры і мастацтве. Які б дыягназ паставілі сённяшняму "нацыянальнаму" тэлеканалу? Чаго не хапае для таго, каб яго ўрэшце пачалі заўважаць гледачы?**

— Я не сказаў бы, што наша тэлебачанне не заўважнае. Адных толькі "міжвольных" гледачоў у яго больш, чым у нашых кніг чытачоў. Амаль два месяцы назад я выступіў у перадачы "Сёння з вамі...", дык і зараз яшчэ званяць, лісты дасылаюць. Лічу, што на айчынным тэлеэкране лепшы падбор мастацкіх кінастужак у параўнанні з многімі маскоўскімі каналамі.

Праўда, у нас няма Жырыноўскага з цяганнем жанчыны за валасы, з плюханнем вады ў твар апаненту. То і добра, што няма, бо калатнечы на зямлі і без яго хапае. Вунь расіяне скардзяцца: без страляніны ў тэлевізары дзеці не могуць заснуць...

Шкада, палемічных перадач у прамым эфіры не стала. Ды наш прэзідэнт за ўсіх палемістаў адзін або з журналістамі запаўняе гэты прабел, вуліцы пусцеюць у такі час... Разумнага чалавека трэба слухаць доўга! Адным словам, дайце работнікам тэлебачання кропку апоры і яны перавернуць нашы цяперашнія ўяўленні аб ім.

**— На чым трымаецца жыццё?**

— У ідэале на любві да Айчыны, каханні да жанчыны, на перакананні кожнага паасобку, што ён паэт у сваёй справе.

**— Раман Якубавіч, вашы адносіны да паэтак? Ва ўсе вякі такое тут рознагалосся...**

— Жанчына сама па сабе матэрыялізаваная паэзія з валасоў да ног, і, думаю, што ў служках ёй сам Бог... Таму, што б яна ні напісала, для мужчыны будзе другасным; **осязать** яе фізічна заўсёды будзе патаемней, бясслоўны ўздых і стогн вышэй за небныя радкі яе. На жаль, пра гэта яна забываецца, і часта лёс жанчын, якія пішуць вершы, незайздросны. Нават у сям'і жыве яна, як нямая з глухімі. А яе і так ёсць за што абсыпаць кветкамі і афарызмамі...

**— Выбліснуў ваш радок: "Не магу... калі плача жанчына..."**

— Я і сам пачынаю плакаць... Для мяне такія слёзы чалавечыя — біблейскі дождж для амавення душы, каб не акамянець заўчасна, не апынуцца ідалам на востраве Пасха...

**— Якія мэты перад сабой ставіце, калі "забаўляецеся" эпіграмамі?**

— Самыя гуманныя — аблегчыць долю крытыкам і літаратуразнаўцам, калі будуць пісаць творчыя партрэты некаторых літаратурных калег, а чытачам жыццё: згадзіцеся, што напісаць і прачытаць сорак старонак — не тое самае, што выдыхнуць і запомніць чатыры радкі.

**— А на каго найлепш, найхутчэй пішацца?**

— На самых таленавітых творцаў і на самых таленавітых... графаманаў. Л. Галубовіча хоць не чытай: штомінутна лезе за сатырычны ражон асоба, якая пазногці не грызе, а падстрыгае, як А. С. Пушкін. Усюды рассыпана нешта...

Альбо вось такая дзяржаўная радасць-роспач:

*Якое шчасце — люд мы памяркоўны,*
*У нас цяпер не кроў бяжыць па жылах*
*А самы адмысловы сок маркоўны!*
*Паплачма разам,*
*дружна — заслужылі...*

**— А ўвогуле, пачуццё здаровага беларускага гумару дапамагае ўявіць, якой на памежжы стагоддзяў будзе будучыня ў нашай нацыі, урада і дзяржавы?**

— Думаю, што радок Максіма Багдановіча "Няма таго, што раньш было", які напісаны ў 1913 годзе, будзе паўтарацца і ў 2013 годзе, бо толькі ў кепскасць можна ўперціся лбом, а чаканне лепшасці не мае канца... Бо як жыць тады нацыі без мэты, ураду — без абяцанак-цацанак новай будучыні. Я не

(Працяг на стар. 12)

## "Скарыніч"

З'явіўся 4-ы выпуск літаратурна-навуковага гадавіка "Скарыніч". Ён пабачыў свет у "Беларускім кнігазборы", дзякуючы фінансавай падтрымцы Міхала Шкялёнка, а ўкладальнікам з'яўляецца Аляксей Каўка. Выпуск — тэматычны. У асноўным прысвечаны вядомаму літаратурнаму аб'яднанню "Узвышша", а таксама найбольш яркім прадстаўнікам гэтай творчай суполкі і ў першую чаргу Адаму Бабарэку, з дня нараджэння якога летась адзначалася 100-годдзе. Гэтыя матэрыялы і склалі раздзел "Каб узняцца

СКАРЫНІЧ

ізноў і вышэй". А адкрываецца ён артыкулам Расціслава Платонава "Ля вытокаў", аўтар якога на падставе архіўных матэрыялаў прасочвае гісторыю ўтварэння "Узвышша". Як адбывалася гэта, лепш усвядоміць можна, пазнаёміўшыся і з самімі матэрыяламі. Прынамсі, змешчаны "Зварот групы паэтаў-маладнякоўцаў у бюро ЦК КП(б)Б з просьбай дазволіць стварэнне самастойнага літаратурна-мастацкага аб'яднання" (тады без вышэйшых партыйных органаў гэта было немагчыма зрабіць), "Ліст старшыні Цэнтральнага бюро аб'яднання "Маладняк" М. Чарота першаму сакратару ЦК КП(б)Б А. Крыніцкаму аб прычынах расколу ў аб'яднанні і ўтварэнні "Узвышша", "Ліст ЦБ "Маладняка" ў бюро ЦК КП(б)Б аб выніках разгляду звароту групы маладнякоўцаў ад 26 мая 1926 годзе аб выхадзе з аб'яднання і стварэнні асобнай арганізацыі". Цікавыя дакументы прапануюцца і пад агульнай назвай "З дакументальнае хронікі аб'яднання". Сярод іх і Статут "Узвышша", а таксама спіс "маладнякоўцаў", — якія выступілі ініцыятарамі стварэння новага літаратурна-мастацкага згуртавання. Даволі шырока ў выпуску прадстаўлена і эпістalярная спадчына ўзвышанцаў. Публікуюцца лісты Змітрака Бядулі, Язэпа Пушчы, Уладзіміра Дубоўкі, Фелікса Купцэвіча, Кузьмы Чорнага, якія захоўваюцца ў сямейным архіве дачкі Бабарэкі Алесі Адамаўны і Максіма Лужаніна, Антона Адамовіча — з аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Аб тым, чым жыло гэтае аб'яднанне, той атмасферы, што панавала ў ім, якія задачы вырашала яно ў супярэчлівы час — на гэтыя і іншыя пытанні можна знайсці адказ у артыкулах Уладзіміра Конана "Баронячыся "пралетарскасцю", Адама Бабарэкі "Паэзія як уяўленне" (з яго прапануюцца ўрыўкі, рукапіс дагэтуль не публікаваўся і захоўваецца ў сямейным архіве Алесі Адамаўны). З матэрыялаў "Узвышэнства на падсуднай лаве" відаць, як у дачыненні да ўзвышанцаў і да самой арганізацыі прымаліся рэпрэсіўныя меры: "паказанні Л. Бэндэ аб змесце і характары артыкулаў Ан. Адамовіча і аб яго нац. дэмакратычнай рабоце ў літаратурных арганізацыях", вытрымкі з паказанняў Уладзіміра Дубоўкі, дадзеных 26 жніўня 1930 года. Тут жа і невялікае паведамленне "Уладзіміра Жылкі апошняя прыстань" — ліст гаспадара дома ва Уржуме (Расія), дзе паэт знаходзіўся ў ссылцы. У гэтым раздзеле ёсць і такія матэрыялы, як "Два вершы са спадчыны Паўлюка Труса" Ганны Запартыкі, "Літаратурнае "Узвышша" ў кантэксце сусветнай культуры" Уладзіміра Конана, "Узвышша" і мастацкая традыцыя" Ірыны Багдановіч, "Спаталенне жывой вадой, або Шляхам Узвышэнства" Аляксея Каўкі, вершы Анатоля Вярцінскага "Адно ўдакладненне" і іншыя. Ёсць у выпуску і раздзелы "Постаці", "Незабытыя тэксты". Паўстаюць постаці Юрыя Туронка, Язэпа Варонкі, Язэпа Дылы, Мікалая Улашчыка. Алесь Марачкін ("Падзей затоеная цень") вяртаецца да тых дзён, калі ў Траецкім прадмесці былыя афганцы разагналі моладзь, якая гукала Вясну.

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КНІГАРНЯ

# Барока ўпэўненыя крокі

Яшчэ ў маі 1994 года Музей старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі правёў у памяшканні Нацыянальнага музея Рэспублікі Беларусь навуковую канферэнцыю "Барока ў беларускай культуры і мастацтве", актыўны ўдзел у якой прынялі супрацоўнікі музея, а таксама іншыя даследчыкі, якія займаюцца як згаданым пытаннем, так і ўвогуле праблемамі развіцця старажытнабеларускага мастацтва. Пра гэты навуковы форум паведамлялася ў друку, але, як часта бывае ў падобных выпадках, далей звычайнай канстатацыі факта гаворка не ішла. А яна ж вартая таго, каб змест дакладаў і паведамленняў, зачытаных на ёй, ведалі не толькі спецыялісты, а і ўсе, хто хоча лепей спасцігнуць гісторыю нацыянальнай культуры і мастацтва. Цяпер гэта зрабіць можна: выдавецтва "Беларуская навука" выпусціла зборнік матэрыялаў канферэнцыі, які так і называецца — "Барока ў беларускай культуры і мастацтве". На жаль, тыраж кнігі малы, усяго 700 экземпляраў, а таму, відаць, няма патрэбы нагадваць, як яна хутка разышлася. Але адразу хацелася б сказаць пра іншае. Зэканоміўшы, калі можна так сказаць, на тыражы, выдавецтва ўсё ж паставілася да кнігі, як да працы мастацтвазнаўчай, а таму і паперу знайшло належную, і аб ілюстрацыйным матэрыяле паклапацілася. Праўда, ілюстрацыі чорна-белыя (зноў жа, фінансавыя цяжкасці), але іх шмат і рознага зместу, што, безумоўна, спрыяе яшчэ лепшаму ўяўленню аб тым, наколькі плённым быў уплыў барока на развіццё беларускай культуры і мастацтва.

Матэрыялы канферэнцыі адаптаваны для выдання. Сведчанне таму і з'яўленне "Уводзін", напісаных В. Шматавым. З іх, а таксама з яго артыкула "Станаўленне барока ў мастацтве ўсходнеславянскіх народаў" нават чытач, які толькі больш-менш арыентуецца ў гісторыі старажытнабеларускага мастацтва, атрымае досыць яркае ўяўленне, наколькі барока — гэты адзін з найбольш цікавых і плённых сусветных мастацкіх стыляў — атрымаў пашырэнне ў беларускім дойлідстве, жывапісе, графіцы ў канцы XVI, а таксама ў XVII і XVIII стагоддзях. Больш таго, менавіта Беларусь прыняла, вобразна кажучы, эстафету барока ад Італіі: "Факты сведчаць, што Беларусь стала другой краінай у свеце, якая спрычынілася да развіцця новага стылю. Першымі помнікамі барока ў Беларусі лічыцца касцёл Божага цела ў Нясвіжы, пабудаваны ў 1593 г. Адначасова гэта першы помнік на тэрыторыі ўсходніх славян (і ўсёй Рэчы Паспалітай у цэлым). Гэты факт прызнаны даследчыкамі аднадушна". У той жа час, калі пазнаёміцца з мастацтвазнаўчымі працамі, што выйшлі ў Расіі і на Украіне аб пашырэнні стылю барока, з недаўменнем заўважаеш, што "Беларусь у іх нават не згадваецца". Але ж, "паколькі Рэнесанс у Беларусі быў спарадычнай з'явай і часцей за ўсё выступаў разам з готыкай (прынамсі, у дойлідстве, часткова ў іканапісе, гравюры), барока з'явілася першым агульнаеўрапейскім стылем, які сфарміраваўся ў самастойны напрамак і... шмат у чым стаў пераломным у эвалюцыі беларускай выяўленчай творчасці, усіх яе відаў і жанраў!. Важна і тое, што якраз ад барока ў нашай краіне засталося асабліва шмат мастацкіх помнікаў. І гэта нягледзячы на тое, што многія з іх былі знішчаны ў вайну 1654—1667 гадоў, якая вялася паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай.

Віктар Шматаў не абмінае прычыны, дзякуючы якім барока знайшло на тэрыторыі Беларусі спрыяльныя ўмовы для пашырэння, свайго роду жыватворную глебу. А ў дадзеным выпадку, што ні даследчык, дык свае меркаванні: "Называлі контррэфармацыю, актывізацыю каталіцызму, нагадвалі пра "слынную беларускую талерантнасць". Але, на думку В. Шматава, "стыль эпохі нараджаецца не адным фактарам, а сукупнасцю. З'яўленне барока на Беларусі было абумоўлена шэрагам прычын". Галоўную ж В. Шматаў бачыць у тым, што "з часоў Рэнесанса Беларусь займала вядучыя пазіцыі ў мастацтве ўсходнеславянскіх народаў". Не абмінае ён і канфесійны фактар. Пасля Люблінскай і асабліва Брэсцкай уній праваслаўе ў многім здало свае пазіцыі, а разам з гэтым паслаб уплыў візантыйскай традыцыі ў развіцці культавага дойлідства. Тое ж самае тычыцца манументальных роспісаў, іканапісу, мініяцюры.

Важны ў развагах В. Шматава і такі момант. Гаворачы аб развіцці барока на Беларусі, ён не абыходзіць увагай тое, як гэты мастацкі стыль, атрымаўшы ў нас належнае станаўленне, пашыраўся ў іншыя краіны. Тым самым адбывалася міграцыя барока. І ў першую чаргу ў Расію, бо ў гэтай краіне працавала шмат выхадцаў з Беларусі, якія і спрыялі станаўленню барока ў рускім дойлідстве, жывапісе, іншых відах мастацтва. А звязана гэта з імёнамі шмат якіх слаўных сыноў нашай Бацькаўшчыны, у тым ліку з вядомымі Клімам Міхайлавым, Сцяпанам Івановым (які ўвайшоў у гісторыю як Сцяпан Палубес), Пятром Заборскім — галоўным мастаком на будаўніцтве славутага Новаерусалімскага сабора ў Маскве. І, канечне ж, нельга не ўспомніць С. Полацкага. Як заўважае В. Шматаў, "невыпадкова менавіта з дзейнасцю Сімяона Полацкага звязана тэрчасць цэнтральнай фігуры рускага жывапісу XVII ст. Сімяона Ушакова — мастака-рэфарматара, які ў жывапісе першы пачаў адыходзіць ад традыцыйных іканаграфічных схем, умоўнасці перадачы аб'ёму, увёў у жывапіс новыя прыёмы рэалістычнай трактоўкі".

Мы невыпадкова так падрабязна запыніліся на "Уводзінах" і артыкуле "Станаўленне барока ў мастацтве ўсходнеславянскіх народаў", напісаных В. Шматавым, бо менавіта гэтыя два матэрыялы свайго роду ключ для лепшага спасціжэння і разумення шматграннасці і аб'ёмнасці праблемы, якая ў дадзеным выпадку акрэслена як "Барока ў беларускай культуры і мастацтве". Асобныя яе моманты больш глыбока прачытваюцца ў іншых артыкулах кнігі. У такіх, як "Спецыфіка барока ў Беларусі" Н. Высоцкай, "Беларускае барока. Тэндэнцыі і напрамкі развіцця" Б. Лазукі, якія таксама маюць у многім агульны характар, хоць, безумоўна, ад гэтага значнасць узнятых аўтарамі праблем не змяншаецца. Але поруч змешчаны артыкулы, што маюць куды больш канкрэтную гаворку, як, для прыкладу, "Абрысы станаўлення стылю барока ў манументальным дойлідстве Беларусі" Т. Габрусь, "Архітэктурны ансамбль плошчы ў горадабудаўніцтве барока" Ю. Чантурыя, "Элітная архітэктура барока ў агульнаеўрапейскім кантэксце" А. Кулагіна, "Роспісы касцёла Св. Станіслава (Узнясенне Маці Божай) у Магілёве" Н. Трыфанавай і М. Цэйтлінай, "Барочныя аправы цудадзейных абразоў Маці Божай" В. Пуцко і іншыя.

Разам з тым робіцца спроба правесці паралель са станаўленнем гэтага мастацкага стылю ў іншых краінах. Прынамсі, В. Гаршкавоз ("Беларускі сцэнапіс XVIII ст.") знаходзіць тыпалогію ў кантэксце польскага барока і аргументуе гэта канкрэтнымі прыкладамі, знаходзячы і пэўныя набыткі, але не адмаўляючы і некаторых страт, калі "на беларускіх землях к пачатку XVIII ст. сустрэліся дзве манументальныя традыцыі: праваслаўная і заходнееўрапейская (каталіцкая)".

Новы мастацкі стыль, прыйшоўшы на Беларусь, закрануў самыя розныя жанры мастацтва, аб чым можна даведацца з артыкулаў А. Пікулік "Барочныя тэндэнцыі ў мастацтве магілёўскіх старадрукаў", Т. Рошчынай "Разарыум Дзевы Марыі" з аддзела рэдкай кнігі і рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі", В. Малюшынай "Арнаменты ка беларускіх старадрукаў эпохі барока". Ды і іншыя матэрыялы: "Канфесійная палеміка ў творах Сімяона Полацкага" А. Варатнікавай, "Эпоха барока ў паркабудаўніцтве" А. Федарука, "Эмблематычныя рысы ў гравёрным партрэце пачатку XVII ст." М. Ткачэнкі (спіс можна доўжыць) даюць вельмі шмат звестак пра тое, як барока, знайшоўшы на Беларусі спрыяльныя ўмовы, пакінула пасля сябе шмат унікальных помнікаў, вартасць якіх з цягам часу не змяншаецца.

А яшчэ (гэта ўжо выснова, да якой прыходзіш, калі загортваеш апошнюю старонку кнігі) чарговы раз пераконваешся, як шмат у нашай культуры, мастацтве таго, чым мы можам ганарыцца, і чаму, без перабольшання, могуць зайздросціць іншыя народы (стваранае, зрэшты, не толькі ў эпоху барока, а і ў іншыя перыяды). Дарэчы, кніга, пра якую ідзе гаворка, свайго роду працяг зборніка "Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння", выпушчанага ў 1994 годзе тады яшчэ выдавецтвам "Навука і тэхніка".

**Міхась РАДЗІМІЧ**

# Асяніна Хялемскага

Нядаўна я меў прыемную магчымасць — пасланць Якаву Хялемскаму, даўняму другу беларускай літаратуры, укладзеную мной па заказе выдавецтва "Мастацкая літаратура" толькі што выдадзеную кнігу Максіма Танка "Избранное", дзе ягоныя пераклады твораў песняра Нарачы на рускую мову займаюць большую палову выдання. А праз некаторы час трымаў у руках кнігу новых вершаў паэта "Половина девятого", якая выйшла ў маскоўскім выдавецтве "Линор" у мінулым годзе. Узважваючы ў думках паэтычны здабытак Я.Хялемскага (і арыгінальны, і пераклады), прыгадалася так любімае калісьці Аляксеем Зарыцкім слова "асяніна" — асенняя плата вясковаму пастуху за рупную летнюю працу. Падумалася: шчаслівы той паэт, які нават у свае восемдзесят шэсць (а нядаўна Я.Хялемскаму споўнілася менавіта столькі) можа плённа працаваць і атрымліваць заслужаную асяніну.

Беларуская літаратура, як мы ведаем, многім удзячная Я.Хялемскаму, аднаму са сваіх самых актыўных прапагандыстаў сярод рускамоўнага чытача.

Зразумела, паэта можа перакладаць толькі паэт, прычым добра перакладаць можа толькі добры паэт. Няхай ён зусім не заўляе пра сябе ўласнай паэтычнай творчасцю, як Язэп Семяжон ці Васіль Сёмуха, або заяўляе надта сціпла, як Юрка Гаўрук. Што да Я.Хялемскага, то сярод трох дзесяткаў кніг яго ўласных твораў абсалютна большасць — вершаваныя зборнікі, у свой час высока ацэненыя такімі вядомымі паэтамі і літаратуразнаўцамі, як Мікалай Ушакоў, Ілья Сяльвінскі, Павел Антакольскі, Канстанцін Ваншэнкін, Расул Гамзатаў... Толькі апошнім часам Я.Хялемскі выдаў кніжкі "Узелок на память"(1995), "Тревожная тетрадь"(1996) і вось гэтую — "Половина девятого"(1999), паказаўшы тым самым незвычайнае паэтычнае даўгалецце, што ходзіць у пары з сапраўднымі талентамі.

Аднак чаму кніга так называецца? Адказ — у чатырохрадкоўі паэта:

*С коротким покончено сном.*
*Окно предрассветное матово.*
*Встаю, как и прежде, в седьмом,*
*Живу в половине девятого.*

Жыць для паэта — гэта працаваць. Ужо дзесяткі гадоў ён устае ў пачатку сёмай гадзіны раніцы (дарэчы, так — "В начале седьмого" — назваў паэт адзін са сваіх зборнікаў, выдадзены ў 1981 г.), а роўна а палове дзевятай сядае за пісьмовы стол. І кладуцца на паперу новыя радкі. А ў іх — прасякнуты шчырым пачуццём роздум пра час і пра сябе ў гэтым нялёгкім часе ("Судьбу жестокую влача, Седые дети лихолетья, Мы — жертвы векапалача Ещё и за него в ответе"), згадкі пра кіеўскую маладосць у коле паэтычных равеснікаў ("Жизни киевская прелюдия, Красностенный университет. Вечера в ушаковской студии, Нашей общей судьбы рассвет"), кіеўскі базар з яго такім незабыўным арганічным разнамоўем, дзе сярод украінскай, рускай, яўрэйскай моў чулася і беларуская гаворка ("Белорусской мастерицы зов Тут звенел певуче: "Калі ласка!" — И сливался с праздничной окраской Слуцких шелковистых поясов"), пра савецка-фінскую і Вялікую Айчынную войны, удзельнікам якіх паэту давялося быць ("Не по своей вине я был недолго На той войне — нестроевой очкарь. Но груз неоплоченного долга Меня одолевает, как и встарь" — гэта пра фінскую "кампанію"; "Мы, отстоявшие страну И проигравшие победу" — гэта пра ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай) і інш. Падводзячы рахункі, паэт жорстка ставіцца не толькі да часу, але і да самога сябе: "Я состоялся не сполна. Судьбу безжалостно итожу. Себя виню. И время тоже". Але што ж рабіць?! — "Не выбирают времена"... Ды не толькі паэтычнымі ўспамінамі запоўнена кніжка, але і развагамі ўмудронага жыццёвым вопытам чалавека пра дзень сённяшні ("С вершин, долгожителем взятых, Понятнее все и видней").

У гэтай кніжцы Я.Хялемскага, як і ў большасці папярэдніх, прысутнічае і "беларуская тэма". Я ўжо цытаваў урывак з верша "...Многоцветный Галицкий базар" (пра беларускую гаворку на тым базары). У зборнік уключаны верш "Мастерская", радкі якога спрасавалі ўсю складанасць жыццёвага лёсу скульптара Заіра Азгура:

*Событий давних соглядатая,*
*Все виды видывал старик —*
*Помпезное открытье статуй,*
*Поспешное крушенье их.*
*Всё явственней и откровенней*
*Судьбы извилистой исток.*
*Приметы общих заблуждений*
*И личных промахов итог.*

У кніжку Я.Хялемскага арганічна ўпляліся і два пераклады з беларускай паэзіі — верша Максіма Танка "Як трэба піць віно" і "Санета" Рыгора Барадуліна. Выкананыя бездакорна, яны паглыбляюць асноўныя матывы зборніка, яго тэматычны дыяпазон.

У сваю кнігу "Половина девятого" Я.Хялемскі ўключыў наступную вершаваную мініяцюру:

*Век завершает свою стометровку,*
*Я — отпущенный мне отрезок.*
*Кто первый пересечет*
*Финишную ленточку?*
*Судьба*
*Посматривает*
*На секундомер.*

Жадаючы Я.Хялемскаму ўсялякіх поспехаў — і жыццёвых, і творчых, — хацелася б усё ж, каб у гэтым спаборніцтве ён прайграў...

**Вячаслаў РАГОЙША**

ВІНШУЕМ!

# Рыгору БАРАДУЛІНУ — 65

**Ён увайшоў у паэзію лёгкім, упэўненым крокам. Адчуванне было такое, што нібыта заўсёды знаходзіўся ў ёй. Нават з той самай часіны, калі прага да прыгожага і выклікала ў чалавека жаданне ўвасобіць у непаўторных вобразах сваё разуменне і ўспрыманне рэчаіснасці. Настолькі хораша клаліся барадулінскія вершы на душу кожнага, хто судакранаўся з імі. Настолькі былі сваімі, блізкімі, а таму і патрэбнымі. Которую кнігу Р. Барадуліна ні возьмеш — раннія "Маладзік над стэпам", "Рунець, красаваць, налівацца", "Нагбом", "Неруш", пазнейшыя "Адам і Ева", "Лінія перамены дат", "Рум", а таксама "Абсяг", "Вечалле", "Маўчанне перуна", "Самота паломніцтва" і іншыя, што, як кажуць, яшчэ на памяці сваім з'яўленнем у свет — абавязкова будзеш уражаны тым паэтычным адкрыццём, якое інакш, як барадулінскім, не назавеш. Не ў тым сэнсе, што творы звязаны з канкрэтным аўтарам. Барадулінскае адкрыццё — паняцце куды больш шырокае і маштабнае. Як у сувязі з гэтым не згадаць выдатнае выказванне незабыўнага Варлена Бечыка, што прагучала яшчэ ў 1981 годзе, калі слынны крытык, літаратуразнаўца задумваўся над праблемамі традыцыі і наватарства ў творчасці Р. Барадуліна: "Паэтыка, стыль Рыгора Барадуліна адкрываюцца ва ўсё новых і новых духоўных, выяўленчых магчымасцях. Часам, здаецца, што паэт трымае ў руках пяро самога Купалы — такая крылатасць і ёмістасць, і прадметнасць у сказаным. Верш нярэдка востры і імпульсіўны, як у Панчанкі. Раптам словы набываюць куляшоўскую выверанасць і строгасць. Або пачуецца замілаванасць і сардэчная шчымлівінка Петруся Броўкі. Плыткі, музычны метафарызм Лоркі, складаная асацыятыўнасць Іожэфа... І ўсё гэта мае свой, "барадулінскі" тон, асветлены яго ўсмешкай, дакладна суадносіцца з непаўторнай і яркай лірычнай асобай". Хіба трэба дадаць яшчэ, што ў Р. Барадуліна — філасофская мудрасць і развага Максіма Танка. Пасля смерці яго Р. Барадулін і стаў правафланговым у беларускай паэзіі. І гэта пры тым, што ў ёй працуе нямала іншых яркіх і непаўторных талентаў. Можна шмат гаварыць і аб перакладчыцкай дзейнасці Р. Барадуліна (як вядома, Дзяржаўную прэмію БССР імя Янкі Купалы ён атрымаў у 1976 годзе за зборнік вершаў "Рум" і кнігу перакладаў выбранай лірыкі Ф. Г. Лоркі "Блакітны звон Гранады"). Як можна доўга разважаць, наколькі арыгінальным застаецца ён у сваіх шматлікіх кнігах, адрасаваных дзецям. Нельга абмінуць і публіцыстычную дзейнасць Рыгора Іванавіча. А яшчэ яго літаратурна-крытычныя артыкулы і эсэ. І кнігі сатыры і гумару — таксама менавіта барадулінскага, у нечым з'едлівага, саркастычнага.**

**Віншуем вас, шаноўны Рыгор Іванавіч з 65-годдзем! Зычым вам і надалей пісаць цудоўна і плённа, працаваць самааддана ў імя адраджэння нашай Бацькаўшчыны — незалежнай Рэспублікі Беларусь!**



Фота Віктара ЖЫЛІНА.

●

Рыгору БАРАДУЛІНУ

*Праз астылы асфальт*
*не адчуеш зямлі пад нагамі,*
*Босы ходзіць паэт*
*Каля хаты бацькоўскай сваёй.*
*На радзіме малой,*
*У любоўю асветленым храме*
*прагне сэрца ізноў*
*прычашчэння расою святой.*

*Тут пратоптвала сцежкі*
*Нястомная маці Куліна,*
*непрымятай травой*
*бацькаў лёс апякае ступні.*
*Пуста ў хаце. Даўно*
*Не збіраецца разам радзіна,*
*і смыляць успаміны,*
*нібы абгарэлыя пні.*

**Галіна ВАРАТЫНСКАЯ**
г. Ушачы



З Міколам АЎРАМЧЫКАМ і Уладзімірам КАРАТКЕВІЧАМ. 1959 г.



З Петрусём БРОЎКАМ. 1970 г.



З Андрэем МАКАЁНКАМ і Данілам МІЦКЕВІЧАМ. 1972 г.

Фота У. КРУКА

# Гадамі малюся дню...

У іншай якой краіне каб свабоднай радасці і вольнаму шчасцю не заўсёды ставала месца — ці не нонсенс?! А ў нашай Беларусі — не стае. І тым не менш — калі гаворка заходзіць пра народнага паэта Рыгора Барадуліна — наша Беларусь не толькі асвятляецца і вольна ўздыхае, але і гонар мае яго вершамі, паэмамі, мудрымі думкамі сцвярджаць сваю незалежнасць. Што азначае, нягледзячы ні на што, быць шчаслівай і раднасцю. Шкада, што не ўсім дадзена гэта бачыць і адчуваць.

Рыгор Барадулін — паэт ад Маці і Бога, ад Купалы і Багдановіча і, зрэшты, ад чыстага чалавечага суму:

*А самых самотных на свеце двое —*
*Чалавек на зямлі*
*І на свеце бог,*
*Ахінуўшыся даўнінаю сівою,*
*Звінаюць і развінаюць сувоі*
*Зямных трывог,*
*Нябесных дарог.*

Гэта такі сённяшні мудры Р. Барадулін. Не колішні віхрысты, свавольны ў жыцці і слове ўшацкі Кулінін малец:

*Урэшце ўсё сатрэцца,*
*Патухне медзяком.*
*На схіле год сустрэцца*
*З забытым юнаком,*
*З чубатым і насатым,*
*Няўклюдным, вінаватым, —*

*Хачу сустрэцца ціха,*
*Сам-насам памаўчаць,*
*Адыдуць гнеў і ліха.*
*І ўсё наноў пачаць...*

Адным словам, амаль першы сярод студэнтаў, сваіх равеснікаў. Тонкі, надзвычай напоўнены роднай Ушаччынай лірык. І пры гэтым — пажыццёвы здубавеццевы гумарыст. Яшчэ з тых самых вожыкаўскіх публікацый з сібарсачаўскім подпісам другой паловы 50-ых гадоў. Так атрымалася, што адметная своеасаблівай арыгінальнасцю кніга Р. Барадуліна "Здубавеццэ" выклікала самы вялікі попыт беларускага чытача апошняга дзесяцігоддзя дваццатага стагоддзя. Асабліва ў прадстаўнікоў сённяшняй так званай вертыкалі. І калі яны яшчэ навідавоку, у прысутнасці некай там аўдыторыі ад яе адварочваюць насы, то (таму з'яўляўся неаднойчы сведкаю) у вузкай кампаніі любяць бавіць хвіліны і гадзіны з гэтым барадулінскім народным перлам.

Пра Р. Барадуліна, паэта і чалавека, можна гаварыць многа. Бо ў яго ёсць усё. Маці, Беларусь, мова і, прашу прабачэння за рыторыку, народ. Праўда, што датычыцца апошняга, дык народ не зусім сённяшні, а большай часткаю, як мне здаецца, учарашні і, веру свята ў тое, народ заўтрашні. Па вопыце настаўніцкай працы цвёрда ведаю: барадулінскія вершы, якія вывучаюцца ў сённяшняй сярэдняй школе, маюць жывы водгук у простых дзіцячых душах. Завітваюць да нас у школу былыя выпускнікі, вучацца тут ужо і іх дзеці: дык вось і тыя, і другія з задавальненнем чытаюць па памяці барадулінскія вершы: "Бацьку", "Трэба дома бывацъ часцей", " Мядоцкі край"... Амаль усе вучні апошняй чвэрці стагоддзя нашай Мётчанскай школы захоўваюць як рэліквіі ў сваіх уласных бібліятэках кнігі паэта, найчасцей — з ягоным аўтографам. І памятаюць, часта згадваюць барадулінскія прыезды ў школу. І просяць, просяць Рыгора Іванавіча ў новыя гасціны. І сапраўды, наш Мядоцкі край чакае зноў паэта і ўслед за ім паўтарае:

*Божа гасцінны!*
*Павек карай*
*Гэтакімі прымусамі,*
*Якія чыніць*
*Мядоцкі край,*
*Робячы ўсіх беларусамі.*

*Мётча —*
*Мяцеліца лёд мяце.*
*Мётча —*
*Борцямі гурбіны.*
*Мётча —*
*Салодкі на кожнай вярсце*
*Мёд,*
*З губ гарачых прыгублены...*

**P.S.** Ніколі не друкаваў сваіх вершаў. Але пад пяты дзесятак гадоў паспрабую першы раз рызыкнуць. Хай прабачыць мне Рыгор Іванавіч, мой старэйшы дружа!

●

*Рыгору БАРАДУЛІНУ*

*Сустракаеш у жыцці дабрыню*
*На ўзлёце юнацкай дарогі,*
*Каб гадамі маліцца дню,*
*Што нас звёў назаўсёды.*

*Сустракаеш у жыцці радок,*
*Нават слова з кнігі паэта,*
*Каб смакаваць барадулінскі ток*
*Кожным звонкарэхавым летам.*

*Сустракаеш у жыцці любоў*
*Да адзінай у свеце — мамы,*
*Каб Рыгорава слова зноў*
*На вякі заставалася з намі!*

*Сустракаеш у жыцці любоў*
*Да няшчаснай сваёй Радзімы,*
*Каб паэтава слова зноў*
*Дух беларушчыны абудзіла.*

**Уладзімір ЛАЙКОЎ,**
**дырэктар комплексу "Школа-садок"**
*в. Мётча, Барысаўскі раён*



**ЧАСАПІС**

## "Белая птица"

Багатая біяграфія ў Галіны Казак. Вучылася ў Мінскім тэхнічным вучылішчы электронікі, пятнаццаць гадоў працавала кантралёрам АТК вытворчага аб'яднання "Інтэграл". Давялося быць і старшым таваразнаўцам у Інстытуце аптычнага станкабудавання, начальнікам забеспячэння ў адной з будаўнічых фірм. І нават асабістым поварам у той жа фірме.

А цяпер жыве Галіна Аляксандраўна ў вёсцы Томкавічы, што ў Дзяржынскім раёне. У той самай, дзе некалі скончыла сярэднюю школу, а гэта непадалёку ад яе роднай Булынкі. З'яўляецца дырэктарам мясцовага сельскага Дома культуры. І, нарэшце, дачакалася сваёй першай кнігі, якая пад назвай "Белая птица" выйшла ў "Беларускім кнігазборы". Адбылося гэта дзякуючы рупнаму ўдзелу пісьменніка А. Масарэнкі, які так шмат зрабіў у падтрымку маладых талентаў, не адзін год працуючы галоўным рэдактарам часопіса "Першацвет", ініцыятарам выдання якога, дарэчы, у свой час стаў. Алесь Герасімавіч укладальнік кнігі Г. Казак, рэдактар і літаратурны кансультант.



Лірычная гераіня Г. Казак — сучасная маладая жанчына, якая прызнаецца: "Я пока не в ладах с судьбою". Яна знаходзіцца ў пастаянным душэўным і духоўным пошуку. А сцвердзіць сябе, знайсці ідэал, які б адпавядаў яе ўяўленням, не так і проста, бо жыццё наша вельмі складанае і ў ім часта не застаецца месца спагадзе, дабрыні. Не кажучы, пра каханне. І выстаяць можна толькі тады, калі не зважаць на маральныя страты, не расчароўвацца, а быць упэўненым у сабе, што і дазволіць выстаяць:

*Иду по жизни...*
*Каюсь и грешу.*
*О том, что потеряла —*
*не жалею.*
*И вспыхнувший огонь*
*слезьми тушу,*
*когда обидой*
*прошлого болею.*

А яшчэ ўратаванне ва ўменні бачыць прыгожае і жыць прыгожым. А прыгожае, у разуменні Г. Казак, не толькі на зямлі, а і ў завоблачных вышынях. І калі адчуеш яго вабнасць па-сапраўднаму, перайначышся. На такую думку настройвае гэты невялікі верш:

*Горит звезда*
*мерцанием игривым,*
*как бриллиант*
*в небесной высоте...*
*Тот на земле*
*становится счастливым,*
*кто близок сердцем*
*к звездной высоте.*

Але шмат прыгожага і на зямлі. І адчуваннем яго, усведамленнем таксама жыве лірычная гераіня Г. Казак. У гэтым упэўнівае верш, якім зборнік адкрываецца. Твор без назвы. Ды і назва яму непатрэбна. Ён вельмі настраёвы, прасветлена лірычны. Але ён адначасова і роздумна-засяроджаны. У ім прыступнічае свая філасофія — філасофія будняў, паўсядзённасці, якая складваецца, са здавалася б, чагосьці дробнага, але з гэтага і вымалёўваецца само жыццё, а яго несупынная хада частка таго працэсу, што з малога вядзе да вялікага. Даверліва-адкрытае прызнанне: "Мне так хотелось // поймать мотылька, // а он из-под рук улетает".

*Похож друг на друга*
*здесь каждый цветок,*
*и все лепестки их —*
*в букашках.*

А цяпер... "Когда же увидела // вновь мотылька... моя рука // перекрестила // созданье Божье". Адбываецца тое, што не магло не адбыцца, калі чалавек па-сапраўднаму любіць прыроду і ўсё жывое. Гэтай улюбёнасцю і напоўнены лепшыя вершы Г. Казак.

**Юрась ВАЙСЁНАК**

---

**ПАЭЗІЯ**

Рыгор БАРАДУЛІН



# Журба аблачынаў

## Усё жыццё...

*Усё жыццё чакаць сябе такога,*
*Якога некалі прыдумаў сам.*
*Сваю журбу пазычыўшы лясам,*
*Не бачыць, як спяшаецца дарога.*

*Усё жыццё гукаць сябе былога,*
*Які аднойчы ўжо адчуў свой страх,*
*Ды, спанталычыўшыся на вятрах,*
*Пайшоў туды, дзе грэлася знямога.*

*Усё жыццё шукаць сябе самога,*
*Які згубіўся недзе ў забыцці.*
*І ўцяміўшы, чаму маўчыць аблога,*
*За небакрай, як сам туман, ісці...*

## In memoria

*Над Беларуссю*
*Сонца марудна ўстае*
*І спяшаецца за навалай навала.*
*Адам Міцкевіч паліць*
*Беларускія вершы свае,*
*Каб напісаў іх Янка Купала...*

## Ісціме...

Айцу Аляксандру НАДСАНУ

*Ажно маладзеюць сцены старыя,*
*Лягчэе з адвечнай скрухай кулёк.*
*Трымае сына*
*Дзева Марыя,*
*А ў немаўляці ў руцэ —*
*Васілёк.*

*У ціхай свячыцы святая праца,*
*Што свеціцца свет*
*Незямным святлом.*
*Святло разгарыцца,*
*Каб мог спрачацца*
*Наш дух вячысты*
*З вачыстым злом.*

*Полымнакрыла б'ецца трывога*
*Нікім не спалоханым матыльком.*
*Душа беларуская йсціме*
*Да Бога*
*З нябеснаю свечкаю —*
*З васільком.*

*Лондан, 1998*

## Усё апроч...

*Прыядаецца ўсё,*
*Апроч*
*Лусты жытняй*
*Ды бульбы сопкай.*
*Радасць скача апошняй стопкай*
*Перад тым, як кульнуцца ў ноч.*

*Праядаецца ўсё,*
*Апроч*
*Імені свайго і ўспамінаў.*
*Той, хто засветла свет пакінуў,*
*Рэху не загадае:*
*Кроч!*

*Прыглядаецца ўсё,*
*Апроч*
*Неба ды аблічча матулі.*
*Хто згубіўся ў агульным гуле,*
*Хай пільнуецца родных воч...*

## Бы ў вастрозе...

*Недзе ў коміне вецер засвішча,*
*Зорку золак сустрэне прыхільна.*
*Хочуць рукі адчуць тапарышча,*
*Цапавільна, цаўё, касавільна*

*Гэта цёмныя рухі хацення*
*Знерухомець не могуць з гадамі.*
*Ці не гэта няволя карэння*
*Без святла ў вязях тхла*
*Галадае.*

*У жыцця з промняў сонечных краты.*
*Думкі, быццам алоўкі ў пенале.*
*І цясляр, і касец, і араты*
*Ува мне, бы ў вастрозе, сканалі...*

## Адпусці...

*Падраслі ў Каліпсо сыны —*
*Гэта ад Адысея яны.*
*Плачуць вінаградныя лозы.*
*Дый салодкія іхныя слёзы*
*Не салодзяць горкай віны.*

*І мінае ўжо сёмы год.*
*Ані радуе ўтульны грот,*
*Каліпсо ўся ў празрыстым, срэбным.*
*Дома ўсё даражэйшае ў зрэбным.*
*Сум паўзе,*
*Як у цемры крот.*

*Чымся хвалі чужыя пасці,*
*Лепей на радзіму паўзці.*
*Ад самоты й гара лысее.*
*— Каліпсо, адпусці Адысея, —*
*Зеўс загадвае, —*
*Адпусці!*

*Ці сандалі з гранітных пліт,*
*Ці марудна ладзіцца плыт,*
*Ці ў дарогу грузяць замнога.*
*Што ж так стрымлівае сівога*
*Адысея*
*Спакойны міт?*

## Начная Вільня з-пад самалётнага крыла

*Заімгнелым зрокам*
*Узіраемся ў цемру пільна.*
*Але толькі таго і бачым,*
*Як у няпэўнасці*
*На далані шырокай*
*Пацеркі вуліцаў Вільні*
*Свецяцца бурштыном гарачым...*

## Адна

*На прагалістай лесасецы*
*Яшчэ не заціх*
*Сснаў паваленых крык.*
*І засталася адна сасна*
*Натое, здаецца,*
*Каб на ёй*
*Павесіўся маладзік...*

*Стакгольм, 1999*

## Прыцемкавае

*Калі сцямнеецца ў душы і ў хаце,*
*Прыходзяць вершы, як пазныя госці,*
*І маняцца застацца на начлег.*
*Я іх прашу:*
*Мой сум закалыхайце,*
*Маёй жа мне пазычце весялосці,*
*Якою грэўся яблыневы снег...*

*Саджу на чысты кут і нетаропка*
*За чаркай звечарэлага ўспаміну,*
*Як дома колісь, з імі гаманю.*
*Парой гамонку перапыніць кропка.*
*Сказ нецярпліва выпрастае спіну.*
*І рупіць рыфме крыўдзіць цішыню...*

## Мой радавод

*А радавод мой*
*Не гэтакі ўжо й сукаваты.*
*Радаводнага дрэва*
*Жывучыя карані*
*Завузлаваціліся*
*Ля мамы й таты,*
*І зноў падаліся*
*Да незгаворлівай глыбіні.*

*Ці ўзяць няўмольнасць*
*Хацела большую пошліну.*
*Ці да літасці*
*Не даткнуліся азяблыя ксты.*

*Унучка, дачка*
*Ды я, ўжо апошні,*
*Дрыжым на галінцы*
*Абнадзееныя.*
*Як лісты...*

## Нявогляддзю

*Застолле шумнае гуло*
*І ў шуме тым жыццё мільгнула,*
*І лёгкім поміргам міргнула —*
*І маладога павяло.*

*І завяло ў ружовы змрок,*
*І ап'яніла й паланіла,*
*І знікла ранішняя сіла,*
*І сум сустрэўся як знарок.*

*Ідуць вясёла халады.*
*Час развітацца з даўнім шумам,*
*Пачціва павітацца з сумам*
*На ўсе астатнія гады.*

## Сцюдзёна

*Сябры ў прыцішаным чаўне*
*Плывуць памалу ў праайчыну.*
*Што будуць сніць*
*У вечным сне*
*Пад дахам цёмнага спачыну?*

*Чакаць умее гэны край.*
*Развітваючыся, дарэчы*
*Замест рахманага бывай*
*Сказаць сцюдзёна:*
*— Да сустрэчы...*

## Журлівае

*Усё, як той вецер золкі,*
*Прайшло.*
*Прайшло,*
*Як праз вушка йголкі,*
*Праз зло.*

*Прайшло праз дасвецці й змярканні*
*І сны.*
*Сплылі, каб вярнуць расстанні,*
*Чаўны.*

*Сплыла журба аблачынаў,*
*Ільдзін.*
*І ты застаўся для напамінаў*
*Адзін.*

## Дым

*Хоць дым умее гаварыць,*
*Не скажа, што яму гарыць.*
*Агонь глядзіць вачмі рудымі.*
*Дым спавівае небакрай,*
*Дарогу ў пекла,*
*Сцежку ў рай.*
*Цяплей дрыжыцца*
*Зорцы ў дыме.*

*Жыццё гарыць, а дым жыве*
*І ў ногі сцелецца траве.*
*І пагарэльца мроі прыме,*
*Хто мог пераканацца ў тым,*
*Што ўсё на гэтым свеце —*
*Дым.*
*І не відаць нічога ў дыме.*

## Не мае

*Калі агонь патух,*
*І вугалёў даволі.*
*Свабодны толькі дух,*
*Душа не мае волі.*

## Азірнуліся...

*Пагаманіць сышліся дрэвы ў сад.*
*І за гамонкай іх зіма заспела.*
*Аціхлі. Азірнуліся назад —*
*Навокал бела-бела...*

## Засячы!

*Яшчэ жывы,*
*Засячы на ілбе,*
*Што шлях за табой заняты.*
*Наступнік —*
*Гэта той, хто табе*
*Ужо наступае на пяты.*

## Табе

*А мне зусім не ў галаве,*
*Хто з нас каго перажыве,*
*Мой верны кот Міроне.*
*Што мае быць, не праміне,*
*Сядзіш ты на плячы ў мяне,*
*Як цар на хісткім троне.*

*Нам варыцца ў вадным катле.*
*Ты чорны, як адчай, але*
*З бялюткім падбародкам.*
*Ты любіш слухаць цішыню.*
*Лепш за мяне пяеш курню*
*Нахабнахвостым коткам.*

*Ты ў марцаванні не слабак.*
*Ты цвеліш, як і я, сабак*
*І не бяжыш наўцёкі.*
*Табе на славу напляваць,*
*Абы свой кус упаляваць,*
*Мой лірык соннавокі.*

*Нам сырадою не стае.*
*І ўсё галовы гнем свае*
*Ніжэй над плыткім сподкам.*
*Хто здоўжыць век — тае лухты, —*
*Я з белай барадой ці ты*
*З бялюткім падбародкам...*

## Дазнаешся

*ТУТ*
*Хапае пакут.*
*ТАМ —*
*Дазнаешся сам.*

ПРОЗА

# ЗЯЛЁНЫЯ ВОЧЫ

Леанід МАРАКОЎ



З НІЗКІ "НЕПАМЯРКОЎНЫЯ"

ХРЫПАТЫ заўважыў яе адразу. Пышныя чорныя валасы нават пасля васьмідзённай язды-пакуты ў вагоне-цялятніку былі дагледжаныя. Акуратна ўкладзеныя, яны быццам гаварылі: не было ні этапу, ні "вагона-цялятніка", ні апошніх трох дзён без ежы... Стомленымі былі толькі яе вялізныя зялёныя вочы... Але і стомленыя, яны зачароўвалі, гіпнатызавалі, ненавідзелі... Прыкмеціўшы іх позірк на сабе, ён адчуў, як па целе прабег халадок. "Паглядзела, быццам змяюка перад кідком... Пагарджае, — прачытаў Хрыпаты ў яе вачах, і ў яго перахапіла дыханне: пагарда і нянавісць яго толькі ўзбуджалі. — Ад пагарды далейшы шлях да асалоды, але саладзейшая сама ўцеха", — сказаў ён сабе... Яшчэ яго ўзбуджала кроў, але гэта — потым...

Усю ноч начальнік Мінусінскага лагпункта трыццацівасьмігадовы Ізмаіл Віктаравіч Храпін, ці як яго не толькі за голас зняволеныя звалі між сабою — Хрыпаты, не мог заснуць. Толькі раніцай, знясілены працяглым "змаганнем" з алкаголем, арганізм здаўся...

Спачатку зеленавокая была далёка, але, пачуўшы ягонае "падыдзі", раптам, нечакана, паслухалася і пайшла да яго... Вось яна набліжаецца... Яна ўжо блізка... Вельмі блізка... Ён глядзіць на яе доўгія пышныя валасы, палаючыя вочы, вялікія вішнёвыя вусны... Яны ў яго пакоі... Яны ўдваіх... Ён прыціскаецца да яе, гаворыць: "Не бойся, распранайся, усё добра, усё будзе добра, усё будзе..." Зялёныя вочы не адказваюць, працягваюць глядзець на яго, і ў позірку ён зноў адчувае тое ж, што і тады, першы раз... Ён узбуджаецца, паўтарае яшчэ, але ўжо па-іншаму: "Распраніся, сце-е-ва, — расцягвае словы, — або я павыпальваю твае пругкія грудкі... распраніся і на калені. Паглядзім, як ты зможаш за сваё жыццё пастаяць..."

Чорнавалосая адвяла вочы, у якіх ён паспеў прачытаць спакой, адступіла назад і пачала расшпільваць гузікі...

"Спрытна, — падумаў ён, — вопыт. Вопыт, як і талент, не прап'еш. Толькі талент — ён ёсць ці не, а за вопыт трэба пазмагацца, папацець..." За гэтыя тры гады яму шмат давялося папацець перш чым навучыцца браць адразу. "Вось і гэта грудастая зараз запрацуе..." І, прадчуваючы асалоду, якую дасць яму зеленавокая, ён пачаў ацэньваць, што мае на гэты раз...

Яна зняла кофтачку і, адчуўшы, як яго позірк мацае праз ліфчык яе грудзі, павярнулася да яго спіной і сказала: "Рас-шпілі..." Павольна, п'янеючы ад задавальнення, ён набліжаўся да зеленавокай... Зараз ён ёй "расшпіліць"... Зараз павесяліцца... Хрыпаты сціснуў правую руку ў кулак: ён любіў з крывёю...

Калі да дзяўчыны заставаўся адзін крок, яна нечакана павярнулася і кінула ў яго кофту... Кофта аказалася ў нейкай ліпкай слізі. Ледзь ададраўшы яе ад твару, ён раптам убачыў перад сабой вялізную, у ягоны рост, змяю. Разяўленая пашча гадзюкі аддалялася ад яго. "Набірае адлегласць, — зразумеў ён. — Разганяецца... Прыпынілася... Пайшла... А-а-а-а..." Змяя кінулася на яго, учапілася ў вусны і, адараўшы ніжнюю губу, адскочыла назад. Заліваючыся ягонай крывёй, яна прашыпела: "Яшчэ пацалуначак?.."

Прачнуўся Хрыпаты ад свайго ж крыку... Першым адразу, як і заўсёды, ён убачыў Фелікса. "Ізмаіл Віктаравіч, — спытаўся "слуга" спакойна, быццам і не чуў крыку, — гарбату несці?"

— Каб цябе халера, тупіца! Кожны раз адно і тое ж!.. Бачыш, кепска мне...

Начлагера яшчэ не паспеў дагаварыць, як Фелікс знік у дзвярах... "Не жылец, — падумаў пра сябе Хрыпаты. Неахвотна падняўся, падышоў да вядра з вадой. Зачарпнуў кубкам, які плаваў у ім, ледзяной вадкасці, пырснуў сабе ў твар і прахрыпеў: — У-у-х!.."

Холад канчаткова разбудзіў яго. Ён успомніў поўныя нянавісці зялёныя вочы, якія ззялі на вялізнай змяінай галаве, што ляцела на яго... Прысніцца ж такое...

Фелікс стаяў з падносам на парозе і, не міргаючы, як адданы сабака, глядзеў на гаспадара. Прыкмеціўшы "слугу", Хрыпаты прысеў за стол ля акна і махнуў Феліксу: "Давай". "Слуга" ўмомант падляцеў да гаспадара і стаў здымаць з падноса снеданне: хлеб, сала, капусту, гарэлку...

Выпіўшы шклянку "лекаў", начлагера пакрысе стаў ачуньваць пасля "ўчарашняга":

— Ну, што там, расказвай...

— Новенькіх размеркавалі... — пачаў было Фелікс даклад.

— Ды я не пра гэта, — перабіў яго Хрыпаты.

— А-а... — сумеўся Фелікс і, скеміўшы, чаго ад яго хочуць, дадаў: — Чарнявую ўладкаваў... На кухню... Каб не застудзіла сваю красу... У тайзе зараз, самі ведаеце...

— Давай-давай, свабодны... Ідзі, дай паесці, — супакоіўся начлагера, пачуўшы, што ўсё ідзе па плану... Урэшце, як заўсёды...

Калі Фелікс пайшоў, Хрыпаты наліў яшчэ, "хукнуў", выпіў, паглядзеў на ежу, але закусваць не стаў: пасля такога сну кавалак у горла не лез. Перад вачыма стаяла чарнявая... "Трэба праведаць", — падумаў ён, кульнуў яшчэ і пачаў апранацца...

Нырнуўшы ў пякуча-марозную раніцу, начлагера прайшоў варту і апынуўся перад пляцам, на якім часам ад нудоты "трэніраваў" некаторых "асабліва разумных". Пазаўчора адзін такі разумны, "заходнік", Язэпам клікалі, тут і загнуўся... "Але спачатку, вырадак, — мацюкнуўся Хрыпаты, — ледзь мяне ў магілу не загнаў на холадзе..."

Начлагера перайшоў пляц, абагнуў сталовую і накіраваўся да тыльнага ўвахода на кухню... Увайшоўшы ў "падсобку", Хрыпаты ледзь не збіў "сваю зеленавокую", якая ля самых дзвярэй абірала бульбу і галавы не падняла. Хрыпаты незаўважаным быць не прывык і, паставіўшы бот ля міскі з шалупіннем, сказаў: "Вочкі падымі, падружка". Не ўбачыўшы "вочак" і не пачуўшы адказу, ужо заводзячыся, ён дадаў па-іншаму: "Устань, сука!"...

Дзяўчына не выцягнулася, як патрэбна было, "у струнку", а павольна прыўстала і пачала прадстаўляцца па статуту: "Зняволеная..."

— Хопіць, хопіць, — прымірэнча перабіў яе Хрыпаты, убачыўшы звычайную на такія словы рэакцыю, — сядай, працуй, не мітусіся. Але нечакана схапіў яе за падбародак і прашыпеў: "У дзевяць да мяне. Зразумела? У дзевяць... Дзевяць ноль пяць буду лічыць спазненнем... Ты, я думаю, ужо ведаеш, што спазненне ў нас, — як непадпарадкаванне, як крок улева, крок управа... Ведаеш?.. Добра, працуй... І памятай — у дзевяць..."

Яшчэ ўчора, калі зеленавокай паведамілі страшэнную навіну і гэтым забілі ўсе яе надзеі на вяртанне ў мінулае, на вяртанне ў шчасце, яна амаль перастала разумець, што адбываецца... Чаму яна тут?.. Дзе гэта — "тут"?.. Зэчкі і зэкі, што бегалі навокал, "вертухаі", усе гэтыя "цені" праносіліся, як сон, у яе ўсведамленні... І толькі цяпер, пачуўшы хрып начлагера: "Устань, сука!", — яна нібы прачнулася. "Сукай" яе яшчэ ніхто не называў... Нават у "амерыканцы"...

Цяпер яна думала толькі пра адно: як яму адпомсціць... Як забіць забойцу...

Ужо ў бараку, даведаўшыся, што начлагера ўвечары ніколі не бывае цвярозым, яна супакоілася: яна ведала, што будзе рабіць далей...

●

...Калі "вертухай" вёў зеленавокую да Хрыпатага, Фелікс, сустрэўшы іх, загадкава ўсміхаючыся, нахіліўся да яе і сказаў:

— Вельмі не высільвайся, ён, як заўсёды, ужо "гатовы". Мне што-небудзь пакінь... Я — не ён, я расплачуся... — Зачыняўшы за ёй дзверы, ужо звяртаючыся да стралка, дадаў: — Вочы, га? Так бы і выразаў на памяць...

— Так, — пачухаў стралок патыліцу, — ты б не толькі вочы павырэзваў...

Калі зеленавокая ўвайшла і ўбачыла, што начлагера спіць, адразу павесялела і з усмешкай прашаптала сама сабе пачутую ў лагеры прыказку: любіць літара "х" хрыпячага, хрыпатага, падобнага да храка, начхрэна Храпіна... Нічога, сёння ён храпе-хрыпіць апошні раз...

— А-а, — у сне прамармытаў начлагера і заціх... Толькі цяпер зеленавокая пачула крокі. "Вертухай вяртаецца...", — зразумела яна і імгненна прытулілася да Хрыпатага. Як аказалася, своечасова. Фелікс вырашыў праверыць, як там справы ў гаспадара, асцярожна прачыніў дзверы, але, убачыўшы "закаханую парачку" прабурчэў:

— Усё нармальна... Як заўсёды...

Успомніўшы пра новенькіх, ён вырашыў, што час і самому прайсціся па лагеры, прыгледзецца...

Паварушыўшы Хрыпатага і пераканаўшыся, што той у глыбокай п'янай коме, зеленавокая падзякавала Богу, што ёй не давялося яго спойваць... Асцярожна, стараючыся не трывожыць, яна пачала распранаць Хрыпатага... "Спаць з жанчынай зручней распранутым", — паўтарала яна, быццам напяваючы...

Начлагера і голы працягваў храпсці. Зеленавокая дастала знойдзеную яшчэ ў вагоне-цялятніку і цудам схаваную падчас вобыску вяроўку і звязала яго... Паглядзеўшы на звязанага па руках і нагах Хрыпатага, яна падумала, што для такога бугая гэтага будзе мала, і прывязала яго яшчэ да ложка.

Ішоў час. Хрыпаты пачаў стагнаць, варушыцца... Дачакаўшыся ягонага здзіўленага "А-а", зеленавокая заткнула яму рот яго ж рукавіцай. Акаціўшы начлагера каўшом сцюдзёнай вады з вядра, каля якога той кожную раніцу "маржаваўся", яна канчаткова прывяла яго ў прытомнасць...

Убачыўшы зеленавокую, Хрыпаты адразу рвануўся да яе, але, быццам прыдушаны чымсьці цяжкім, не змог нават паварушыцца. "Гэта працягваецца адзін з маіх страшных сноў, — падумаў начлагера. — Нічога... Хутка я прачнуся... Хутка".

Калі Хрыпаты зразумеў, што ледзяная вада, зеленавокая — гэта не сон, ён паспрабаваў вырвацца, але зноў не змог паварушыцца. Ён шаптаў сабе: "Не. Гэта не сон. Яны прыйшлі... Прыйшлі па мяне... Я ведаў, што яны прыйдуць. Чакаў іх... Тых, каго забіваў... І вось яны тут. Яны прыйшлі па маю душу..."

"Слухай, нелюдзь, — зеленавокая схапіла Хрыпатага за горла, — калі мяне згвалтавалі ў "амерыканцы" і калі пасля я адчула, што нашу дзіця, я паклялася, што заб'ю сябе, абавязкова заб'ю... Але!.. Але вазьму "туды" з сабой і такога, як ты, вылюдка... Калі ж раптоўна з'явіўся шанц убачыць мужа, я сказала сабе: чакаць! Цярпець і чакаць. Любой цаной дачакацца сустрэчы з мужам. І я спазнілася толькі на дзень..."

Перад вачыма Хрыпатага з'явіўся нож... "Мой нож... Фелікс ім сала наразае, каб танчэй выходзіла.. Танчэй — смачней... Вось неданосак, не прыбраў нож", — пранеслася ў галаве Хрыпатага... Гледзячы на лязо, якое знікала з вачэй некуды ўніз, начлагера з жахам зразумеў, што задумала зеленавокая...

Яна адцягнула ягоны адростак і разанула нажом...

— На-а!..

Рукавіца выпала з разяўленага ў нямым крыку рота, і праз імгненне нечалавечы рык разарваў яе барабанныя перапонкі... Акрываўленымі рукамі яна схапіла Хрыпатага за горла, але не для таго, каб заглушыць яго выццё ці задушыць вылюдка, — яна хацела бачыць ягоныя вочы...

— Цяпер, нелюдзь, я думаю, ты адчуў тое, што давялося спазнаць іншым, тым, што былі да мяне... Тым, каго ты катаваў, гвалтаваў, забіваў... Жыў скацінай, ёй і падохнеш, — прашаптала зеленавокая ў вочы Хрыпатаму, які ўжо не хрыпеў...

У калідоры пачуўся тупат ног. Нехта бег сюды. "Зноў служку не спіцца... Гэтая гніда таксама хацела мяне", — успомніла зеленавокая ягонае абяцанне: "Я не ён, я расплачуся..." Падбегла да дзвярэй, затаілся... У пакой уварваўся Фелікс і яна кінулася на яго... Нож ужо ўваходзіў у тоўстую шыю, калі "вертухай", што ўскочыў за Феліксам, ударам нагі адкінуў яе ўбок. Наляцеўшы на рог стала, зеленавокая страціла прытомнасць...

●

...Яна ведала, на што ішла, і цяпер, калі яе, голую, вялі на расстрэл, была зусім спакойная. "Вертухаі" захацелі, каб яна пайшла "туды", як і Хрыпаты... Ведала яна цяпер і тое, што Хрыпаты не жартаваў, калі казаў, што "грудзі павыпальвае..." Слуга нелюдзя аказаўся вялікім майстрам... Як і абяцаў, ён з ёю разлічыўся...

Холад студзіў агонь абпаленых грудзей... Яна ішла на расстрэл... Яна ведала: ідзе да яго, да свайго Бога... Як дзве маленькія зорачкі, зіхацелі ўначы яе зялёныя вочы... "Нас больш, чым нелюдзяў, — думала яна, — і калі дзеля забойства вылюдка павінен загінуць нехта з нас, то раней ці пазней застанёмся толькі мы... Нас будзе мала. Магчыма, вельмі мала, але свет будзе іншым, без нелюдзяў..."

...Следчая брыгада, накіраваная ў Мінусінск для расследавання абставін забойства начальніка лагернага пункта, да месца прызначэння прыбыла толькі праз тыдзень надвор'е затрымала...

Начальнік оперчэкісцкага аддзела сядзеў за сталом Хрыпатага, глядзеў праз акно на драцяную агароджу, пастукваў "беламорынай" і думаў: як ёй удалося патрапіць у лагер, дзе адбываў пакаранне муж, які загінуў за дзень да яе прыбыцця, ведае толькі яна, але ў тым, што яна зрабіла ўсё, каб ляжаць у адной з ім лагернай яме-магільніку, ён не сумняваўся...



**ЧАСАПІС**

## *Не збяднелі на таленты*

**Песня "Мілы глядач" Таццяны Моўчан на словы Аляксандра Зотава ўпершыню была выканана Тэатрам дзіцячай эстраднай песні цэнтра пазашкольнай работы Ленінскага раёна сталіцы. (Кіруе калектывам сама аўтарка.) Прэм'ера адбылася падчас II тура песеннага конкурсу V Мінскага фестывалю выканаўцаў эстраднай песні і танца "Белая Русь".**

**75 канкурсантаў за сем гадзін выканалі больш як 160 твораў, і на II тур журы пад старшынствам народнага артыста РБ Леаніда Захлеўнага выбрала 31 лепшага выканаўцу. Яны і змагаліся за ўзнагароды фестывалю. Спявалі песні В. Іванова, І. Лучанка, В. Раінчыка, А. Елісеенкава, Э. Ханка, П. Яроменкі, Д. Яўтуховіча на вершы В. Вярбы, А. Акалавай, В. Жуковіча, А. Бадака, В. Паліканінай, Г. Бураўкіна ды інш. Вызначана 14 лаўрэатаў, у іх ліку і Тэатр дзіцячай эстраднай песні пад кіраўніцтвам Т. Моўчан. Гран-пры прысуджаны аспіранту БДУ Дзмітрыю Каралёву і 14-гадовай Таццяне Ліпніцкай з ЦТДіМ "Эўрыка" Фрунзенскага раёна Мінска.**

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

## *Гэта наш "Вясёлы цырк"*

**Спектакль "Вясёлы цырк" — нядаўняя прэм'ера Дзяржаўнага тэатра лялек. Калі ў 1963 годзе Анатоль Ляляўскі напісаў гэтую п'есу, ён не мог ведаць, што яна знойдзе свайго гледача і зараз, напрыканцы стагоддзя. Дзіўныя метамарфозы адбываліся з гэтай пакутнай п'есай. Вучоныя дзядзькі і цёткі не заўважылі літаратурных вартасцяў "Вясёлага цырка" — бо, можа, былі ўдзельнікамі яго? І п'еса не ўбачыла свет на лялечных сцэнах былога Савецкага Саюза. "Вясёлы цырк" быў пастаўлены на сцэне Дзяржаўнага тэатра лялек БССР у 1963 годзе (рэжысёр — Анатоль Ляляўскі, мастак — Леанід Быкаў, музычнае афармленне — Барыса Кавалеўскага) і ў 1969 годзе (рэжысёр — Вікторыя Казлова, мастак — Аліна Фаміна, кампазітар — Анатоль Кочын). На жаль, гэтыя спектаклі не з'явіліся значнай падзеяй, няглядзечы на вялікі глядацкі інтарэс.**

**Па аўтарскай ідэі ў "Цырку" існуюць дзве плыні — дыктатарскай самаўпэўненасці (роля мастацкага кіраўніка-"Рэжысёршчыкава") і артыстычнай будучыні (роля уніфарміста-"Мяцёлкіна", які хоча рэалізаваць свой талент). Канфлікт атрымліваецца вельмі дакладны, па класічных канонах. Героі "Цырка" Мяцёлкін і ягоны сабачка "Бобік", танцуючы ў фінале пяшчотную тэму "надзеі", як быццам сцвярджаюць, што галоўнае ў жыцці і творчасці — гэта шчырасць і дабрыня...**

**Два дзіўныя тандэмы: аўтар, Анатоль Ляляўскі і рэжысёр Аляксей Ляляўскі, мастак Уладзімір Кандрусевіч, кампазітар Уладзімір Кандрусевіч, разам з артыстамі стварылі цудоўнае сцэнічнае свята. Клоуны пакідаюць арэну з сумнымі вачыма, азіраючыся на вясёлую карусель, якая будзе круціцца вечна, як зямля...**

**Уладзімір ГРАМОВІЧ,**
**заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь**

## *Запаліліся традыцыйныя зоркі*

**Чатыры гады запар па ініцыятыве Брэсцкага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання "Беларускі фонд культуры" і ўпраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама ў горадзе над Бугам праводзіцца традыцыйная імпрэза-ўшанаванне "Берасцейскія зоркі". Лепшыя з лепшых вызначаюцца па дзевяці намінацыях: "Архітэктура", "Выяўленчае мастацтва", "Журналістыка", "Культура", "Літаратура", "Музыка", "Тэатральнае мастацтва", "Лепшы фундатар культуры" і "Чалавек года".**

**"Берасцейскімі зоркамі-99" сталі архітэктар, кіраўнік уласнай творчай майстэрні "Студыо А-3" Аляксей Андраюк, мастачка Тамара Паўлючук, паэт, загадчык аддзела мастацкіх праграм Брэсцкага абласнога тэлебачання Мікола Пракаповіч, мастацкі кіраўнік Пінскага канцэртнага калектыву "Палескія зоры", пісьменніца Валянціна Кукса, саліст Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра эстрады Аляксандр Шукайла, акцёр Брэсцкага тэатра лялек Анатоль Мацвееў; лепшым фундатарам названы дырэктар АТ "Брэсцкі ЦУМ" Віктар Валюшыцкі. А Чалавекам года прызнаны курсант Ваеннай акадэміі Дзмітрый Гвішыані — які атрымаў гэтае ганаровае званне (на жаль, пасмяротна) за мужныя паводзіны пры надзвычайным здарэнні: тушэнні пажару лакаматыва цягніка N 660 "Брэст—Мінск" 28 жніўня мінулага года каля станцыі Ліпнікі ў Драгічынскім раёне.**

**І. Х.**

МЕРКАВАННЕ

# "Тры кіты" беларускай музыкі

## ПРА ШЛЯГЕР, АКАДЭМІЗМ І КАН'ЮНКТУРУ ЯК НЕГАТЫЎНЫЯ ТЭНДЭНЦЫІ

1

Вельмі падабаюцца нам роўныя лічбы. Як быццам натуральным чынам значную частку музычна-канцэртнага жыцця з савецкіх часоў да сённяшняга дня складаюць усялякія юбілейныя мерапрыемствы ў гонар розных дзеячаў і іх дзейнасці. Часам здаецца нават, што менавіта гэта і ёсць асноўны сэнс існавання айчыннай музычнай культуры. Устойлівая традыцыя дзесяцігоддзяў, безумоўна, абавязвае падвесці некаторыя падрахункі напярэдадні новага тысячагоддзя.

Змена грамадска-палітычнай сітуацыі на пачатку 90-х даволі хутка адбілася на музычна-культурным жыцці. Яно страціла на нейкі час залежнасць ад ідэалагічных патрабаванняў. З'явілася магчымасць пазнаёміцца з шэрагам музычных твораў, што існуюць па-за межамі ідэалагічных забабонаў.

Успамінаецца вялікая грамадская цікавасць да канцэртаў тагачаснага фестывалю сучаснай музыкі ў Мінску, першых выступленняў ансамбля "Класік-Авангард", да першых крокаў Беларускай асацыяцыі сучаснай музыкі, да аўтарскіх канцэртаў А. Шнітке, З. Краузэ, К. Аха, Б. Цішчанкі, В. Капыцько ды інш. Цікавасць да тэатральных увасабленняў музыкі Стравінскага, Меноці, Орфа, Пракоф'ева, Бандарэнкі, Залётнева ды інш., да першых выкананняў на Беларусі некаторых сімфанічных і камерных твораў Айвза, Брытэна, Губайдулінай, Варэза, Дзянісава, Крамба, Кэйджа, Ф. Караева, Мінчава, Лютаслаўскага, Екімоўскага, Штокгаўзена, Коўэла, Шчаціньскага, Шчарбакова... Калі-нікалі слухачы атрымлівалі магчымасць пазнаёміцца і з новымі творамі кампазітараў Беларусі (у фестывалях сучаснай музыкі, апошні з якіх адбыўся ў 1995 годзе, гучалі творы С. Бельцюкова, Г. Гарэлавай, В. Войціка, А. Літвіноўскага, У. Кур'яна, В. Кузняцова, А. Соніна, С. Янковіча, Д. Смольскага, Н. Голубевай, А. Друкта ды інш.). Упершыню прагучалі ў Мінску многія з класічных і рамантычных партытур: сімфоніі Г. Берліёза, А. Брукнера, Ё. Гайдна, В. А. Моцарта, А. Дворжака, Г. Малера, вакальна-сімфанічныя творы Д. Вердзі, Р. Вагнера, Я. Брамса... З вялікай цікавасцю ўспрымаліся ўзоры рускай духоўнай музыкі Д. Бартнянскага, П. Чайкоўскага, С. Рахманінава, А. Грачанінава, П. Часнакова, Ю. Фаліка, сучасныя беларускія духоўныя творы Л. Шлег, С. Бельцюкова, А. Літвіноўскага, А. Хадоскі ды інш.

Подых новай музыкі ў пэўнай ступені змяніў нават артадаксальна-кансерватыўны падыход да кампазітарскай адукацыі ў сценах Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, дзе пошукі свежых сродкаў стварэння мастацкага сэнсу пачалі зрэдку выбівацца з-пад гнёту музейна-акадэмічных традыцый.

Аднак перыяд ажыўлення музычна-канцэртнага жыцця даволі хутка згас пад адчувальным уціскам эканамічных і сацыяльных цяжкасцяў у дзяржаве. Усё больш высокапрафесійных музыкантаў у пошуках магчымасці нармальнай творчай працы выязджаюць з Беларусі за мяжу. Разам з тым, на радзіме з жахлівай хуткасцю распаўсюджваюцца разнастайныя формы поп-музыкі, якія хутка і камфортна прыстасаваліся да новай палітычнай кан'юнктуры, апанаваўшы масавай музычнай свядомасцю беларусаў. Шматлікія шлягерныя фестывалі (schlager — нямецк., модная эстрадная песенька, папулярная мелодыя) у наш час займаюць, як падаецца, ганаровае месца ў справах Міністэрства культуры, Нацыянальнага тэлебачання і некаторых іншых дзяржаўных устаноў. Літаральна за 3-4 гады ўдалося дасягнуць унікальнага "балансу" ў суадносінах папулярных масавых і сур'ёзных прафесійных напрамкаў развіцця музычнай культуры.

Грунтуючыся на практыцы апошняга часу я казаў бы аб пранікненні "шлягернай свядомасці" нават на оперную і філарманічную сцэны. Дастаткова прыгадаць бокс у "Шлюбным вэксалі" ці "мякказратычны" танец на сталеў "Траўяіце", трактаванья "добразычлівай" крытыкай як адкрыццё рэжысёра. Хаця насамрэч гэта — дэманстрацыя адсутнасці мастацкага густу і разумення стылістыкі італьянскай оперы. Шлягерная з'ява, бясспрэчна, — і канцэрты папулярных класічных мелодый (яны ўсё часцей падмяняюць сапраўдную мастацкую дзейнасць філармоніі). Яскравы прыклад — заключны сімфанічны вечар мінулай "Беларускай музычнай восені". Дзіўныя "прафесійныя падыход" да выканання, паказаны аркестрам Акадэміі музыкі, навеў на думку пра неабходнасць увесці якое-небудзь новае званне — напрыклад, для адзнакі за фальш аркестравых груп, ці за няздольнасць патрапіць у метрарытмічную долю. А канцэрт жа адбыўся ў зале, якая чула С. Рыхтэра і М. Пятрова, Л. Когана і Я. Мянухіна! Ды і фестывальны вечар камернай музыкі з удзелам віяланчэліста М. Драбінскага і піяніста Ю. Гільдзюка станоўча адрозніваўся ад згаданага "сімфанічнага шлягера" прафесійным стаўленнем да справы.

Нельга не адзначыць асабістых захадаў мастацкага кіраўніка Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ю. Гільдзюка па ўратаванні ледзь не зведзенага на нішто некалі буйнога музычнага фестывалю. Ды, на жаль, спробы прывабіць публіку папулярным рэпертуарам усё часцей уваходзяць у канцэртную практыку нашых паважаных музычных калектываў, якія арыентуюцца на "гастрольныя заказы" замежных імпрэсарыо. І калі імкненне матэрыяльна малазабяспечаных музыкантаў неяк палепшыць сваё фінансавае становішча ў замежных турнэ яшчэ можна зразумець, дык падтрымку "шлягернай" тэндэнцыі ў сцэнах роднага дома кіраўнікамі, напрыклад, творчых арганізацый ніяк нельга назваць дзейнасцю на карысць нацыянальнай культуры.

2

Згадаўшы тую ж "Беларускую музычную восень" і канцэрт на яе адкрыцці, можна акрэсліць яшчэ адну сур'ёзную праблему, якая ператварылася амаль у нацыянальную традыцыю.

На працягу многіх гадоў прынята пачынаць фестываль у Мінску выкананнем буйнога твора беларускага аўтара. Пажадана — прэм'ерай. Пажадана — прафесара ці заслужанага дзеяча. Гэтым удзел нашых кампазітараў у фестывалі можа быць вычарпаны.

Дык вось, як і мае быць, акадэмічны аркестр пад кіраўніцтвам акадэмічнага маэстра граў твор акадэмічнага прафесара, вычарпальна ўзнавіўшы ў філарманічнай зале сам дух акадэмізму. (Акадэмізм — выключна тэарэтычны напрамак дзейнасці, адарваны ад патрабаванняў жыцця; кірунак у мастацтве, заснаваны на дагматычнай схільнасці да канонаў і традыцый.) Тут жа да я… далучыўся і эклектызм — як механічнае з'яднанне разнародных паводле стылёвага паходжання выразных сродкаў (частка з якіх цікавая сёння хутчэй як гістарычны факт). З'яднанне на падмурку хрэстаматыйных літаратурных тэкстаў у мэтах стварэння маштабнай прэтэнцыёзнай кампазіцыі. Міжволі ўзнікла паралель з творчасцю італьянца Гаспарэ Спанціні, які ў часы Напалеона выводзіў сланой на сцэну Парыжскай оперы...

Мне падалося, што змена назвы "Беларуская кансерваторыя" на "Акадэмія музыкі" знайшла ў тым канцэрце вобразнае даходлівае тлумачэнне, як і змест прыярытэтнага ў гэтай установе падыходу да музычнага мастацтва. Звужанасць акадэмічнага кругагляду лагічна вядзе да нежадання (ці няздатнасці) творча перапрацоўваць атрыманыя навыкі і веды, развіваць традыцыі,ператвораныя ў догмы.

На вялікі жаль, гэта праяўляецца нават у найбольш таленавітых выхаванцаў акадэміі. З году ў год нашы даволі шматлікія лаўрэаты вельмі шматлікіх міжнародных і ўнутраных конкурсаў больш-менш паспяхова борнічаюць у выкананні досыць абмежаванага віртуознага рэпертуару, пераважна рамантычнага стылю, зусім абыякава ставячы-

ВЫСТАВЫ

# Заціснуты між полюсаў

Падзел на афіцыйнае і неафіцыйнае мастацтва — трагедыя для творцы. Колькі мастакоў у краінах "сацыялістычнага лагера" і ў СССР мусілі тратіць душэўныя і маральныя сілы на захаванне незалежнасці і вернасці свайму мастацкаму бачанню. Выстава, што праходзіць у Нямецкім культурным цэнтры імя Гётэ ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, прысвечана выдатнаму нямецкаму мастаку Герхарду Альтэнбургу, які ў 1949 годзе стаў жыхаром ГДР, але жыў і працаваў у апазіцыі да ўлады. Дзяржаўны прымус да мастакоў у Германіі ў ХХ стагоддзі пачаўся з Вільгельма ІІ, які імкнуўся падавіць імпрэсіяністычныя мастацкія спробы. Тэрор супроць мастакоў-іншадумцаў працягнуў Гітлер, а надзею на свабоду мастацтва пасля вайны спыніла ў 1961 годзе "берлінская сцяна"...

Пачуццём безабароннасці напоўнены малюнкі Альтэнбурга 1949-50-х гадоў. У гэты час Герхарда за вальналюбства выключылі з Вышэйшай школы архітэктуры і выяўленчых мастацтваў у Веймары. І гэта адбылося амаль адначасова з закрыццём у веймарскім музеі залы "Баўхаўза", з ганьбаваннем у Берліне твораў Эрнста Барлаха.

Першае сутыкненне з афіцыйнай уладаю не спыніла мастацкіх пошукаў Альтэнбурга. Ён працуе над акварэлямі, літаграфіямі і ручнымі адбіткамі гравюр на дрэве, скульптурамі у мармуры, гіпсе, метале, пестуе своеасаблівы экспрэсіяністычны стыль і форму. А ў канцы 50-х перабудоўвае бацькаў дом, зрабіўшы яго мастацкім творам і крэпасцю адначасова. Тут Альтэнбург (псеўданім, які мастак узяў у 1955 годзе) адчуваў сябе ў пэўнай ізаляцыі, у якой на самай справе і быў пакінуты афіцыйнымі ўладамі ГДР.





ся да іншых напрамкаў, якія не ўваходзяць у іх разуменне "віртуознай ігры". Калі ж у арыгінальным рэпертуары для асобных інструментаў усё ж такі не хапае "хуткасных" цяжкасцяў, яны паспяхова пазычаюцца шляхам пералажэння (ад скрыпкі да балалайкі і цымбалаў, ад аргана і фартэпіяна да баяна і г.д.). Між тым музыка дваццатага стагоддзя (асабліва другой яго паловы) застаецца для нашых педагогаў, метадыстаў, юных канкурсантаў і знаных віртуозаў пераважна недатыкальнай з'явай, якой не надаецца ўвагі. Ці не гэта засведчыў леташні канцэрт і майстарклас швейцарскай піяністкі прафесара Эмі Хенц-Дзіманд, якая выконвала ўпершыню ў нас некаторыя вядомыя свету творы Кэйджа, Крамба, Мессіяна, Ж. Калам і выкладала спецыфічную тэхніку ў музыцы XX стагоддзя! Ніводная з нашых "зорак" не "засвяцілася" ані на канцэрце, ані на лекцыі і занятках. Віртуоз і Музыкант, як высветлілася, — розныя паняцці...

Часам канцэртная практыка падносіць і нечаканыя прыклады фармальна-акадэмічнага мыслення. Тры-чатыры гады таму нашы харавыя калектывы раптам актыўна звярнуліся да жанру памінальнай імшы. Неаднаразова ў канцэртах выконваліся рэквіемы Моцарта, Вердзі, Брамса, часам — Дворжака, Ліста, Берліёза, Керубіні, мабыць, хутка дойдзе чарга і да рэгулярнага гучання аналагічных твораў Віторыо, Брытэна, Кабалеўскага, Арцёмава, Шнітке і г.д., тым болей, што прызначэнне жанру ў нейкім сэнсе адпавядае сённяшняму стану музычнай культуры на Беларусі. Аднак сустрэча гэтай "хвалі" з традыцыйнай для нашага ўкладу юбілейнай дала не так даўно анекдатычны вынік: з фрагментаў рэквіемаў была складзена канцэртная праграма, прымеркаваная да чарговай гадавіны творчай дзейнасці кіраўніка аднаго з найбольш вядомых нашых хораў! Ёсць жа ў Іспаніі пахавальны танец сарабанда, чаму ж не быць у нас юбілейнаму рэквіему?! Усё ж лепей, чым ура-патрыятычныя араторыі.

**3**

Непераборлівасць да зместу музычнага твора, спробы прыстасаваць адну і тую ж музыку да розных нагод характэрныя як для шлягернага, так і для акадэмічнага напрамкаў. Што ж, відавочная кан'юнктурная арыентаванасць прадугледжвае пэўную абыякавасць да зместу і стылістычных сродкаў.

Лагічную эвалюцыю кан'юнктурнай ідэі няцяжка прасачыць нават на працэсах адраджэння нацыянальнай музычнай спадчыны, што пачаліся ў спрыяльных палітычных варунках 90-х. Пачаўшыся з некалькіх значных імпрэз, дзе былі прадстаўлены, адпаведна прынцыпам традыцыйнай еўрапейскай капэлы, як гістарычныя, так і сучасныя творы, абвешчаны мэтанакіраваны пошук новых імёнаў калі-нікалі пачаў нагадваць самадастатковы фестывальны рухавік. Адносна ж мастацкіх якасцяў адроджаных твораў, якія часам з'яўляюцца вынікам выдатнай працы сённяшніх рэдактараў, аранжыроўшчыкаў, гаворка не вядзецца. Творчасць кампазітараў-сучаснікаў ужо нібыта выпала з поля зроку. Што ж, лагічна: перад тым як адраджацца, трэба памерці. Ды і аўтары-нябожчыкі больш прыдатныя: іх музыку можна прыстасоўваць і трактаваць, як пажадаеш.

Традыцыйны "прыдворны" кампазітар у капэле — сёння з'ява невыгодная. Жывы сучасны творца, выдае на тое, наогул "нязручны" для дзейнасці нашых музычных устаноў. Нават заклікаиыя да выканання нацыянальнай музыкі, да прапаганды яе здабыткаў і навінак калектывы невытлумачальна рэдка звяртаюцца да сучасных твораў — пераважна з нагоды фестываляў ці аўтарскіх канцэртаў або пры наяўнасці "дадатковай заахвочанасці".

Ці тое вынік матэрыяльных і арганізацыйных цяжкасцяў, ці тое недахоп узаемаразумення паміж кіраўнікамі калектываў і беларускімі кампазітарамі, але пры такім стаўленні да музыкі сваіх суайчыннікаў цяжка выканаўцам разлічваць на ролю духоўных лідэраў нацыі.

Цяжка спадзявацца і на агульнае паляпшэнне сітуацыі, пакуль кіраваць музычнай культурай і адукацыяй будуць недастаткова дасведчаныя ў падначаленай ім галіне людзі, якія, верагодна, і не разумеюць небяспекі для нацыянальнай культуры, арыентуючыся не на эстэтычныя, а на кан'юнктурныя мэты.

Дарэчы, ці бачылі вы канцэртны раяль, зачынены праз дзірку, прасвідраваную ў вечку, на замок ад свірана?! Да апошняга часу гэты сімвал нацыянальнай музычнай культуры стаяў пры ўваходзе ў канцэртную залу Беларускай акадэміі музыкі.

●

Тут наўмысна не названы некаторыя імёны, таму што гаворка ішла аб праявах агульных небяспечных тэндэнцый, а не пра нейкія недахопы канкрэтных асоб.

**Дзмітрый ЛЫБІН**

**АД РЭДАКЦЫІ. Гэта першая лімаўская публікацыя Дзмітрыя Лыбіна, і чытачоў, для большасці якіх імя аўтара палемічнага артыкула — новае, варта пазнаёміць з нашым дэбютантам.**

**Ён мае грунтоўную адукацыю як музыказнаўца і як кампазітар, скончыў Рэспубліканскі каледж пры Беларускай акадэміі музыкі, Музычна-педагагічны інстытут імя Гнесіных у Маскве, Беларускую акадэмію музыкі. Уступіў у Саюз кампазітараў і ў Беларускае таварыства сучаснай музыкі. Яго творы неаднаразова гучалі ў канцэртах на радзіме, але, бадай, часцей — за мяжой: свежы прыклад — Сусветныя дні музыкі ў Румыніі ды Малдове, дзе Д. Лыбін быў афіцыйным прадстаўніком Беларусі і пра што распавядаў у гутарцы з нашым карэспандэнтам (гл. "ЛіМ" за 19.11.99 г., "Алімпійскі гонар з дамешкам сораму"). А яшчэ Д. Лыбін — майстар спорту па шахматах, вядзе ў Мінску ўрокі для юных шахматыстаў — гэта яго праца. А ў сферы музыкі — "вольны мастак", таму і пачувае сябе незалежным ад нейкай службовай іерархіі, кар'ерных разлікаў і да т.п.**

**Не лішне нагадаць, што развагі ды высновы нашых аўтараў далёка не заўсёды супадаюць з пазіцыяй супрацоўнікаў рэдакцыі. Але ж гармоніі без дысанансаў не бывае — гэта ведаюць усе музыканты. Іх мы, дарэчы, запрашаем прадоўжыць размову пра "Трох кітоў..." Калі ласка, пішыце, калі ёсць што дадаць або аспрэчыць.**

Падтрымлівала мастака магчымасць паспяхова выстаўляцца на Захадзе. Яго ведалі ў Нью-Йорку, запрашалі працаваць у майстэрні заходнеберлінскай Акадэміі мастацтваў, але "берлінская сцяна", новыя строгія правілы выезду і вывазу твораў адрэзалі Альтэнбурга ад вольнага свету, ад мары стаць сусветнавядомым творцам. У 1964 годзе яго за парушэнне экспартна-мытных правілаў прыгаварылі судом да пазбаўлення волі на два гады ўмоўна. У 1967 годзе яму ўдалося вывезці свае творы ў Заходнюю Германію, а ўжо ў 1969-ым вываз забаранілі ажно да моманту паляпшэння адносінаў паміж дзвюма паловамі Германіі. Многія гады за Альтэнбургам сачылі, праслухоўвалі тэлефон, люстравалі пошту, збіралі матэрыялы для новай справы. Падтрымлівалі яго сябры і калекцыянеры, некаторыя музеі, супрацоўнікі якіх за правядзенне выставаў Альтэнбурга рызыкавалі сваёй кар'ерай.

Творы Герхарда Альтэнбурга трэба чытаць як дзённікі. Кожны сюжэт — падзея яго жыцця. Яму блізкія і біблейскія пакуты, і жахі дзвюх сусветных войнаў. Назвы яго работ невыпадковыя, яны вынік асацыятыўных і філасофскіх разважанняў — "Змрок ліній, старая алея", "Дрэвы, унутраная гарачыня", "Не на жыццё, а на смерць", "Наёмнік-пацыфіст", "Яйка фармаліста".

Надзвычай тонка адчуваў Альтэнбург біблейскія сюжэты, бо сваё жыццё ён разглядаў таксама як пакуты і іх пераадольванне. У творах мастака можна знайсці і любоў, і папрокі, і ўхвалу, і раз'юшанасць — тое, што сапраўды яго хвалявала і таму выплёсквалася на паперу. З часам выпрацавалася і яго ўласнае ўяўленне пра форму, якая страціла рэалістычную акрэсленасць, пры гэтым перадаючы рэальныя рэчы і аб'екты. Нездарма крытыка ГДР абвінавачвала Альтэнбурга ў "разлажэнні формы". Ён ніяк не ўпісваўся ў мастацкае асяроддзе краіны, якая пры ўсім тым мела вельмі адметную і выдатную рэалістычную графічную школу. Але ж з пазіцый сённяшняга часу можна сказаць, што графіка Альтэнбурга існавала ў кантэксце высокай графічнай культуры ГДР, проста з пэўным дапушчэннем фармалізаванасці, ужо ўласцівай на той час сусветнаму мастацтву.

З сярэдзіны сямідзесятых у мастака адкрылася цяжкае захворванне вачэй, і перспектыва наступлення слепаты зрабілася моцным стымулам для нястомнай працы. Здзіўляе колькасць работ, што выходзілі з яго рук. Пакрытыя густой сеткай дробных знакаў альбо сімвалаў, з гадамі ўсё больш празрыстых, прадстаўленыя на выставе работы Альтэнбурга здзіўляюць экспрэсіяй, вытанчанай фантазіяй, эстэтыкай формы і адухоўленым матэрыялізмам.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*На здымках: "Ідзі ІІ, пакуль не саспеўшы для псіхушкі", 1949; "Майстар Дабрадзей", 1977.*

ТВОРЧАСЦЬ

# Бацькі і дзеці

У Нацыянальнай мастацкай галерэі упершыню адбылася цікавая выстава "Мастацкія дынастыі". Чаму цікавая? Каму ж, знаёмаму з мастакоўскім асяроддзем, будзе нецікава паглядзець на дзетак і ўнукаў вядомых майстроў? Ёсць такі распаўсюджаны выраз, што прырода на дзецях адпачывае. Мне заўжды здавалася гэта надуманым. Цалкам адвяргаць магчымасці творчых дынастый нельга.

Я не за тое, каб апраўдваць павальны выбар дзецьмі мастакоў бацькоўскай прафесіі. Не заўжды гэта апраўдана па этычных і маральных прынцыпах, не заўжды сямейнасць — самадастатковы фактар. Але калі паразважаць, то нельга абвергнуць, што дзяцей выхоўвае асяродак, у якім яны раслі, людзі, з якімі яны сустракаліся. І калі бацька — мастак, не цураецца паказаць малому, як трымаць у руках аловак, а яшчэ лепш проста навучыць азам рамяства і шчыра падтрымае першыя крокі — выбар маладымі людзьмі мастакоўскага шляху будзе натуральным.

Зрэшты, і мастацкаму майстэрству ў нас вучаць добра. Акадэмія мастацтваў адна з мацнейшых навучальных устаноў на тэрыторыі былога Саюза, дый, думаецца, далёка не горшая ў Еўропе. Ну, а час пасля расставіць усё па месцах — каму вянец на галаву, каму проста штодзённую працу. Нашы бацькі,у большасці — інтэлігенцыя ў першым пакаленні, і яны ганарацца тым, што іх здабыткі на самай справе напрацаваны вялікімі высілкамі і намаганнямі. А нам варта ганарыцца тым, што мы маем трывалы падмурак у іх асобе, унікальную магчымасць з'яднаць і набыткі акадэмічнай школы старэйшага пакалення, і еўрапейскі вопыт, нарэшце, даступны маладым не па чутках. І ўсё гэта можа даць нечаканы і цікавы плён.

Хачу запэўніць, што быць з сям'і вядомага майстра, зусім не азначае весці жыццё поўнае толькі радасцямі, і мець заўжды перад сабою адкрытыя дзверы. Пэўныя прывілеі і магчымасці, якія "дадаюцца" да становішча бацькі, "кампенсуюцца" многімі складанасцямі. Працаваць, увесь час раўняючыся на славу старэйшага, быць часта толькі яго ценем, мець сяброў і ворагаў, нібы пакінутых ім у спадчыну, абараняць і абараняцца ад нечаканых нападкаў, і пры гэтым мусіць неяк самому вылузвацца з гэтага становішча — не заўжды лепшае апірышча ў творчай працы, асабліва на пачатку самастойнага творчага шляху. Прыгнятае тое, як некаторыя дзеячы ставяцца да "дзетак", да спосабаў вырашэння імі праблем творчай самастойнасці.

Вось тут і ўзнікае праблема для маладзейшага мастакоўскага пакалення: знайсці сябе. Найбольш распаўсюджаны і лёгкі шлях — капіраванне бацькоўскага стылю, асабліва калі абіраецца тая ж мастацкая галіна. І неабавязкова гэты працэс з'яўляецца свядомым. Бацькі могуць і падсвядома схіліць дзяцей да сваёй творчай манеры, і тут ужо толькі ад таленту, сілы волі залежыць, ці выберацца малады творца на свой шлях.

Зрэшты, нават беглы агляд экспазіцыі дае падставы для прыкладаў. Сын старэйшага беларускага жывапісца-рэаліста Антона Бархаткова Ігар Бархаткоў таксама рэаліст, прычым праакадэмічнага накірунку. Ведаючы праекты І. Бархаткова, магу сказаць, што ён спрабуе знайсці нечаканыя шляхі з'яднання свайго майстэрства з сучаснымі формамі канцэптуальнага мастацтва. Ірына Кузняцова — дачка выдатнага майстра рэалістычнай акварэлі Івана Мядзведзева. Яна згадала неяк у прыватнай размове, што мусіла закрывацца ў пакоі ад бацькі, каб праводзіць свае жывапісныя эксперыменты. А цяпер перад яе дачкой стаіць яшчэ больш складаная задача — знайсці ўласны твар у магутнай каляіне двух бацькоў — мастакоў нефігуратыўнага накірунку. Тое самае можна сказаць і пра дачку Сяргея Кірушчанкі і Таццяны Сакаловай, якія склалі таксама цікавы сямейны тандэм. Сын аднаго з лепшых каларыстаў рэспублікі Альгерда Малішэўскага Сяргей у жывапісе абраў шлях, блізкі да стрыманай графічнасці. А сын Уладзіміра Басалыгі, які сваімі графічнымі выявамі замкаў і вяроў Беларусі распачынаў гістарычную хвалю мастацкага адраджэння, Андрэй — высакакласны графік, прыхільнік еўрапейскай традыцыі, складанай, вытанчанай і абстрагаванай. Прыхільнікам абстрактнага жывапісу стаў сын жывапісца-акадэміста Аляксандра Сямілетава Барыс. Надзвычай вытанчаным і інтымным лірыкам падаўся мне сын скульптара Льва Гумілеўскага Сяргей Гумілеўскі, таксама скульптар. Да дзедавага стылю, нечакана ярка і прыкметна, звярнуўся ўнук выдатнага жывапісца Анатоля Волкава Сяргей Волкаў.

Цікава, што некаторыя сем'і выставіліся не адным пакаленнем. Напрыклад, дынастыя Ціхановічаў, якая побач з жывапісным малюнкам У. Галубка, прадставіла побач творы яго зяця Я. Ціхановіча, унука Г. Ціхановіча і нават праўнука Галубка. Разрасліся і сямейства Волкавых, Паплаўскіх, Маліноўскіх.

Удала згадалі ў экспазіцыі выдатнага скульптара Аляксандра Анікейчыка, а побач з бацькам паказала свае керамічныя творы яго дачка. Сын Пятра Крохалева Аляксандр стаў скульптарам, а дачка скульптара Аляксандра Мятліцкага — мастаком тэатральных дэкарацый.

У любым выпадку па выставе "Мастацкіх дынастый" прайсціся нясумна. Тут паўсюль знаёмыя імёны — Бараноўскі, Марачкін, Шчасная, Апіёк, Буралкін... Адно магу сказаць, шкада, што няма на выставе такіх выдатных мастакоўскіх дынастый, як Шчамялёвы, Вашчанкі, Кішчанкі, Кашкурэвічы. Магчыма, гэта таму, што і самі мэтры, і іх дзеці выстаўляюцца самастойна і досыць часта, і не маюць вялікай патрэбы з'яўляцца ў кампаніі з іншымі. Тым не менш, мне здаецца, яны б надзвычай упрыгожылі гэтую экспазіцыю.

Думаю, жадаць такой выставе перыядычнасці не варта. Паўтарэнне яе было б апраўданым гадоў так праз дзесятак.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*На здымку: творчая сям'я С. Кірушчанкі, Т. Сакаловай і іх дачкі.*

*Фота В. ЕЛІСЕЕВА*



## На выстаўцы Антона Бархаткова

***Зноў словы, словы, словы...***
***Гаючых слоў амаль няма,***
***А на палотнах Бархаткова***
***Стаіць гаючая зіма.***
***Стаіць сасоннік пры дарозе***
***І санны след***
***Ляціць у свет.***
***Яго бяроза***
***На марозе***
***Зімовы думае санет.***
***Няўмольны час імгненні лічыць***
***Ды што адлік мне той цяпер:***
***Я ў мастака святла пазычыў,***
***Узяў, як кажуць, напавер.***

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

## "Сціслая гісторыя сацыялагічнай думкі"

**У рамках штогадовай выставы "Беларуская кніга-99", якая — пра гэта чытачы "ЛіМа" ведаюць — працавала ў Нацыянальнай выставачнай зале "БелЭКСПА", адбылося нямала кніжных прэм'ер. Сярод іх — і прэзентацыя унікальнага навуковага выдання пад назваю "Сціслая гісторыя сацыялагічнай думкі" Элана Сўінджвуда, якое ўбачыла свет у выдавецтве "Тэхналогія". Перакладчык і навуковы рэдактар кнігі — Уладзімір Маруцік, рэдактары перакладу — Алена Трусава і Вінцук Вячорка.**

**Кніга гэтая — не гісторыя сацыялогіі і не гісторыя сацыялагічнай тэорыі, а выбранае з гісторыі сацыялагічнай думкі, пачынаючы ад яе вытокаў у філасофіі, гісторыі і палітычнай эканоміі XVIII стагоддзя. Яна акурат і ёсць тое, што пазначана ў назве. Кніга прапануе чытачу сціслую і надзвычай удала скампанаваную гісторыю сацыялогіі і складаецца з трох частак. Першая частка — "Падваліны сацыялогіі". У ёй разгледжана гісторыя фармавання сацыялагічнай думкі — яе развіццё ў пазітывізм, эвалюцыянізм і марксізм. Другая частка — "Класічная сацыялогія" — прысвечана апісанню складанай рэакцыі на пазітывізм і марксізм прадстаўнікоў класічнай сацыялогіі Вэбэра, Дзюркейма, Зомбарта і Зімэля, а таксама аналізу Марксавай канцэпцыі класа і ўлады ў супастаўленні яе з Вэбэравай тэорыяй сацыяльнай стратыфікацыі. Пры гэтым аўтар не сцвярджае, што сацыялогія развівалася ў "спрэчках з прывідам Маркса", кажучы, што яна "спрачалася" гэтаксама з Кантам, як і з Марксам, што эпістэмалогія і маральная філасофія Канта была такой жа жыццядайнай для класічнай сацыялогіі, як Гегелева дыялектыка для марксізму. У трэцяй частцы — "Новая сацыялогія" — даследуецца развіццё акурат яе, новай сацыялогіі, найперш сацыялагічнага функцыяналізму, і яе спробы нанова асэнсаваць адкрыцці класічнай сацыялогіі, важнейшыя тэарэтычныя падыходы да праблем сацыялогіі і іх вырашэнне ў нашы дні.**

**Каштоўнасць гэтай кнігі, гаварыў у часе прэзентацыі У. Маруцік, у тым, што яна — выдатны падручнік для ўсіх, хто вывучае сацыялогію, і карысны дапаможнік для тых, хто проста мае цікавасць да гэтай навукі, яна — поліфункцыянальная. Багаты настаўніцкі досвед аўтара (ён выкладае сацыялогію ў Лонданскай школе эканомікі) дазволіў яму сцісла і цікава пераказаць гісторыю сацыялагічнай навукі. У дадатак кніга гэтая — па сутнасці кароткі энцыклапедычны даведнік па сацыялогіі. У канцы яе змешчаны раздзел "Дадатковае чытанне", у якім пададзены спіс прац да кожнай часткі, з якіх чытач можа паглыбіць свае веды не толькі ў вывучэнні гісторыі сацыялогіі, але і ў больш спецыялізаваных студыях. Багаты ў кнізе і раздзел бібліяграфіі. А да ўсяго змешчаны яшчэ і "Малы тлумачальны слоўнік сацыялагічных тэрмінаў" на 500 слоў — першы беларускамоўны слоўнік такога кшталту. У ім пададзены асноўныя сацыялагічныя тэрміны, скарыстаныя ў кнізе, а таксама паасобныя ўжытыя ў ёй паняцці філасофіі, псіхалогіі, культурнай антрапалогіі і лінгвістыкі.**

**Кніга выдадзена для сённяшняга часу немалым тыражом — 1000 асобнікаў.**

**М. М.**

## Даўгабуд — у страі



**Доўга чакалі ўводу ў строй сацыяльна-культурнага комплексу ў вёсцы Немержа Драгічынскага раёна. Давялося ўмяшацца кіраўніцтву вобласці і раёна, каб даўгабуд ператварыўся ў прыгожы будынак, у якім размясціліся сельскі Савет і праўленне калгаса "Іскра", клуб і бібліятэка, вузел сувязі і пошта, аддзяленне банка, камбінат бытавога абслугоўвання і шлюбная зала.**

**На здымку: у бібліятэцы можна спакойна пачытаць патрэбную кнігу — месца ўсім хопіць. Дарэчы, наведваюць яе каля 300 чытачоў, 157 з якіх — дзеці. Кніжны фонд налічвае 10 тысяч экземпляраў.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

ЭСЭ

# Настальгія па... чарзе

РАНІЦОЙ, сеўшы снедаць, спахапіліся — у хаце ні скарынкі хлеба. Брат застаўся ля хворай маці, а я, асядлаўшы ровар, праз якія колькі хвілін быў ужо каля хлебнай крамы. Густы натоўп узбуджаных местачкоўцаў — якраз разгружалася чарговая машына — быццам вярнуў мяне ў мінулае. Спяшацца не было куды. Я прыпаркаваў свой ровар да глухой цаглянай сцяны, якая накшталт дывана была расквечана плямамі-лішаямі зеленавата-рыжага і жорсткага, як наждачка, моху і дыхала яшчэ за польскім часам, а сам пайшоў шукаць хвост чаргі.

Дзіўна, але з гадоў маленства выразна, у падрабязнасцях, запомніліся чамусьці чэргі... Калі ўдумацца, яны суправаджалі кожнага з нас з калыскі і да магілы, мы праводзілі ў чэргах значную частку жыцця. Колькі іх было, гэтых чэргаў! Мы вымушаны былі прывыкаць да Вымушаны быў так жыць, асабліва калі ў часы ўзбуйнення раёнаў цэнтр з Давыд-Гарадка перанеслі ў паўднёвы Столін (магчыма, тут былі і стратэгічныя матывы, паколькі побач з апошнім праходзіць буйная чыгуначная магістраль). З усімі акалічнасцямі, якія адсюль вынікаюць...

Кінатэатр "Зара" — адзіны, бадай, духоўны цэнтр мястэчка, не лічачы Дома культуры, былога касцёла, прыстасаванага для рэдкіх афіцыйных мерапрыемстваў днём, а вечарам — пад танцпляцоўку для моладзі, дык вось, не дзіва, што дзяцей і дарослых як магнітам цягнула ў "кіно". Кіно тых часоў, калі па шчырасці, сапраўды апраўдвала сваё высокае прызначэнне як самы масавы від мастацтва. Варта толькі ўзгадаць назвы кінастужак, ад якіх і сёння дух займае: "Мамлюк", "Чапаеў", "Качубей", "Алека Дундзіч", "Ціхі Дон", "Узнятая цаліна", "Шчыт і меч", "Бывай, Гульсары!"...

надарваным каўняром курткі, з галавы да ног быццам аблітага кіпенем — ад яго валіць пара, ускудлачаныя валасы на галаве нібы дымяцца... У руцэ намёртва заціснута блакітная пакамечаная стужка — жаданыя білеты на "класную фільму". Хлапца абступаюць тыя, хто з нецярпеннем чакаў яго, страхаваў, каб выпадкова не выштурхнулі з чаргі, гучна падтрымліваў маральна, проста перажываў, таму яго вяртанне ад акенца касы ўспрымаецца з не меншай радасцю, чым вяртанне на грэшную зямлю чарговага касманаўта. Выстаяў! А надавала яму моцы, мне здаецца, упэўненасць у тым, што ў наступны раз Чапаеў абавязкова выплыве...

Тым часам знаходзіцца і шапка. "Героя" віншуюць, паціскаюць руку, пляскаюць па плячы, навыперадкі частуюць то семкамі, то цыгарэтай. І той, хто хвіліну назад нагадваў паўраздушанага чарвяка, выпінае грудзі, натапырваецца, як выкінуты з вады пячкур,

чаргі, як да факта суровай рэчаіснасці.

...Зацемна, калі паўсонны Лужок яшчэ быў захінуты ў прахалодныя палатняныя прасціны туману, бацька, ужо абуты-апрануты, нецярпліва зрываў з цвіка ў сенцах гаспадарчую кірзавую сумку і хуценька праставаў, ці, як ён казаў, дубачыў, у "горад" — цэнтр мястэчка, — да хлебнай крамы. Але як шпарка ён ні крочыў, звілістую чаргу, маўклівую і насупленую, падобную на вялікага крумкача, заўважаў, нягледзячы на прыцемкі, метраў за сто, адразу ад павароткі, што настрою, зразумела, не надавала.

Здавалася, чарга гэтая ніколі тут не знікала, нават калі б дзеля гэтага давялося начаваць паблізу крамы. Яна — вечная. І з гэтым, хочаш не хочаш, чалавек у рэшце рэшт вымушаны быў змірыцца.

Нарэшце, калі чарга разрасталася ў даўжэзную змяю, што нецярпліва паварушвалася на месцы, з пякарні ў Мельніках прыходзіла першая машына з яшчэ гарачым хлебам, да якога нельга было дакрануцца. Машыну, тым не менш, імкліва разгружалі, вядома, не без дапамогі добраахвотных памочнікаў, пасля чаго яны ў ліку першых атрымлівалі норму — на рукі па дзве буханкі сітнага — і хуценька беглі ў хвост чаргі.

Машыну размяталі за нейкія паўгадзіны. Самыя спрытныя, тыя, хто паспяваў абярнуцца ў чарзе разы тры-чатыры, прыладкаваўшы ношку з гарачым хлебам да ровара ці проста ўзваліўшы яе на плечы, стомленыя, але ў добрым настроі, адпускаючы налева і направа жарцікі, разыходзіліся ў розныя бакі ад крамы.

Чарга, між тым, заставалася на сваім месцы. Гэткая ж, як з раніцы, — не большая, не меншая. Яна цярпліва чакала наступную машыну.

Да дзевяці гадзін, калі мы, паснедаўшы, крочылі ў школу, ля "хлебнага" ўжо нікога не было. Ні пакупнікоў, ні прадаўцоў. Дзённая норма хлеба была вычарпана — пра гэта нема, безапеляцыйна сведчыў вісячы замок на дзвярах крамы...

Звыклая прыкмета часу. Дарэчы, адна са шматлікіх, без якіх немагчыма ўявіць запаволена-аднастайнае, немітуслівае і разам з тым насычанае нейкім сваім, асаблівым, зместам жыццё палескага мястэчка.

Прыкладна ў тыя ж гады нам, падлеткам, таксама давялося спазнаць на ўласным вопыце чэргі... куды б вы думалі? Па білеты ў давыд-гарадоцкі кінатэатр "Зара". Вось ужо сапраўды — не хлебам адзіным...

Варта зазначыць, што жылі ў пасляваенныя часы местачкоўцы даволі сціпла і на агульным фоне раскашавалі толькі тыя, хто мог крутнуцца на "цаліну" — на ўборку, на лесараспрацоўкі ў Карэлію ці будаваць збожжавыя элеватары ў Растоўскую вобласць, Краснадарскі край, пазней ужо — на "вясну", гандляваць насеннем кветак і гароднiны па ўсёй тэрыторыі былога Савецкага Саюза. Наогул жа, не дазваляючы сабе нічога лішняга, тут, як, мусіць, і паўсюдна па краіне, не шкадавалі працоўны рубель на наталенне, даруйце за напышлівасць, духоўнай смагі. Тады яна, дзякуй Богу, востра адчувалася ў народзе, — сведчу пра гэта з гонарам і адказнасцю. Людзі сярэдняга ўзросту, хто ацалеў на вайне, і моладзь наталялі гэтую смагу ў нейкім адзіным, суладным парыве, без усялякага прымусу, уціску і гвалту, хоць ідэалагічная машына працавала, аднак зноў жа атрымлівалася неяк так, што яна, па-першае, працавала на аптымальных абаротах, па-другое, працавала амаль сама па сабе, народ жа, я мяркую па тых жа местачкоўцах, жыў сваім натуральным жыццём.

Патрапіць на цікавы фільм у глядзельную залу на дзвесце месцаў удавалася не заўсёды. Чарга, якая нярэдка цягнулася ад цагляных засмечаных прыступак кінатэатра да суседняга старога драўлянага будынка пажарнай каманды, прызнавала, бадай, толькі блатных і мясцовае начальства, для якіх існаваў "чорны ход", а таксама — нахабства, ва ўсіх яго праявах, жалезныя локці і, як апошні аргумент, моц кулака.

Аднак і гэтымі перашкодамі, даволі пераканаўчымі, для падлетка не вычэрпвалася недаступнасць "ачага культуры", які знешне сапраўды нагадваў крэпасць — маналітную будыніну з чырвонай цэглы, прызначаную пад суд (ці турму?) і ўзведзеную яшчэ за польскім часам.

Пурытанскае выхаванне, што панавала ў старажытным палескім гарадку, таксама было скіравана супраць нас — на "Узнятую цаліну" непаўналетніх не маглі правесці нават дарослыя ці бацькі...

О, тая непахісная пажылая жанчына ў строгім шэрым касцюме, якая стаяла пры ўваходзе ў фае і ўрачыста адрывала ў білетах "кантрольку" (трэба было бачыць гэтую мізансцэну, якая ператваралася ў працэдуру!), дык вось, калі жанчына ўзвышалася пры ўваходзе, нібыта скала, нават узрост не быў уладны над ёю, настолькі грандыёзная і велічная была ў сваіх перакананнях і прынцыпах, а якім адухоўленым пры гэтым рабіўся яе крануты воспай твар — своеасаблівае люстэрка местачковай маральнасці. Упэўнены і зараз, што калі яна і даражыла сваім месцам, то зусім не з меркантыльных меркаванняў...

Я ўжо не кажу пра дырэктара (і касіра ў адной асобе) — лядашчую даму не першай свежасці, у якой, па чутках, нешта там не заладзілася ў сталіцы і якая аднойчы апынулася ў заштатным гарадку на поўдні Беларусі, магчыма, не па сваёй волі, бо жыла тут не першы год, быццам адбывала ссылку, і, далучаючы сябе да мясцовай эліты, пагардліва пазірала на простых гарадчукоў.

Але вернемся да чаргі, якая сёння прасоўвалася ўперад занадта марудна... Чарга была для нас, непаўналетніх, месцам, дзе мы мелі магчымасць назіраць жыццё ледзь не ў самых горшых яго праявах. Чарга была якраз тым злачным месцам, дзе чалавек адчуваў сябе нікчэмным пігмеем, чарга яго зневажала, здзекавалася з яго, ператварала ў цярплівую пакорлівую істоту, здольную выдыгаць, падлабуньвацца, хіліць галаву перад сілай і нахабствам... Чарга ламала і знішчала ў падлетку той кволенькі парастак будучай асобы, які так і не зможа потым прабіцца да святла. Тут ужо ніякія "Мамлюкі" і "Качубеі" не маглі дапамагчы...

Звычайна, калі білеты на сеанс неўзабаве павінны былі скончыцца, ля акенца касы, узятага ў краты, утваралася агіднае відовішча. Па прыкладзе некалькіх мясцовых адмарозкаў, якія, не меўшы адпору, прызвычаіліся пракладаць сабе дарогу бруднай лаянкай, плячом і "ляшчом", з месца зрушвалася ўся чарга і збівалася ля акенца ў адзін раз'юшаны жывы клубок. Сыпаліся на брудную падлогу медзякі і гузікі, адляталі ў розныя бакі шапкі і хлясцікі, расчырванелыя, успацелыя твары з вырачанымі вачамі і ашчэранымі зубамі нагадвалі фрагменты з фантасмагарычных палотнаў Далі ці Магрыта...

Сапенне, віск, хрумст касцей, жывёльны рык, стогны... Нарэшце спапяляльны чалавечы кратэр, падобны да шматгаловай пачвары, выпускае са сваіх абдымкаў паўсамлелую ахвяру, вядома ж, без шапкі, з

звысоку паглядае па баках і, што самае горшае, пераконваецца ў думцы, што менавіта гэтак, а ніяк не інакш, яно і павінна быць. Бо заўтра паўторыцца тое ж — чарга. Аднак наш "герой" ужо зведаў, што гэта такое, зведаў, магчыма, не ў першы раз, непасрэдна пазнаёміўся з яе няпісанымі драпежніцкімі правіламі, набыў часцінку адпаведнага вопыту і ў наступны раз будзе спасцігаць ці, дакладней, пераадольваць яе больш вынаходліва і рашуча, з большымі хітрыкамі і нахабствам. Словам, улічыць сённяшнія пралікі і ўжо не дасць маху.

Так, чарга станавілся для маіх равеснікаў своеасаблівай школай жыцця. Яго непазбежнасцю. Нормай.

Што ж, мы толькі ехалі на кірмаш, а пра гэта ніколі не задумваюцца. Проста едуць ды хутчэй паганяюць. Каб паспець першымі.

У абразлівы, абрыдлы горб ператвараецца чарга-спадарожніца ў сталым узросце, калі мы, добра не пакаштаваўшы таго кірмашу, вымушаны ўжо вяртацца з яго дадому... Ці не з гэтай прычыны таго, хто ўжо вяртаецца, пускаюць без чаргі? Заўважылі? Не заўсёды, але, здараецца, пускаюць...

Так, вяртаемся... Не спяшаемся. Хоць ужо насоўваецца надвячорак і на дварэ халадае. Але чаму памяць зноў і зноў неадольна вяртае ў тую, распаленую жаданнем, бязглуздую з вышыні пражытых гадоў чаргу, якая пакручастаю суравою ніткаю пралягла праз усё тваё дзяцінства і юнацтва? Мабыць, у той чарзе, акрамя абразлівага і нахабнага, засталося нешта асабіста тваё, балючае і сарамлівае, вельмі адчувальнае і пяшчотнае, нешта патаемнае і запаветнае, каб пра яго проста так можна было распавесці свету...

Гэтыя словы можна шукаць усё жыцц. не знайсці. Не ведаю, ці адшукаю. Ведаю, што на правільным шляху. Я паспрабую...

●

Напрыканцы 50-х, калі насельнікаў заштатных гарадкоў і мястэчак (а пасля і мільёны сялян!), папярэдне абрэзаўшы агароды і соткі па самыя вокны і паабкладаўшы падаткамі кожную яблыню і курыцу, "вялікі вясковы рэфарматар" Хрушчоў паспрабаваў, на гарадскі манер, накарміць — ад Брэста да Чукоткі і ад Анадыра да Кушкі — выключна з крамы і пераважна кукурузаю, менавіта тады ва ўжытак пачалі вяртацца талоны, карткі — сорам і ганьба, якую, што б там ні казалі, Сталін здолеў адмяніць адразу праз нейкія там два гады пасля самай страшэннай і разбуральнай вайны.

Мястэчка — не вёска, тут магчымасці з вытворчасцю прадуктаў харчавання абмежаваныя (на сяле, калі законна не ўдаецца нарыхтаваць сена на карову, дык яго хоць ноччу, употай, можна выкасіць ці ўкрасці!), таму ў тым жа Давыд-Гарадку заўсёды панавала больш абвостранае пачуццё голаду і холаду, таму інстынкт самавыжывання штурхаў мясцовы люд на ўсялякія вынаходствы і "негоции", каб ратаваць сям'ю. Ужо вядомы пералік: "цаліна", Карэлія, "отхожий промысел", рака... Карацей, на ўласным падворку гарадчук не заседжваўся. У гэтым плане ад дарослых нешта перадавалася і нам, падлеткам, праўда, ужо не толькі праз чаргу...

Пасярод спякотнага лета, калі ў гаспадарскіх садах яшчэ нямашака чаго атрасаць і рыба ў рацэ ловіцца кепска, мы бавілі час за межамі давыд-гарадоцкіх "мікрараёнаў", часцей — паблізу аэрадрома, непадалёку ад якога знаходзілася эмтээсаўская звалка. Вабіла нас гэтая звалка мноствам螺 рознага жалеззя, якому выйшлі ўсе тэрміны (трапля-

ліся, праўда, і новенькія механізмы, блокі, інструменты, батарэйкі), і нават сваімі спецыфічна-атрутнымі пахамі. Так, па тым бласлаўлёным часе экалагічнае становішча ў Пагарынні было бездакорным, таму пахі адпрацаванага тэхнічнага масла і паліва, прапахлага саляркай жалеза былі для нас экзатычнымі і вабнымі.

Узброеныя завостранымі стальнымі прутамі-шчупамі, мы, празнаўшы пра чарговы завоз на звалку, зляталіся туды, як гракі, і калупаліся ў яе смуродным чэраве, пад гарачымі промнямі сонца, да адурэння, здаралася — да непрытомнага стану. Галоўная мэта нашых нашэсцяў — грузілы і гайкі для "донак", гайкі, якія, у адрозненне ад чэхаўскага "злоумышленника", мы здабывалі зусім бяскрыўдным спосабам. Нанізаўшы на драціну да сотні гаек розных дыяметраў, замурзаныя з галавы да пят у мазуту, здабытчыкі абвешваліся імі, як абарыгены каралямі, і навыперадкі праставалі праз зялёнае ўрочышча Вайтаўшчына да сваіх двароў. Найбольш гаспадарлівыя валаклі таксама кулькі з рэшткамі салідолу, скруткі дроту, спрацаваныя прывадныя пасы, механізмы ды іншы друз, за што нас дома неаднойчы чакала дубцовая лупцоўка.

Праз дзень-другі звалка надакучвала, і нас нейкім ветрам заносіла на старую прыстань, што адвеку дагнівала ў засені магутных вязаў і замшэлых вербаў на правабярэжжы Гарыні, каля самай падэшвы затравелага старажытнага замчышча.

Знакамітая давыд-гарадоцкая прыстань, дакладней, яе рэшткі, ля якой апошнія дзесяцігоддзі буруняць ваду і швартуюцца натужлівыя працаўнікі-буксіры з баркамі і без ды яшчэ маторкі рыбінспектараў ці рыбхапаў, як справядліва завуць іх у Гарадку, даўно страціла сваю былую прыцягальнасць. А былі ж часы, якія прыпадаюць і на маё дзяцінства, калі ля Царкоўнай гары прычальвалі белыя прыгажуны параходы. Ці ж можна забыць тыя шматдзённыя падаожжы па рацэ — гэта звычайна на пачатку школьных канікулаў — то ўверх, да Пінска, а то і ўніз, ажно да самага Кіева!

Цудоўны быў прычал, хоць і драўляны, на якім уранні і ўвечары можна было ўбачыць з моста каля паўсотні вудароў розных узростаў, сярод якіх жанкі былі не выключэннем, быў тут, здавалася, цэлую вечнасць — і аднойчы, раптоўна, як усё горшае адбываецца ў жыцці, узяў і знік... Сплыў некуды ў невядомасць за хуткай маўклівай вадой.

Незамутнёная дзіцячая памяць абвострана рэагуе на першыя страты ў жыцці, і ці не таму нас, як чародку малявак у неспакойнай вадзе, нябачныя токі заносілі, прыбівалі менавіта сюды, на сіратліва прыціхлую прыстань, і мы кожны раз разгублена застывалі на месцы, не разумеючы сваім дзіцячым розумам, чаму так сталася, чаму знікла прыстань, не знаходзячы адказу на пытанне, якое яшчэ неаднойчы застане знянацку на пакручастых шляхах-пуцявінах жыцця, — чаму ж так атрымліваецца, што прыгожае знікае, а горшае застаецца?..

Праўда, канторка з выцвілым сцягам на брыльку і будынак параходства, з цягам часу пераабсталяваны пад краму, магчыма, калі не самае лепшае, дык і не горшае, што засталося ад чароўнай прыстані. Тут, мы ведалі, часам нешта "даюць". Трэба толькі, як кажуць, дарослыя, "нарвацца", відаць, валодаючы пры гэтым асаблівым нюхам, на з'яўленне ў краме мукі ці цукру, якія амаль кантрабандным шляхам дастаўляліся сюды па рацэ з суседняга ўкраінскага чыгуначнага вузла Сарны. Там, казалі, як у Грэцыі, — усё ёсцека.

Дык што на гэты раз прытарабанілі рызыкоўныя "кантрабандысты"? Манныя крупы, манку, якая ў савецкія часы карысталася ў Гарадку нязменным попытам. Што-што, а гэта ведаем. Унюхаўшы здабычу, мы натапырваем вушы, як маладыя звяркі. Але й чарга раптам адкуль набіраецца... Яна расце, пучыцца літаральна на вачах. Выйсце адно: заняць чаргу і поўным ходам дадому! Што мы без прамаруджвання і робім. Не шкадуючы босых засеяных стрэмкамі і цыпкамі ног, засопленыя, з высалапленымі языкамі (сабачая звычка, відаць, надае хуткасці!), навыперадкі імчым ад прыстані да Сежкі, паспяваючы на хаду абвясціць ледзь не палове Гарадка, што "на прыстані манку даюць!", а калі нарэшце вяртаемся назад... Чарга наша прайшла. Урэшце, не гэта самае крыўднае. Манка скончылася. Цёмны кароткі хвост чаргі, якой таксама не хапіла круп, яшчэ колькі хвілін трымаецца на месцы, але вось, разам уздыхнуўшы, пачынае распаўзацца, адбіраючы ў нас апошнюю кволенькую надзею, нібыта ў тумане... Але гэта не туман — слёзы на нашых вачах.

Дарослыя, спачатку здзівіўшыся гэткай колькасці люду на прыстані, потым, відаць, здагадваюцца, у чым справа, незласліва кпяць з нас, пасміхаюцца і, што ўжо зусім нечакана, — адвальваюць нам па 10 капеек на... марожанае! Гэта ў будні дзень! Вось і зразумей іх пасля гэтага...

І яшчэ адна чарга, быццам стрэмка, шчымліва засела ў памяці — ля млячарні, дзе можна было за капейкі набыць вядро малочнага адгону ці, як у нас казалі, маслёнкі. Даступны прадукт гэты па тым часе (хоць даўно мінула ўжо пасляваенная нішчымніца!) карыстаўся ў местачковых шыротах асаблівым попытам. У асноўным маслёнку далівалі ў пойла свінням, а калі дбайны гаспадар не паленаваўся ўвосень назапасіць яшчэ пару мяхоў лясных жалудоў ды, падсушыўшы, змалоць іх на муку, то ўсю зімку гора не меў. На маслёцы і, лічы, дармавой муцэ свінчо падымалася, як рошчына ў дзяжы, і калі вясной яно нагадвала пра сябе толькі пранізлівым віскам у мяху за спіной гаспадара, дык пад Каляды, калі па добрай праваслаўнай завядзёнцы не абысціся без каўбас, паўгадаваламу кармляку было ўжо цесна ў хляве, і ён толькі тое і робіць, што смокча пойла ды ляжыць на баку. Гаспадару застаецца загастрыць "швайку", а гаспадыні рыхтаваць посуд ды напаліць смалякамі печ, дзе хутка засквірчыць свежына.

А каб прыемныя перадакалядныя турботы не абмінулі хату, нашы бацькі, у каго, вядома, не рыкала на падворку дойная карова, штодня выпраўлялі нас, падлеткаў, з прымацаванымі на роварах вёдрамі да млячарні.

А там — зноў чарга... Доўгая і пакручастая. Праўда, у адрозненне ад іншых чэргаў, не такая нахабная і абразлівая, наадварот, нейкая паважліва-спакойная і сарамліва-стрыманая, можа, таму, што складалі яе ў асноўным старыя і дзеці. Нават тады, калі маслёнкі не хапала на ўсіх, у гэтай чарзе крыўды і злосці не ўзнікала. Людзі спакойна разыходзіліся — гэта таксама выразна адбілася ў памяці, хоць разуменне і асэнсаванне таго, што бядняк бедняку не зайздросціць, прыйдзе, зразумела, пазней.

У асноўным жа праблем з набыццём маслёнкі не ўзнікала — дома, колькі памятаю, яна не пераводзілася. Маслёнку, якую не скормлівалі жывёле, кіслілі ў склепе, пасля чаго маці здымала вяршкі і ўмудралася з іх адціснуць тварог, які амаль ні ў чым не саступаў базарнаму. Блакітная вадзіца — ужо зусім чысты адгон — у збане апускалася на ноч у калодзеж, і таксама ўжывалася як цудадзейны пахмельны сродак, роўнага якому нямашака ў свеце. Магчыма, яно так і ёсць.

Дарэчы, гаспадарлівыя палякі, па аповедах маці, тут давалі маху, яўна недаацэньваючы гаючыя якасці маслёнкі і спускаючы яе ў Гарынь (хто ведае, не выключана, што за польскім часам пахмельны сіндром не набыў сучаснай актуальнасці?). Затое, дзякуючы цвярозасці запольскіх местачкоўцаў, каля млячарні касякамі хадзіла прыкормленая беларыбіца, якую пры жаданні можна было цягаць на вуду з ранку да вечара.

... Чарга за хлебам канца 90-х рухалася ў мястэчку гэтак жа марудна, як і амаль паўстагоддзя таму назад. Нічога не змянілася. А тут яшчэ пад'ехала чарговая машына з пякарні пад разгрузку — а гэта яшчэ мінімум як на паўгадзіны... Ну й шанцуе ж мне сёння! Адно толькі распавольвае, што маці ўжо не да таго хлеба, а ў мяне з'яўляецца не такая ўжо частая магчымасць пашвэндаць па аддаленых, засмужаных раннімі халадамі куточках сваёй бязлітаснай памяці.

Гарынь — невялічкая чыгуначная станцыя, затое Столінскі раён лічыцца адным з самых шчыльна населеных у Беларусі. Здаўна тут усталявалася добрая завядзёнка — не шукаць шчасця ў буйных гарадах ці недзе ў свеце, словам, большасць моладзі, скончыўшы школу ці адслужыўшы тэрміновую ў арміі, не зрывалася з бацькоўскіх гнездзішчаў.

Аднак агульная хваля міграцыі моладзі ў 60—70-ыя гады не абмінула і Пагарынне. На чым зручней было даехаць з беларускага поўдня да Мінска, Ленінграда, Масквы? Зразумела, на аўтобусе. Але толькі да чыгункі. І вось тут пачыналася самае сапраўднае сканчэнне свету... Цагляны карабок станцыі, перон, пасадачныя пляцоўкі — усё было запоўнена моладдзю, якая ехала "за туманом и за запахом тайги", але спачатку неабходна было набыць білет і злаўчыцца ўскочыць у вагон хуткага цягніка Львоў—Ленінград ці Адэса—Рыга, якія прыпыняліся ў Гарыні на лічаныя хвіліны.

Што рабілася ля двух акенцаў білетных кас — цяжка перадаць словамі... Менш за ўсё паварочваецца язык назваць гэты ўзбуджаны натоўп чаргой у больш-менш звыклым разуменні слова. Тут, калі нагадаць несмяротнага Гогаля, не хапіла б ніякіх фарбаў для самага вытанчанага жывапісца... Так, спроба набыць білет нагадвала сапраўдны штурм касы! Асаду! Пытанне жыцця і смерці. Канешне, вопыт паводзін у падобных экстрэмальных сітуацыях быў. Аднак занадта ўжо непараўнальныя маштабы, каб цалкам не залежаць тут, у гэтым людскім віры, ад выпадку ці ўдачы... Здаралася, выбіраліся адтуль са зламанай рабрынай ці вывіхнутай далоняй, выцягвалі таксама на свежае паветра непрытомных...

Здаралася і так, што па некалькі сутак даводзілася кантавацца ў той Гарыні, каб сесці на цягнік. Цяпер, іншым разам узгадваючы тыя "асадныя" дзянькі ля чыгункі, думаю: можа, дарэмна тое, што мы, юнакі, гэтак апантана дамагаліся свайго? Можа, лепей было б тады адразу вярнуцца дадому? Да сваёй яшчэ чысцюткай ракі, на якой, на кожным кіламетры, буруніліся пясчаныя гаючыя пляжы?..

Што ж, не новае пытанне. Дакладнага адказу на яго, здаецца, яшчэ ніхто не даў. Не бяруся пакуль і я сцвярджаць сваё меркаванне на гэты конт...

Чарга, чарга... Некаму, магчыма, падасца, што я спрабую засяродзіцца на нечым другасным, дробязным, учарашнім. Ну сапраўды, ці варта сёння, калі ад усялякіх навін, з'яў і падзей штовечар да чырвані распаляецца тэлескрыня, дарэшты псаваць настрой такім ганебным анахранізмам, як чарга?

Апошні раз чарга ва ўсёй сваёй прыніжальна-нахабнай праяве нагадала пра сябе напрыканцы 80-х, падчас сумнавядомай антыалкагольнай кампаніі, калі наш апошні генсек Гарбачоў вырашыў увекавечыць сваё імя ў гісторыі спробай выкаранення п'янства і стварэння грамадства напітушчых. Задумка, што й казаць, была высакародная, аднак метады і спосабы яе ажыццяўлення — старыя і заганныя. Карацей, усё зноў звялося да жорсткага абмежавання дзяржгандлю спіртным, попыт на які ніколі не падаў у айчынных шыротах. Давялося нават увесці талоны. Аднак талоны — часовая мера. Наверсе разумелі, што без стратэгіі тут не абысціся... І стратэгічнае рашэнне было знойдзена: вынішчэнне вінаграднікаў Малдовы і Крыма, Каўказа і Сярэдняй Азіі. Адтуль, аказваецца, усе беды і напасці. Аналагічна таму, як знішчаецца наркасыравіна — каноплі і макавая саломка. Сказана — зроблена. Што-што, а знішчаць умеем. Вынікі сёння вядомыя. Засталіся без танных вінаградных він і сокаў. Эйфарыя барацьбы з "зялёным зміем" прайшла, суполкі цвярозасці зліквідаваліся, як картачныя дамкі. Надумаліся па тэлебачанні паказаць "цвярозыя" вяселлі, каб дарэшты справакаваць неблагую, у сутнасці, ідэю. Але крыж на ёй паставілі пасля таго, як паўсюдна па краіне пачаліся масавыя атручэнні самагонкай, якую гналі з сапсаванай таматнай пасты і непрыгодных для ўжытку тартоў, з нітратна-радыяцыйнай бульбы і буракоў, што раскопвалі ў могільніках на поўдні рэспублікі, проста — з памыяў, куды дабаўлялі птушыны памёт, тытунь, хімічныя рэчывы...

Пазней дзікунскія спосабы самавынішчэння былі заменены на "цывілізаваныя" — як паганыя грыбы ў засушлівае лета пачалі расці на вуліцах нашых гарадоў і мястэчак "камкі", начыненыя атрутай і рознай непатрэбшчынай.

Чэргі зніклі. Але не таму, што ўсяго раптам з'явілася ўдосталь... Так. Тое-сёе з'явілася. Але тое, што вабіць вока абсалютнай большасці гараджан (я ўжо не кажу пра гаротных вяскоўцаў!) у камерцыйных крамах, шапіках і на шматлікіх вулічных латках, недасягальнае сваімі касмічнымі цэнамі. Карацей, дэбет не сыходзіцца з крэдытам.

Цяпер я не ведаю, што лепей: выстаяць, як калісьці, у чарзе і набыць неабходнае, не думаючы пра грошы, ці штодня затрымліваць позірк на залацістых россыпах цытрусавых і, саромеючыся сваёй неплацёжаздольнасці, паступова прывыкаць да думкі, што, як казаў вялікі камбінатар: "Мы лишние на этом празднике жизни?"..

Адно ўсцешна, што, як сказана, не хлебам адзіным... А калі так, я гатовы зноў з галавой кінуцца ў вірлівую чаргу, гатовы прайсці яе ад канца да пачатку, каб атрымаць нават на яе кампенсацыю хоць крапельку таго духоўнага наталення, як некалі ў маленстве, калі ў сценах старэнькага кінатэатра "Зара" ўпершыню адкрываў для сябе чароўны свет мастацтва, далучаўся да таямнічых скарбаў сусветнай культуры. Ды будуць бласлаўлёныя тыя часы! Ведаю, што такая чарга ўжо ўзнікла ў нашым знямоглым ад духоўнай дыстрафіі грамадстве. Важна як мага хутчэй далучыцца да яе. Бо яшчэ Гогаль прарочыў: "Спяшайцеся... Потым не падымеце".

Не варта заклікаць да гэтага іншых. Пачынаць трэба з сябе. Важна ўсвядоміць, што не за вуглом там недзе, а менавіта з мяне пачынаецца чарга да выратавання душы.

**Уладзімір ГЛУШАКОЎ**

ПАМЯЦЬ

# Не вярнуць апаленыя пялёсткі...

## ДА 80-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Аляксея КОРШАКА

Верш, які даўно стаў хрэстаматыйным:

***От і ўсё,***
***За светлы край азёрны,***
***За вясну ў палёх,***
***Неба сіняе ў кроплях зорных***
***Я навек тут лёг.***

Напісаны Аляксеем Коршакам, называецца "Паранены". Напісаны яшчэ ў 1942 годзе, калі паэт жыў у акупіраваным немцамі Капылі. Верш-прадчуванне: А. Коршака прызавуць у армію ў 1944 годзе і ён загіне 27 лютага 1945 ва Усходняй Прусіі пад паселішчам Ласлейндорф. А нарадзіўся А. Коршак 22 лютага 1920-га.

Пасля смерці паэта застаўся рукапіс кнігі "Пялёсткі". Пад назвай "Апаленыя пялёсткі" яна выйшла ў 1963 годзе. Ёсць яшчэ адна кніжка "Апаленыя пялёсткі", датаваная 1993 годам (укладанне Д. Гальпер). У ёй змешчаны не толькі вершы, а і ўспаміны пра А. Коршака, у тым ліку і яго студэнцкага сябра Міколы Аўрамчыка. Ён жа напісаў і прадмову "Бярэмя песень". Вершы А. Коршака змешчаны таксама ў калектыўных зборніках "Мы іх не забудзем" (1949), "Крывёю сэрца" (1967) і іншых, знайшлося лепшым з іх месца і ў "Анталогіі беларускай паэзіі".

А першыя свае творы А. Коршак апублікаваў у 1938 годзе, дарэчы, на старонках газеты "Літаратура і мастацтва". Перад вайной паспеў скончыць Капыльскую сярэднюю школу (нарадзіўся ў вёсцы Вуглы Капыльскага раёна), павучыцца на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага.

Напісаў паэт не шмат, але гэта тое, што з цягам часу не страчвае сваёй прыцягальнай сілы. І няхай А. Коршаку часам бракуе майстэрства, напісанае ім прываблівае сваёй чысцінёй, свежасцю. Асабліва гэта характэрна для даваенных вершаў, а яны ў творчай спадчыне А. Коршака займаюць найбольш месца. У вайну не асабліва пісалася. Жывучы ў Капылі, мусіў некалькі разоў прымаць захады, каб не вывезлі на працу ў Нямеччыну, а пайшоў у партызанскі атрад, іншых турбот ставала. Тое ж самае было і ў франтавых умовах.

Але ён не мог не пісаць, бо ў паэзіі бачыў прызванне, паэзіяй жыў. Жыў усё ж і марай, што калі-небудзь удасца вярнуцца на Бацькаўшчыну, каб "паслухаць бы ізноў акорды родных хвой". Прынамсі, такім радком заканчваецца адзін з яго апошніх вершаў.

**А. М.**

# Шукаў і знаходзіў

Імя Тэадора Нарбута варта таго, каб яго часцей прыгадваць. Менавіта ён мае непасрэднае дачыненне да шмат чаго, што дапамагае лепш ведаць гісторыю сваёй краіны і ганарыцца ёю. А нарадзіўся Т. Нарбут 215 гадоў таму ў маёнтку Шаўры Лідскага павета (цяпер Воранаўскі раён). Адукацыю атрымліваў у Віленскім універсітэце і ў Пецярбургскім кадэцкім корпусе. Быў ваенным інжынерам, меў званне капітана. Але служыў нядоўга. У дваццацівасьмігадовым узросце развітаўся з войскам, вярнуўся на радзіму.

Сваё жыццё (памёр у 1864 годзе) Т. Нарбут прысвяціў даследаванню гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Шмат займаўся вывучэннем курганоў і па сутнасці першым на Беларусі прыйшоў да высновы, што курганы — гэта месцы старажытных пахаванняў. Т. Нарбут абследаваў Лідскі замак, упершыню апублікаваў славутую "Хроніку Быхаўца". Але ці не галоўная заслуга Т. Нарбута ў тым, што ён напісаў "Гісторыю літоўскага народа" ў дзевяці тамах, якая ахоплівае падзеі да 1569 года. І ніхто іншы, а Т. Нарбут быў перакананы, што перыяд ВКЛ — залаты перыяд у гісторыі Беларусі і Літвы.

# Юрый ВАЙХАНСКІ: "Я чую гукі..."

***Ён нарадзіўся ў Расіі. Жыве ў Мінску. У 80-ым годзе закончыў эканамічнае аддзяленне Інстытута народнай гаспадаркі. Але прагматыкам не стаў. Для душы складае музыку на вершы сусветна вядомых паэтаў, песні выконвае сам. На нядаўна выпушчаным кампакт-дыску "Час душы" музыкай і голасам Юрыя ВАЙХАНСКАГА "агучана" паэзія Гіпіус, Блока, Кіплінга, Галчынскага... Класічная гітара, акадэмічныя вершаваныя радкі, не менш вытанчанае і ўзнёслае выкананне. Чарговы дзень народзін спрадвечнага мастацтва...***

**— Спадар Юрый, у вас няма музычнай адукацыі... З чаго ўсё пачалося?**

— Школьная забаўка, гэткае адхланне ў вольны час, перарасла ў жыццёва важнае жаданне з дапамогай музыкі і вершаў адказваць сабе (дый не толькі) на шэраг самых розных пытанняў. А яны спрадвеку ўсё тыя ж — існасць любові, веры і кахання, чалавечага прызначэння... Дапамаглі творчыя стасункі са старэйшым братам, які сур'ёзна займаўся і займаецца бардаўскай песняй. Так і атрымалася, што больш дваццаці год пішу песні на вершы прызнаных у свеце паэтаў.

**— Як вызначаеце жанр, у якім працуеце?**

— Натуральна, гэта не аўтарская песня, як, скажам, у Барыса... Не хацелася б пра жанры, бо насамрэч усё шырэй і іншым разам па-замежамі нейкіх кананічных рамак... Але калі канкрэтызаваць, то, думаю, усё зводзіцца да аднаго — ствараю п а э т ы ч н ы я песні. Мы часта чуем: "песня на словы...", "песня на тэкст..." Але вельмі рэдка гэты тэкст з'яўляецца набыткам сапраўднай паэзіі. А менавіта яна (не "словы", не "тэкст"!) прымушае душу працаваць. Праца гэтая пакутлівая, але заўжды плённая і ачышчальная... Пастаянна імкнуся да таго, каб музыка мая стала арганічнай часткай верша, натуральным фонам для чарговага паэтычнага адкрыцця. Яшчэ Грыг у свой час даводзіў, што мэта кампазітара — не проста пакласці вершы на музыку, а стварыць музыку менавіта такой, каб адпавядала яна самым патаемным і запаветным марам паэта.

**— Сапраўдная паэзія для вас — гэта...**

— ...сродак ачышчэння чалавечых пачуццяў. І ўсё тут зразумела і раскладзена па паліцах яшчэ з Арыстоцелевых часін. Паэзія філасафічней за гісторыю. Момант пажадлівага, пачуццёвага перажывання — момант сапраўднай ісціны. І ўрэшце, не мной сказана, што мастацтва толькі для таго нам і дадзена, каб не памерці духоўна. Сапраўднае, неангажаванае мастацтва. Таму не магу прымусіць сябе пісаць музыку на вершы сяброў ці тых аўтараў, ад якіх у пэўнай ступені залежыць мая творчая будучыня...

**— Хто з вялікіх натхніў?**

— Блок агаломшыў. Толькі да канца дасведчаны можа сцвярджаць, што "музычны атам" — самы дасканалы ў свеце. Блок "слухае" эпоху, нясе ў сабе яе рытм, пульс ягонай творчасці гучыць у суладдзі з хістаннем планетаў... Блок памірае як паэт пасля паэмы "Дванаццаць", калі абвяшчае з горыччу: "Я перастаў чуць гукі!"

...Мяне вельмі цікавіць эстэтыка футурызму ва ўсіх яго праявах. Пастарнак, Цвятаева, Бродскі, Таркоўскі... А наступны дыск цалкам будзе прысвечаны паэтычнай філасофіі сярэбранага веку. Гумілёў, Блок, Гіпіус... Загадкавы перыяд. Акрэслены індывідуалізм. Як не хапае гэтага нашым сучаснікам!



**— Вашы выступленні на канцэртах у Еўропе анансаваліся як "канцэрты беларускага шансону". Але вы не спяваеце па-беларуску...**

— Так. Спявак з Беларусі, таму й шансон "беларускі". Не падумайце, што я гэткі касмапаліт. Урэшце, не мы выбіраем вершы, яны выбіраюць нас. Верш — спалучэнне гукаў. І рускі ці, скажам, нямецкі для мяне пакуль бліжэй. У немцаў, дарэчы, ёсць цудоўная прымаўка: "Чый хлеб жую, таго і песенькі спяваю". Дык вось, Германія мяне не корміць, але заўжды там выступаю па-нямецку, бо раз і назаўжды ўпадабаў калісьці паэзію Рыльке... Цікаўлюся беларускай паэзіяй, паважаю беларускую культуру, вялікую і самабытную, але яшчэ вельмі кепска валодаю мовай.

**— Дарэчы, а за кошт каго-чаго корміцеся?**

— Калі не стае грошай на выпуск касеты ці дыска, успамінаю, што я эканаміст па адукацыі. Займаюся разлікамі крэдытнага забеспячэння дзейнасці знаёмых бізнесоўцаў. Сяджу за камputарам, але думаю пра вершы і гукі. Выходжу з часовай прадпрымальніцкай гульні — запісваю касету. Мэта мастацтва — ачышчэнне пачуццяў, мэта бізнесу — атрыманне прыбытку. Сяк-так, і не без выдаткаў, але ж сумяшчаюцца два гэтыя віды жыццядзейнасці. У творчасць я ўкладваю больш, чым атрымліваю. Што для мяне важней — бізнес ці мастацтва, думаю, тлумачыць не трэба.

**— Кола вашых слухачоў?**

— У першую чаргу гэта людзі, якія любяць сапраўдную паэзію. Адносна нядаўна на прэзентацыю майго кампакт-дыска "Час душы" сабралася ў кавярні каля сарака чалавек. Прыязная атмасфера аднадумцаў. За вечар купілі пару кампактаў. І гэта цудоўна, бо каштуе ён па беларускіх мерках далёка не танна — за пяць мільёнаў. Не шкадую, бо і вонкава гэты дыск пастараўся зрабіць па самых высокіх еўрапейскіх стандартах...

**— Знаёмых бізнесоўцаў на вечарыне не было?**

— Ды ім дыхнуць няма калі. Гэта сумленныя людзі, шчырыя ў сваім наіўным жаданні зрабіць сваё прадпрымальніцтва самадастатковым і агульнакарысным. Але ці рэальна гэта на сёння?! Заканадаўчая казуістыка, штрафы і падаткі — перашкода непераадольная. Таму й няма ў нас сапраўдных спонсараў і мецэнатаў, таму і не ўкладвае ніхто прыватных грошай у мастацтва...

**Гутарыў Яўген РАГІН**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

### РАМПА

Гэты тэатр на Валадарскага, 5 яшчэ, відаць, доўга будуць называць па завядзёнцы Рускім. Але з новага года (хаця ў студзеньскіх і лютаўскіх афішах гэтае слова не было прыбрана) афіцыйная назва такая — Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Горкага. Рашэнне абсалютна лагічнае, бо "нацыянальны... рускі" ўспрымаецца, прынамсі, недарэчна. Але разам з гэтым і "Нацыянальны ... імя Горкага" не зусім стасуецца. Тым не менш у абвестках будзем пакуль называць яго як Горкаўскі тэатр.

**"Вольная сцэна"**

*2 сакавіка* — "Апошняя пастараль"

*3* — "Барбара Радзівіл"

*4 і 5* — пасля некаторага перапынку "Чорны квадрат"

**Горкаўскі тэатр**

*1 сакавіка* — "Дзікунка"

*2* — "Букееў і кампанія"

*3* — "Прыцемкам"

*4* — "Вольны шлюб"

*5* — "Раскіданае гняздо"

### ЭКРАН

**Беларускае тэлебачанне**

Калісьці творчае аб'яднанне літаратурна-драматычных перадач на БТ мела 16 эфірных гадзін. Цяпер — толькі 8. Цікава, што будзе на другім айчынным тэлеканале.

*26 лютага, субота, 9.10* — "Кнігазбор". Вядучая Наталля Кузміч прадставіць перавыданне рамана Івана Мележа "Завеі, снежань", кнігу "Мама. Споведзь сына" Уладзіміра Ліпскага, зборнік "Люстэрка" Ніны Пракопчык.

*27 лютага, нядзеля, 11.20* — "Беларускі дом" і вядучы гэтай праграмы Сяргей Тарасаў прапануе наступныя сюжэты: гістарычнае падарожжа па Давыд-Гарадку і нарысы пра паэта Міколу Ждановіча з Добруша, пра светлагорскага народнага майстра вырабаў з бяросты Уладзіміра Кнышэвіча і пра рэчыцкага мастака Віктара Асіпенку.

*1 сакавіка, серада, 18.00 і 2 сакавіка, чацвер, 18.00* — першая і другая часткі перадачы "Мастацкія дынастыі" аб адмысловай Рэспубліканскай выставе Саюза мастакоў. Прадстаўнікі амаль 30-ці дынастый расказуць пра сябе, сваякоў і пераемнасць праз мастацтва.

*5 сакавіка, нядзеля, 10.40* — "Арт-клуб". Гэты выпуск прысвячаецца памяці народнага артыста РБ Яўгена Шыпілы.

### КАНЦЭРТЫ

*26 лютага* — у к/з "Мінск" Міхал Анемпадыстаў, Лявон Вольскі, Кася Камоцкая ды іншыя з культавым "Народным альбомам". Дарэчы, гэта першае за два гады існавання праекта публічнае і масавае прадстаўленне ў Беларусі. Дагэтуль, праўда, былі дзве акцыі, але ўваход тады быў пераважна па "запрашальніках". У адрозненне ад папярэдніх канцэртаў "Народны альбом" цалкам прагучыць "жыўцом".

*3 сакавіка* — у Доме афіцэраў з праграмай "Падарункі да 8 Сакавіка" выступяць Аляксей Шадзько і гурт "Сястра".

### ВЫСТАВЫ

*29 лютага а 17 гадзіне* ў Нацыянальнай мастацкай галерэі адбудзецца адкрыццё выставы жывапісца Кастуся Качана.

*2 сакавіка а 17 гадзіне* ў Музеі сучаснага мастацтва Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва прадставіць экспазіцыю "Час белых ценяў". Выстава прысвечана 270-годдзю І. Храптовіча.

*3 сакавіка а 17 гадзіне* ў Нацыянальным мастацкім музеі адбудзецца адкрыццё выставы "Літаратурныя героі ў кніжнай графіцы і парцэляне Расіі" з фондаў музея.

# ПАРОДЫІ

## Уладзімір МАРУК

### І, і, і...

Як удзячны табе я,
Што іду і іду.

**М. ПАЗНЯКОЎ**

***Іду і іду я.
А чаго і куды?
Нада мною
збыткуюць
І ішак, і індык.***

***І імпэту не маю,
Ды вяду караван,
На вярблюдзе мінаю
І Ірак, і Іран.***

***І не можа спалохаць
І ні вар, і ні вір,
І каштую самохаць
І ірыс, і інжыр.***

***І інтым на закуску,
І ікорка, і гусь...
І давалі мне буську
Іудзей і індус.***

***Іракезы і інкі —
І на іх я зважаў,
І ў якойсь італійкі
І ікаў, і іржаў.***

***З ітэльменамі зіму
Мы ганялі чаі...
І іду, і ісціму,
Покуль скончацца "і".***

### Вершастихи

Я збавіцель
твой аднойчы,
А заўжды — "палач"...

**А. КУДЛАСЕВІЧ**

***Хата мая з краю.
Там я шчы вару,
Вершы там ствараю,
А парой — "творю".***

***Можа, ад ляноты,
Як настрой благі,
Не купляю боты,
Лепей — "сапоги".***

***Смела гляну ўгору,
Быццам незнарок:
Столь бялела ўчора,
Сёння — "потолок".***

***А зірну пад ногі,
Як з-пад хмар арол:
Дзе была падлога —
Непамыты "пол".***

***Нехта есць са смакам
Костку ля бяроз.
Гэта ж мой сабака,
Злосны-злосны "пёс".***

***Дзесьці сярод ночы
Мэкае каза.
Што не бачаць вочы —
Ведаюць "глаза".***

***Я такі не першы
У наш час ліхі:
Днём пішу я вершы,
А ўначы "стихи".***

## "Закон аб мовах — вынікі і перспектывы"

ТБМ імя Францішка Скарыны разам з Саюзам беларускіх пісьменнікаў праводзіць навукова-практычную канферэнцыю "Закон аб мовах — вынікі і перспектывы", якая адбудзецца **26 лютага** ў Доме літаратара.

**Рэгістрацыя — з 9 да 10 гадзін.**

**Праца канферэнцыі — з 10 да 17 гадзін.**

*У праграме — выступленні вядомых беларускіх мовазнаўцаў, пісьменнікаў, юрыстаў і лінгвістаў.*

*У перапынках — прэзентацыя кніг М. Скоблы, К. Тарасава, У. Арлова, Г. Сагановіча.*




ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-81[illegible]**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 24.02.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 967

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12